Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

**БЕЛАРУСЬ** № 9 (537) ВЕРАСЕНЬ 1983 г.

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1930 г.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.

## У НУМАРЫ:



НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: на арэне цырка — «Песня ўраджаю». У цэнтры — заслужаныя артысты БССР Аляксандр Варанецкі і Фёдар Гулевіч.

Фота А. ЛАБАДЫ.

Галоўны рэдактар А. А. ШАБАЛІН.

Рэдкалегія: Я. М. БАБОСАЎ, Т. М. БОНДАР (адказны сакратар), Вера ВЯРБА (Г. П. САКАЛОВА), М. П. ГРОДНЕЎ, М. І. КАЛАЧЫНСКІ, І. А. КАЛЮТА, У. С. КАРАТКЕВІЧ, А. М. КАШКУРЭВІЧ, А. А. ЛОЙКА, А. І. МАЛЬДЗІС, Ю. У. СЕМЯНЯКА, К. Г. ЦІХАНОВІЧ (мастацкі рэдактар), Г. У. ШЫЛОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), М. М. ЯРОМЕНКА.

Карэктар М. У. ВАСІЛЕЎСКАЯ. Тэхнічны рэдактар Г. С. ФАСЬКЕВІЧ.

Афармленне М. М. СЕЛЕШЧУКА.

Журнал «Беларусь» на белорусском языке.

Здадзена ў набор 12.07.83. Падпісана да друку 15.08.83. АТ 08248. Фармат 70×108¹/₈. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 13 376 экз. Зак. 381.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск-5, вуліца Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, камуністычнай маралі, нарысаў, культуры — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск-41, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

© «Беларусь», 1983 г.



**За радком Харчовай праграмы СССР**

# У НОВАЙ ДУБРОЎЦЫ

**«ПРАДОЎЖЫЦЬ ПАСЛЯДОЎНЫ ПЕРАВОД ГАДОЎЛІ І АДКОРМУ БУЙНОЙ РАГАТАЙ ЖЫВЁЛЫ Ў КАЛГАСАХ, САЎГАСАХ І МІЖГАСПАДАРЧЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ НА ПРАМЫСЛОВУЮ АСНОВУ».**

(З Харчовай праграмы СССР)



**1. Больш як сорак сямей работнікаў комплексу жывуць у добраўпарадкаваных кватэрах Дуброўкі. Сярод іх Віктар і Соф'я Зуеўскія. Яны з сынам Дзімам прыехалі сюды працаваць з Мінска. Соф'я — аператар па адкорму маладняку, сакратар камсамольскай арганізацыі цэха, Віктар Зуеўскі — аператар кармацэха.**

**2. Ідзе «зялёнае жніво».**

**3. Перадавое звяно па нарыхтоўцы кармоў, якое ўзначальвае член парткома саўгаса, кавалер ордэнаў Кастрычніцкай Рэвалюцыі і Працоўнага Чырвонага Сцяга Мікалай Аляксандравіч Кірыльчык (у цэнтры).**

**4. Ветаператар Ева Конар.**

**5. Тут паўстануць сянажныя вежы.**

**6. Раздача кармоў аўтаматызавана. На здымку: аператар кармацэха А. Крэпскі (злева) і слесар Г. Агейчык ля пульта кіравання.**



Буйным пастаўшчыком ялавічыны ў хуткім часе стане жывёлагадоўчы комплекс, збудаваны ў саўгасе «Чырвонагвардзейскі» Пухавіцкага раёна. Тут аднначасова будзе адкормлівацца 17 тысяч галоў.

На прадпрыемстве выкарыстаны ўсе выгоды спецыялізацыі і кааперацыі. Гаспадаркі Пухавіцкага, Чэрвеньскага і Уздзенскага раёнаў перадаюць сюды 40—50-кілаграмовых цялят, і іх інтэнсіўна адкормліваюць трынаццаць месяцаў, пакуль кожная жывёліна не дасягне пяці цэнтнераў. Частку атрыманых ад рэалізацыі жывёлы прыбыткаў прадпрыемства пералічвае на рахунак калгасаў і саўгасаў, якія пастаўляюць на комплекс маладняк.

Догляд і кармленне жывёлы ва ўсіх трох блоках механізаваны — транспарцёрамі, самакармушкамі, механічнымі мяшалкамі, помпамі... Увесь комплекс абслугоўвае 70 чалавек. Прадукцыйнасць працы тут прыкладна ў чатыры разы вышэйшая, чым на звычайных фермах.

Цяпер на комплексе знаходзяцца на адкорме 9 тысяч бычкоў. Жывёлаводы дамагліся неблагой сярэднесутачнай прыбаўкі маладняку ў вазе — больш чым па 730 грамаў.

Будаўнікі ўзвялі на былой пустцы і жылы гарадок і хораша назвалі яго — Дуброўка. Сярод добраўпарадкаваных жылых катэджаў вылучаюцца дзіцячы сад, інтэрнат. Неўзабаве вырастуць гандлёвы цэнтр і Дом культуры.

**А. МІКАЛАЕЎ.**

Фота аўтара.







**Роздум пісьменніка**

Анатоль КУДРАВЕЦ

# МІР — ЗЯМЛІ, МІР — ЗЯМЛЯНАМ

Ніводнае стагоддзе не ставіла так балюча і перад усімі адно і тое ж пытанне і гэтак катэгарычна не патрабавала адказу на яго, як гэта зрабіла нашае стагоддзе — дваццатае. І ніколі лёс цывілізацыі і яе калыскі — Зямлі не быў у такой залежнасці ад адказу на гэтае пытанне.

Лёс цывілізацыі, лёс чалавецтва, лёс кожнага чалавека.

Пытанне гэтае — пытанне вайны і міру. Войны ішлі разам з чалавецтвам, але сёння гаворка ідзе пра вайну тэрмаядзерную, пасля якой — хто ведае? — што жывое застанецца на Зямлі? І ці застанецца ўвогуле? Гаворка пра такую перспектыву для Зямлі — даўно ўжо не рыторыка. Хірасіма і Нагасакі былі трыццаць восем гадоў таму назад, а людзі, «засвечаныя» тымі амерыканскімі атамнымі свечкамі, паміраюць і сёння. І, як сцвярджае медыцына і як пацвярджае сумная жыццёвая ісціна,— працэс гэты не спыняецца.

І таму пытанне разрадкі, пытанне ракетна-ядзернага раззбраення — не нешта альтэрнатыўнае, а адзіная цвярозая мера, нарэшце — неабходнасць.

Неабходнасць у імя вышэйшага — Жыцця.

У свой час аўтару гэтых радкоў давялося ўдзельнічаць у рабоце XXXIV сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Было гэта ў 1979 годзе. Але ўжо тады, на той сесіі, пытанне абмежавання ядзерных узбраенняў абмяркоўвалася чалавечым супольніцтвам з усёй вастрынёй. Якраз на той сесіі міністр замежных спраў СССР А. А. Грамыка прама і недвухсэнсава папярэджваў аматараў жангліраваць атамнымі і вадароднымі боегалоўкамі, што розыгрышы ваенных сцэнарыяў, асабліва, калі іх пачынаюць разыгрываць ваенныя людзі і высокіх рангаў,— не бяскрыўдныя дзіцячыя забаўкі. І яны могуць кепска скончыцца для саміх ігракоў.

Чалавецтва жыло сваім жыццём, і на яго фоне ішла работа сесіі. Але ўжо тады не здаваліся выпадковымі многія негатыўныя факты, якія дрэнна ўпісваліся ў практыку нармальных міждзяржаўных адносін. Вераломнае затрыманне савецкага рэйсавага самалёта ў аэрапорце імя Кенэдзі і цынічная шуміха амерыканскай прэсы ў сувязі з гэтым. Лютая антыкубінская і антысавецкая свістапляска, іранскія падзеі. За гэтымі і многімі іншымі фактамі праглядвалася скіраванасць амерыканскіх «ястрабаў» на пагаршэнне амерыкана-савецкіх адносін, на пагар-

---

Міхаіл САЛЕНІК,
старшыня калгаса
«Новае жыццё»
Нясвіжскага
раёна

# прыгажосць людская

У чым яна, гэтая прыгажосць? Скажу адразу: у пачуцці сучаснага. Кожнаму, хто б ён ні быў, трэба імкнуцца быць сучасным. А гэта, найперш, лічу я, дбаць пра заўтрашні дзень. Вось чаму я цаню ў працаўніку найпершыя якасці сучасніка: сумленнасць і працавітасць, дбайнасць і абавязковасць. Сказаў — зрабіў. І не так, як, скажам, учора, а як патрабуюць наш сённяшні, наш заўтрашні дзень.

Калі сыходзіць з развіцця і дасягненняў нашага калгаса, то можна сказаць, што зроблена шмат чаго добрага. Гаспадарка на сённяшні дзень заможная. Збіраем багатыя ўраджаі, маем высокапрадукцыйны грамадскі статак. І калгаснікі забяспечаны ўсім неабходным. Карацей, ёсць чым пахваліцца, ёсць што паказаць людзям. Здавалася б, вырашаны многія гаспадарчыя праблемы. Аднак, калі зыходзіць з сучасных мерак, кожнаму трэба раўняцца на больш высокі ўзровень сваёй кваліфікацыі.

Кожны раз, калі мне даводзіцца сустракацца з Васілём Твароўскім — ён працуе ў нашым калгасе механізатарам,— я любуюся яго натхнёным тварам і... рукамі. Яны шурпатыя і дужыя ад пастаяннай работы з металам, а яшчэ — ад сонца і ветру. Пятнаццаць гадоў, як ён механізатар — увесь час на зямлі: угнойвае глебу, рыхтуе яе для сяўбы, сее, убірае ўраджай. І другі год як узначальвае звяно, у распараджэнні якога з красавіка і да снежня — 450 гектараў ворнай зямлі. Звяно цалкам апрацоўвае іх і збірае высокія ўраджаі. А ў звяне 6 чалавек. На кожнага амаль па 80 гектараў!

Люблю назіраць, як працуюць члены звяна — зладжана, прыгожа. Ды гэта ж даўно вядома — кожны чалавек прыгожы, калі яго душа і рукі заняты справай, калі позірк уважлівы і руплівы, калі рухі дакладныя і выразныя, калі да зямлі ставіцца з любоўю, з адданасцю. Люблю сапраўдных прафесіяналаў, майстроў сваёй справы. Не мае значэння, малая яна, гэтая справа, або вялікая.

І вось мы сёлета стварылі яшчэ адно звяно. Узначаліў яго паважаны ўсімі чалавек, вопытны механізатар Міхаіл Калола. Новае звяно — з пяці чалавек. І на кожнага члена звяна — амаль па сто гектараў ворнай зямлі!

Стварыць два звяны з нашых высокакваліфікаваных механізатараў — было не проста жаданнем. Сёння — гэта аб'ектыўная неабходнасць. «Мы ў сваім грамадскім развіцці падышлі цяпер да такога гістарычнага рубяжа,— сказаў на чэрвеньскім (1983 года) Пленуме ЦК КПСС таварыш Ю. У. Андропаў,— калі не толькі

шэнне клімату ва ўсім свеце. І гэтай тэндэнцыі адміністрацыя Картэра дала дзяржаўнае благаславенне.

Іранская рэвалюцыя з'явілася фармальным повадам для таго, каб караблі 6-га амерыканскага флоту ўвайшлі ў воды Персідскага заліва «для абароны амерыканскіх жыццёвых інтарэсаў». Яны застаюцца там і цяпер. Урэшце, не было б рэвалюцыі ў Іране — знайшлася б іншая зачэпка...

Пасля Картэра гаспадаром Белага дома ў Штатах стаў Рэйган. Гэта ўжо пры ім былі Мальвінскі крызіс, потым — ліванскія падзеі...

Тэндэнцыя адміністрацыі Картэра пры Рэйгане набыла характар адкрыта сфармуляванай дзяржаўнай палітыкі самай буйной імперыялістычнай дзяржавы і яе саюзнікаў. Крыжовы паход супраць камунізму, адкрыта абвешчаны Рэйганам, стаў рэальнасцю канкрэтных дзеянняў.

Мне даволі часта згадваецца даўняя, з часу знаходжання ў Штатах, сустрэча — адна з многіх у тыя дні. Было гэта ў Нью-Йорку, на адной з яго вуліц. Мы з пісьменнікам Эдуардам Скобелевым стаялі, здаецца, каля ўвахода ў адзін з кінатэатраў, калі да нас, пачуўшы рускую гаворку, падышла жанчына. «Вы з Савецкага Саюза?» — былі яе першыя словы-пытанне... Яна расказала, што не раз была ў Еўропе — Англіі, Францыі, Італіі, а вось у Савецкім Саюзе — яшчэ ніводнага разу. А хацела б пабываць. Асабліва ёй хацелася пабываць у Ленінградзе, наведаць Эрмітаж. «О, Эрмітаж! Там столькі такога!» — І здзіўленне, і захапленне ў голасе.

Гэта была кароценькая сустрэча і кароценькая гаворка, нічога незвычайнага, нічога асаблівага. Але мне яна чамусьці запомнілася. Можа, якраз вось гэтай звычайнасцю, будзённасцю, свойскасцю. Была яна, як у людзей, якія добра ведаюць адзін другога, але якія даўно не бачыліся. А тут вось нечаканы выпадак — сустрэліся. Разгаварыліся...

А можа, яшчэ і таму, што было гэта ў дні дзікай антысавецкай газетна-, тэле-, радыёістэрыі, калі здавалася, што людзі толькі тое і робяць, што сядзяць ля прыёмнікаў, тэлевізараў, трымаюць у руках газеты. І толькі гэтым адным жывуць, адным гэтым сытыя. Аказваецца, не. Аказваецца, тыя ж самыя амерыканцы ў гэты самы час могуць думаць зусім пра іншае. Прапаганда прапагандай, а чалавек — ёсць чалавек...

Некалі ў пяцідзесятыя гады сумнай славы амерыканец Джон Фостэр Далес змагаўся за стратэгію балансавання на мяжы вайны. Балансаваў, пакуль гісторыя, падначальваючыся голасу рэальнасці, не выкінула яго з сядла. У 80-я гады Рэйган заклікае балансаваць ужо на мяжы ядзернай вайны. На першым этапе — «абмежаванай» ядзернай вайны. Маецца на ўвазе абмежаванай еўрапейскім кантынентам. А мы, маўляў, тут, у Амерыцы, паспрабуем адседзецца. Не выйдзе!

Чалавецтву ёсць што сказаць амерыканскаму каўбою.

Ужо ў 1981 годзе даволі выразным стаў намер міжнародных сіл імперыялізму згарнуць палітыку разрадкі, скіраваць свет на новы віток гонкі ўзбраенняў. Знешнепалітычная праграма, прынятая XXVI з'ездам КПСС, прапанавала чалавецтву канкрэтны выбар на гэтым адказным раздарожжы. Мір і мірнае супрацоўніцтва, а не далейшае ўзбраенне і даўзбраенне!

Кожная новая мірная ініцыятыва Савецкага Саюза дае дадатковыя шансы для поспеху ў гэтым кірунку.

1983 год — год адказных рашэнняў. Ад іх у многім будзе залежаць цяпло і холад заўтрашняга міжнароднага клімату.

«Наша мэта — не проста прадухіленне вайной. Мы імкнёмся да карэннага аздараўлення міжнародных адносін, умацавання і развіцця ўсіх добрых пачынанняў у гэтых адносінах. Мы будзем дабівацца павагі суверэнных правоў дзяржаў і народаў, строгага захавання прынцыпаў міжнароднага права, якія імперыялізм усё часцей спрабуе адкінуць, растаптаць»,— сказаў у сваёй прамове на Пленуме ЦК КПСС 15 чэрвеня гэтага года Генеральны сакратар ЦК КПСС Ю. У. Андропаў.

**«Мне ў рукі лёс не шпагу даў, не лук,**
**А ўсю Зямлю, з арэнай — Млечным Шляхам.**
**Качу яе, падобную на мяч,**
**Ахопленую вадародным жахам,**
**Як хворую, загортваю ў кумач,**
**Сачу, каб не скрануў яе з арбіты**
**Заакіянскі ядавіты грыб»,—**

з трывожнай заклапочанасцю пісаў Аркадзь Куляшоў у шасцідзесятыя гады.

Васьмідзесятыя гады сталі яшчэ больш трывожнымі. Але разам з трывогай да многіх мільёнаў людзей добрай волі прыйшло адчуванне асабістай адказнасці за лёс планеты, на якой мы жывём, разуменне неабходнасці актыўнай барацьбы з ядзернай небяспекай.

---

наспелі, але і сталі непазбежнымі глыбокія якасныя змяненні ў прадукцыйных сілах і адпаведнае гэтаму ўдасканаленне вытворчых адносін».

Так, прыйшоў час арыентавацца на заўтрашні дзень, на будучыню. Дарэчы, я маю на ўвазе не тое, каб узарыць колькі такіх звенняў і ўсю ворную зямлю — а ў нас яе 3,5 тысячы гектараў — даручыць 35 механізатарам. На жаль, сёння нам такое яшчэ не пад сілу. Яшчэ не ўсе нашы механізатары дасягнулі высокага майстэрства, якім валодаюць Твароўскі, Калола і іх таварышы. Не ўсе паспяваюць і стараюцца вучыцца новаму, перадавому. Зямля... Яна ж жывая, чуйны і пяшчотны арганізм. Да яе трэба з душой. Вельмі адказныя задачы стаяць перад нашай сельскай гаспадаркай. А значыцца, і перад намі.

Сёння прыгажосць людскую бачу ў авалоданні вяршынямі прафесіі. Каб даручыць усю нашу ворную зямлю 35 спецыялістам, трэба, каб 35 механізатараў авалодалі менавіта вяршынямі сваіх прафесій.

Мы такога дасягнем абавязкова. І неўзабаве. На сённяшні дзень у нас адзінаццаць высокакваліфікаваных механізатараў. Адзінаццаць настаўнікаў. І кожны з іх перадае майстэрства сваім вучням. У калгасе пастаянна працуе школа перадавога вопыту. Многія нашы механізатары вучацца ў вядомых спецыялістаў раёна і вобласці.

Сёння з упэўненасцю магу сказаць, што неўзабаве — праз год-два — уся наша ворная зямля будзе падзелена на два масівы. У кожным — па 1750 гектараў. Яе будуць абрабляць 35 чалавек.

Трыццаць пяць заўтрашніх механізатараў — замест 140! — будуць вырошчваць у нашым калгасе збажыну, бульбу, лён. Урадлівасць палёў значна палепшыцца — кожны гектар дасць, скажам, не 30 цэнтнераў зерня, як цяпер, а сорак — сорак пяць і больш. І сабекошт сельскагаспадарчай прадукцыі значна знізіцца. І ўсё гэта — за кошт нашых агульных намаганняў: высокай узброенасці нашага машынна-трактарнага парка, дбайнага кіравання тымі глыбокімі якаснымі змяненнямі, якія штодзённа адбываюцца ў нашых прадукцыйных сілах. Дзеля гэтага і імкнёмся ўдасканаліць нашы вытворчыя адносіны. Ужо сёння можна залічваць у звяно брыгаднага падраду Мікалая Акуліка, Віталія Гадуна, Івана Касцюкевіча, Уладзіміра Драчуна, Васіля Цмулю, Сяргея Козіча... Штодзённа яны перавыконваюць норму ў два і больш разы. З будучай вясны ў нас будзе працаваць трэцяе звяно (амаль палова ворнай зямлі будзе абрабляцца па брыгаднаму падраду), і права ўвайсці ў новае звяно ўжо сёння заваявалі лепшыя з лепшых.

Чым жа, спытаецеся вы, будуць заняты тыя механізатары (а іх больш як сто чалавек), якія вызваляцца ад палявых работ? Вёска наша абнаўляецца. Мы ўжо маем на сённяшні дзень сто новых кватэр для калгаснікаў. І гэта толькі першыя крокі. Значыцца, патрэбны будуць будаўнікі. Не тыя, што прыязджаюць на пэўны час, а свае, калгасныя, майстры справы. Каб узвесці, скажам, дом у калгасе ці які іншы аб'ект адпавядаў усім запатрабаванням сучаснага дойлідства, усім патрабаванням сельскага працаўніка. Таму з людзей, якія не стануць майстрамі на палявых работах, будзем расціць майстроў-будаўнікоў.

Так плануем і ў іншых сферах вытворчасці (маецца на ўвазе той жа брыгадны падрад) — дзякуючы авалоданню вяршынямі прафесіі абнаўляць уклад калгаснага жыцця.

Высокая тэхнічная ўзброенасць гаспадаркі, памножаная на прафесійнае майстэрства людзей, дазволіць вызваліць, скажам, з палёў, з будаўніцтва значную колькасць працаўнікоў. Добра гэта ці не? На маю думку, добра. І па-сучасна-му. Бо ў нас яшчэ шмат нявырашаных праблем. Калгасу трэба пабудаваць унутрыгаспадарчыя дарогі, і някепска мець спецыялістаў у дарожнай справе. А дарог на тэрыторыі калгаса спатрэбіцца пракласці больш за сто кіламетраў. Трэба, каб у нас быў свой і асфальтавы завод. Колькі спатрэбіцца на гэтую справу людзей!

І яшчэ. Наш калгас няспынна развівае мяса-малочную жывёлагадоўлю. Колькасць пагалоўя расце. Расце і яго прадуктыўнасць. У праекце бачу новае сельскагаспадарчае збудаванне. У цэнтры — комплексы: свінагадоўлі і буйной рагатай жывёлы, побач — камбікормавы цэх. На комплексах і ў цэху ўсе працэсы будуць механізаваны. Паўстае пытанне: хто ж будзе кіраваць імі? Механізатары.

Высокакваліфікаваныя кадры спатрэбяцца на ўсіх участках: у паляводстве, жывёлагадоўлі, будаўніцтве... І гэта, лічу, заканамерна. Воблік нашага калгаснага ладу будзе і надалей вызначацца ўзроўнем развіцця яго вытворчых сіл, характарам і станам вытворчых адносін. Гэта дасць нам магчымасць яшчэ больш палепшыць наша жыццё і ісці наперад. І ад кожнага з нас, яго людской прыгажосці, дзе б ён ні працаваў, залежыць хуткасць нашай агульнай хады.

---

# ХАДА ПАДЗЕЙ

### ЛІПЕНЬ

**ПАД СЦЯГАМ ЕДНАСЦІ І БРАТЭРСТВА**
прайшоў III фестываль дружбы моладзі СССР і Рэспублікі Куба ў нашай рэспубліцы. Назаўсёды застануцца ў сэрцах удзельнікаў гэтага свята сустрэчы, радасць знаёмстваў і адкрыццяў. У той жа час фестываль прадэманстраваў вернасць моладзі двух краін гераічным традыцыям старэйшых пакаленняў — удзельнікаў штурму Зімняга і казармы Манкада, мужных абаронцаў Брэсцкай цытадэлі і герояў Плая-Хірон.

Сапраўдным святам братэрства стаў сход грамадскасці Мінска і ўдзельнікаў фестывалю, прысвечаны 30-й гадавіне штурму казармы Манкада, які адбыўся ў Палацы культуры і тэхнікі аўтазавода.

**БРОНЗАВЫ БЮСТ**
вядомага дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, члена Палітбюро ЦК КПСС, першага намесніка Старшыні Савета Міністраў СССР, міністра замежных спраў СССР, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы А. А. Грамыкі адкрыты ў г. Гомелі. На мітынг, які адбыўся з гэтага выпадку ў горадзе над Сожам, прыйшлі тысячы людзей — рабочыя прадпрыемстваў, будаўнікі, ветэраны вайны і працы, моладзь. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі М. М. Слюнькоў, члены бюро Гомельскага абкома і гаркома партыі, члены выканкомаў абласнога і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў, родныя А. А. Грамыкі.

**ПЕРШАЯ У КРАІНЕ**
лінія па сушцы і ачыстцы насення траў, пушчаная ў саўгасе «Прагрэс» Салігорскага раёна, дала 200 тон адборнай прадукцыі. Гэтым насеннем будуць засявацца велізарныя масівы асушаных тарфянікаў.

Спецыялісты падлічылі: выдаткі на будаўніцтва лініі акупяцца менш чым за тры гады.

**З ВЯЛІКІМ ПОСПЕХАМ**
прайшлі ў Іванаве гастролі Акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР. Асаблівую цікавасць у гледачоў тут выклікала опера Ю. Семянякі «Новая зямля», пастаўленая па матывах аднайменнай паэмы класіка беларускай літаратуры Я. Коласа.

За два з палавінай тыдні беларускія артысты паказалі на легендарнай радзіме першага Савета каля сарака спектакляў і канцэртаў.

**ЧАТЫРЫ ГАДЫ НАЗАД**
Баранавічы і фінскі горад Хейнала сталі гарадамі-пабрацімамі. Паміж імі заключана доўгатэрміновае пагадненне аб культурных і грамадскіх сувязях.

Нядаўна рашэннем выканкома гарадскога Савета народных дэпутатаў адзін з маляўнічых сквераў Баранавічаў стаў называцца імем фінскага горада-пабраціма Хейнала.

# ДОЛАР у МУНДЗІРЫ

Мікалай САКАЛОЎ



Здавён-даўна людзі абыходзілі гэтае месца. Магчыма, чэзлы хмызняк, што рос тут некалі, ахутаны вечным туманам, выклікаў у першых пасяленцаў пачуццё адчаю і няўцешнай тугі па далёкім родным кутку. А, мабыць, і бяда тут кагосьці сустрэла... Пайшоў чалавек і не вярнуўся — балота ёсць балота... Гэты вялізны масіў на паўднёвым беразе ракі Патамак людзі назвалі са страху «чортавым дном».

Цяпер на гэтым месцы стаіць пяціпавярховы велізарны будынак. Вакол яго — шырокія кветнікі, дагледжаныя ярка-зялёныя газоны. Здавалася б, нішто не нагадвае пра былое гіблае балота, «чортава дно». Але яно спарадзіла другое, яшчэ больш злавеснае слова — Пентагон.

Прыгадваецца, у часе экскурсійнай паездкі па Вашынгтоне наш гід-перакладчык, прыпыніўшы машыну, звыклай скорагаворкай паведаміў:

— Звярніце ўвагу — вось будынак міністэрства абароны ЗША. Называецца Пентагон: ад грэчаскага слова — пяцікутнік; такую форму мае гэты будынак. Даўжыня толькі адной з яго вонкавых сцен роўная даўжыні трох футбольных палёў. Статыстыка сцвярджае (а вы, журналісты, асабліва любіце мову лічбаў), што кожны ранак сюды прыязджаюць на службу некалькі тысяч чалавек. За дзень яны гавораць па тэлефоне ў сярэднім 175 тысяч разоў, выпіваюць 38 тысяч шклянак кавы...

І далей мы пачулі яшчэ мноства лічбаў. Аднак, прызнацца, так і не зразумелі: пра што ж, уласна, хацеў расказаць нам гід! Сапраўды, каго цікавіць, колькі тон бутэрбродаў з'ядаюць у сталовых Пентагона ці колькі літраў кавы выпіваюць тут за дзень! Несумненна, куды больш уразіў бы расказ пра іншыя «рэкорды», якія ставіць галоўнае ваеннае ведамства ЗША, забіраючы сапраўды астранамічныя сумы з дзяржаўнай касы.

Куды і на што выдаткоўваюцца гэтыя грошы! Пра гэта гід, спаслаўшыся на адсутнасць «належнай інфармацыі», зразумела, не расказаў. Змрочная, падобная да цытадэлі пабудова з бетону сапраўды ўражвае ўжо адным сваім выглядам, памерамі. Пентагон — зрокавае ўвасабленне засілля ваеншчыны ў жыцці амерыканскага грамадства.

У свой час У. І. Ленін адзначаў, што манапалістычны капіталізм па сваіх карэнных эканамічных уласцівасцях вылучаецца «найбольшым і паўсюдным развіццём ваеншчыны». За акіянам гэтая тэндэнцыя асабліва акрэслілася пасля другой сусветнай вайны. У Злучаных Штатах — апоры сусветнай рэакцыі і мілітарызму — сфарміраваўся груваcткі і вельмі ўплывовы ваенна-бюракратычны апарат, які дзейнічае ў саюзе з магнатамі зброі. Менавіта тут, у цытадэлі імперыялізму, склаўся найбольш агрэсіўны магутны блок пентагонаўскай эліты і бізнесменаў — «фабрыкантаў смерці». Злавесны характар гэтага блока прызнаюць нават многія афіцыйныя асобы ў ЗША.

Пра верхаводства ваенна-прамысловага комплексу ў амерыканскім грамадстве гаварыў яшчэ Дуайт Эйзенхаўэр (якраз тады, у студзені 1961 года, і ўзнік сам гэты тэрмін). Прызнанне генерала Эйзенхаўэра асабліва знамянальнае: ужо хто-хто, а ён, прэзідэнт, ведаў, што гаварыў, бо сам шмат гадоў шчыра і аддана служыў Пентагону і пастаўшчыкам зброі. Тым не меней у сваім апошнім прэзідэнцкім пасланні ён з трывогай папярэджваў, што краіне пагражае каварная сіла — «ваенна-прамысловы комплекс». «Яго ўсеабдымны ўплыў — эканамічны, палітычны і нават духоўны,— вымушаны быў канстатаваць прэзідэнт,— адчувае на сабе кожны горад, улады кожнага штата, кожная ўстанова федэральнага ўрада... Мы павінны асцерагацца ўсталявання неапраўданага ўплыву ваенна-прамысловага комплексу».

Што змянілася з тае пары! Бадай, толькі адно: пасля смерці Эйзенхаўэра ў вестыбюлі Пентагона была ўрачыста ўстаноўлена мемарыяльная дошка з тэкстам развітальнага звароту прэзідэнта да народа. Але менавіта тыя словы, дзе Эйзенхаўэр указваў на згубнасць далейшага ўмацавання ваенна-прамысловага комплексу, выкінуты з гэтага тэксту. Факт гэты ўжо гаворыць пра многае.

Саюз ваеншчыны і бізнесменаў за мінулыя дзесяцігоддзі набраў сапраўды вар'яцкую сілу. Сёння падрадчыкамі Пентагона выступаюць ужо звыш як 100 тысяч фірм — ад звышгігантаў да карлікаў; ад тых, хто вырабляе міжкантынентальныя ракеты, да тых, хто пастаўляе музычныя інструменты ваенным духавым аркестрам. Выдаткі на духавыя інструменты, натуральна, вылічаюцца тысячамі долараў. Затое мільярдныя барышы за ўсё новыя і новыя сістэмы зброі атрымліваюць штогод кампаніі «Джэнерал дайнемікс», «Макдонел-Дуглас», «Юнайтэд тэхнолоджыз», «Локхід», «Нортран», «Груман», «Джэнерал электрык», «Райтэан», «Х'юз эркрафт», «Боінг».

Уладальнікам чалавеказабойнай прамысловасці гарантаваны і неймаверныя прыбыткі, і сталыя рынкі збыту. Бо калі, скажам, адзенне ці музыка выходзяць з моды, няўвішным «каралям нажніц і пласцінак» пагражае банкруцтва. Калі ж з «моды» выходзіць той ці іншы від зброі, то яго папросту спісваюць. І таму «фабрыканты смерці» перакананы: чым больш выпрацоўваецца зброі ў ЗША — тым лепш, а калі яна хутка старэе, то гэта лепш удвая. Адзін з магнатаў ваеннага бізнесу, віцэ-прэзідэнт канцэрна «Локхід» Райднур аднойчы так і заявіў: «Мы пасылаем ракеты, якія ніколі не вяртаюцца назад, і таму мы павінны ўвесь час выпускаць ракеты новыя. Гэта цудоўна!»

Няўтольная прага да нажывы — галоўны імпульс магнатаў зброі. Што ім да таго, што чалавецтва ўстрывожана абвастрэннем міжнароднага становішча, што занепакоена гэтым і пераважная большасць радавых амерыканцаў! Падрадчыкі Пентагона з радасцю пацiраюць рукі. Калі, да прыкладу, акцыі той жа самай карпарацыі «Локхід» у 1973 годзе каштавалі 3 долары за штуку, то ў 1980 го-




□ «Рэйганоміка» ў дзеянні. Яшчэ два «Рэйганвілі» — палатачныя гарадкі амерыканскіх бяздомных — з'явіліся ў цэнтры сталіцы ЗША.




□ Удзельнікі антываеннай дэманстрацыі ў Лондане.



□ «Правы чалавека» па-гватэмальску.



ПАЛІТЫЧНЫ ГЛОБУС









дзе, пасля таго як яна атрымала заказ на стварэнне ваенна-транспартных самалётаў для так званых «сіл хуткага разгортвання», цана адкой акцыі падскочыла да 42 долараў. У шасцідзесятыя гады на заводах канцэрна вырабляліся шпіёны-самалёты У-2, адзін з якіх, як вядома, быў збіты над Савецкім Саюзам. Сёння «Локхід» — адзін з галоўных вытворцаў нейтроннай зброі і найноўшых ракет «Трайдэнт».

Ліхаманкава кабівае золатам кішэні і карпарацыя «Джэнерал дайнэмікс». У канцы мінулага года часопіс «Бізнес уік» апублікаваў на вокладцы поўны трыумфу партрэт галавы гэтай карпарацыі Льюнса. Набраны ніжэй подпіс гучыць коратка, але выразна: «Абарона аказалася для яго багатай жылай». І гэта сапраўды так. З прыходам да ўлады адміністрацыі Рэйгана гэты самы буйны падрадчык Пентагона атрымаў ваенных заказаў на 12,5 мільярда долараў! У мінулым годзе «Джэнерал дайнэмікс» паставіла рознай ваеннай прадукцыі на 5,5 мільярда долараў, а ў 1985 годзе яе кошт дасягне ўжо 7,5 мільярда. Карпарацыя, адзначае штотыднёвік «Бізнес уік», «валодае тым, чаго не мая ніводная іншая кампанія»,— разнастайныя і доўгатэрміновыя заказы арміі, флоту і авіяцыі, якія загрузяць яе на ўсё бягучае дзесяцігоддзе, а магчыма, і да канца стагоддзя.

Ваенны бюджэт ЗША даўно стаў кармушкай для фабрыкантаў зброі. І таму на чале Пентагона яны нязменна ставяць толькі тых, хто сам цесна знітаваны з вялікім бізнесам. Варта адно пералічыць усіх былых міністраў абароны ЗША — і атрымаецца доўгі, але вельмі красамоўны спіс: усе прозвішчы, як правіла, фігуруюць і ў «святцах» самых буйных манаполій. Усё паводле прынцыпу: рука руку мые. Так, кіраўнік «Джэнерал мотарс» Чарльз Вільсан, ледзь толькі сеўшы ў 1953 годзе ў крэсла міністра абароны ЗША, тут жа «адваліў» роднай кампаніі ваенных заказаў ад Пентагона на 4 мільярды долараў! У сенаце Вільсан цынічна заявіў: «Усё, што добра для «Джэнерал мотарс», добра і для краіны».

Такім жа чынам дзейнічае і цяперашні шэф Пентагона Каспар Уайнбергер. Як дзялок і палітык ён вырас у джунглях каліфарнійскага бізнесу. А, як вядома, Каліфорнія — самы адметны з усіх пяцідзесяці штатаў ЗША: самы буйны асяродак найбольш сучасных галін ваеннай прамысловасці, вотчына растлусцелых на заказах Пентагона карпарацый «Локхід», «Боінг», «Рокуэл» і цэлага шэрагу іншых. Усе думкі і энергія іх нахрапістых уладальнікаў засяроджаны ў адным напрамку — як вырабіць паболей зброі, каб мець паболей грошай. Як і ягоныя каліфарнійскія гаспадары, адвакат Уайнбергер — сумесь нахабнага мілітарызму, ультраправых поглядаў і рэлігійнай крывадушнасці. Ён свята верыць ва ўсемагутнасць саюзу зброі і долара, люта ненавідзіць усё прагрэсіўнае і найперш свет сацыялізму. Ён сыпле пагрозамі, заклікаючы ўсімі сіламі і сродкамі змагацца супраць «бязбожнага камунізму». Менавіта гэтыя якасці і здабылі адвакату вялікага бізнесу прыхільнасць і ласку на каліфарнійскім Алімпе. Яго ўзялі ў Вашынгтон «рабіць жорсткую палітыку».

Сутнасць яе сёння можна пацвердзіць адной лічбаю — 264 мільярды долараў. Менавіта такую суму атрымаў Пентагон на сёлетні фінансавы год. А ўсяго з 1981 да 1985 года Вашынгтон мае намер выдаткаваць на вытворчасць сродкаў разбурэння і знішчэння людзей астранамічную суму — 1,6 трыльёна долараў!

У лютым 1981 года, выступаючы перад кангрэсам з пасланнем аб бядотным эканамічным становішчы сваёй краіны, прэзідэнт Рэйган задаўся мэтай паказаць, што гэта такое, трыльён долараў, тым больш, што да такіх памераў наблізіўся нацыянальны доўг ЗША. Для нагляднасці ён абраў 1000-доларавыя банкноты. Аказалася, што пачак такіх банкнотаў таўшчынёю прыблізна ў дзесяць сантыметраў складае адзін мільён долараў. А трыльён — гэта мільён мільёнаў. Трыльён — гэта стос 1000-доларавых банкнотаў вышынёю... у 67 міль, альбо ў 107 кіламетраў. Лічбы сапраўды ўражваюць, калі ўспомніць, што самая высокая на нашай планеце гара Эверэст падымаецца над узроўнем мора ўсяго на 8.848 метраў. Вось якую гару золата паглынае ненажэрная пачвара, сапраўдны вырадак імперыялізму — Пентагон. Няцяжка ўявіць, якім новым непасільным цяжарам ляжа фантастычны ваенны бюджэт на плечы амерыканскага народа, якая пагроза ствараецца для ўсяго чалавецтва, калі распачатая імперыялістамі гонка ўзбраенняў выльецца ў ваенную катастрофу.

«Наша палітыка ёсць і будзе такой: што добра для амерыканскага рабочага — добра для Амерыкі!» Такія гучныя словы прэзідэнт Рэйган вымавіў у святочны для краіны дзень — у Дзень працы, які традыцыйна адзначаецца ў ЗША ў першы панядзелак верасня. За акіянам гэты дзень ужо даўно стаў вакханаліяй самай гнюснай прапагандысцкай крывадушнасці. Насуперак відавочнай рэальнасці, Белы дом кожны раз спрабуе падаць гэты дзень як пазакласавае «свята ўсіх амерыканцаў»: і тых, хто працуе, і тых, хто нажываецца на іх працы.

Не, не інтарэсамі народа кіруецца адміністрацыя саракавога прэзідэнта ЗША! На першым плане ў яе — інтарэсы вялікага бізнесу, самых рэакцыйных імперыялістычных колаў, якія дзеля сваёй карыслівай мэты спрабуюць адрадзіць палітыку дыктату — «вялікай дубінкі», зноў аблытаць планету павуціннем «халоднай вайны».

Долар у мундзіры вызначае сёння палітыку Белага дома, дыктуе сваю волю, навязвае краіне, насуперак інтарэсам працоўнага народа, велізарны ваенны бюджэт.

Нядаўна ў амерыканскі друк трапіў звышсакрэтны дакумент, падпісаны 1 сакавіка гэтага года шэфам Пентагона К. Уайнбергерам,—«Дырэктывы ў галіне абароны на 1985—1989 фінансавыя гады». У ім дапускаецца павелічэнне ў будучым пяцігоддзі выдаткаў на мілітарысцкія падрыхтаванні да двух трыльёнаў долараў. Такім чынам, плануецца новы, яшчэ больш высокі ўзровень нарошчвання гонкі ўзбраенняў, мяжа якому, як цынічна заяўляюць у Пентагоне,— бяздонная высь неба. Не, такое неба ніколі не будзе абяцаць людзям планеты нічога добрага, акрамя радыеактыўнай хмары вайны.

Істэрычнае «брава!» гонцы ўзбраенняў, што даносіцца з Белага дома, з сенацкага партэра — злавеснае водгулле ядзернай катастрофы, якая насоўваецца на свет. Пра гэта нельга забывацца ні на секунду. Пра гэта і не забываюцца народы. Сведчанне таму — небывалы ўздым руху мільёнаў людзей за мір, супраць злачынных планаў амерыканскага імперыялізму. Гэты рух, быццам бурная веснавая паводка, расце, набірае сілу і ў саміх Злучаных Штатах. І рана ці позна гісторыя пацвердзіць правату слоў прэзідэнта Аўраама Лінкальна, нацыянальнага героя Амерыкі, які сцвярджаў: «Можна доўга ашукваць аднаго чалавека, можна нейкі час ашукваць многіх. Але нельга без канца ашукваць увесь народ».



□ «Слабы пол» таксама ў активе Пентагона. Радавая войск ЗША на вучэннях.




□ Інструктаж афіцэраў ВПС японскіх «сіл самаабароны» на борце амерыканскага авіяносца «Мідуэй».



□ Плакат у барацьбе за мір. «Не — ядзернаму вар'яцтву!».

„БЕЛАРУСІ"

# нёманская ніць, або святло, што мільгае ў шкле

ШКЛОЗАВОДУ «НЁМАН» — 100 ГАДОЎ

**«АГОНЬ ЯГО БАЦЬКА»**

Што такое шкло? Нібыта пытанне і несур'ёзнае. Гэта вокны нашага дома, посуд на стале, упрыгажэнні і многае іншае. А яшчэ прасцей — празрысты сплаў пяску, крэйды, соды...

Вось і мне ўсё было ясна, пакуль не прыехаў туды, дзе нараджаецца шкло.

...Граюць вогненныя пошугі на тварах гутнікаў. Здаецца, само сонца шугае густым полымем з адчыненых печаў, дзе кіпіць шкляное варыва. А яго чэрпаюць маленькімі порцыямі і падносяць гэтыя «галачкі» да... вуснаў. І светлячок на канцы шкловыдзімальнай трубкі робіцца «шарыкам» будучай пасудзіны...

Хто з нас у маленстве не пускаў мыльныя бурбалкі? Але яны, ледзь паспеўшы блiснуць усімі колерамі вясёлкі, лопаліся. У гэтай «гульні» дарослых людзей вясёлка — застаецца. Яе дзеляць на часткі, якія застываюць і захоўваюць стракаты і мігатлівы, радасны і крохкі свет прыгажосці.

«Агонь яго бацька»,— сказаў пра шкло вялікі знаўца Ламаносаў. Але ці толькі аб паўтаратысячнай тэмпературы ў гутнай печы тут гутарка? Да гэтага часу ўсе самыя унікальныя па прыгажосці вырабы са шкла робяцца метадам свабоднага выдзімання. Гэта гутнае шкло, што азначае — зробленае толькі рукамі майстра, без тых гатовых форм, па якіх штампуецца шкло паточнае, індустрыяльнае.

Рэч з гутнага шкла, як скульптура, нараджаецца на вачах. І чорная ад векавой сажы шкловыдзімальная трубка — па-ранейшаму галоўны інструмент. Не замяняюць тут дыханне чалавека пакуль ні аўтаматы, ні ЭВМ, ні іншыя цуды індустрыяльнага часу. Праўда, ёсць трубкі, з якіх порцыя паветра выдзімаецца няхітрай гумавай «ігрушаю». Гэта на патоку, дзе робяцца штодзённыя бытавыя рэчы. Але варта крыху паназіраць за работай гутнікаў, каб заўважыць: і на гэтым участку многае залежыць ад чалавека, які лёгенька і беражліва, яму аднаму вядомымі прыёмамі, «нянчыць» шкляную балванку, надае ёй належную форму.

Шкловыдзімальная трубка ў руках гутніка — як пэндзаль або разец у руках мастака. Гутнік таксама давярае толькі свайму воку, прафесійнаму вопыту ды яшчэ, бадай, інтуіцыі. І калі гэтае параўнанне здасца вам надуманым толькі таму, што рабочыя на шклозаводзе з дня ў дзень заняты аднымі і тымі ж манатоннымі аперацыямі, то згадайце: а хіба мастак перад палатном не робіць наогул аднолькавых рухаў?.. Важны вынік. А спецыялісты лічаць, што ў гутным шкле не знайсці дзвюх аднолькавых рэчаў. Кожная — арыгінал.

Шкловыдзімальшчык — донар, са сваіх лёгкіх ён удыхае жыццё ў мёртвы матэрыял. Гэта аснова. І адначасна толькі пачатак доўгага вытворчага ланцужка, на якім шкло гладзяць, вадой апырскваюць, зноў падагрэюць у маленькай печачцы, каб заставалася яно падатлівай плоццю. Сотні людзей розных спецыяльнасцяў чаруюць над вазай, графінам або бакалам: шліфуюць, граняць, гравіруюць, распісваюць... Вось і атрымліваецца, што зусім гэтак жа, як руку скульптара не можа замяніць машына, не заменяе яна і рук гутніка.

Шкло застаецца кропляй расплаўленай масы да таго часу, пакуль яно не злучаецца з асаблівым «агнём» — з жывым дыханнем, з майстэрствам чалавека. Без яго не зайграе вясёлка ў шкле.

Вось што я зразумеў, трапіўшы на шклозавод «Нёман». Шкло — рукатворнае. Яно не створана прыродай. Гэта жывы, ачалавечаны матэрыял. Магчыма, таму прамень святла ў ім праламляецца і здаецца такім загадкавым...



**ГАЛІНКІ АДНАГО ДРЭВА**

Што ж такое шкло? Дакладней, нёманскае шкло?..

— Спытайцеся ў Курачкіна,— параілі мне.— Ён напэўна ведае. Тут яшчэ яго прадзед працаваў.

Пачаў я шукаць Курачкіна і збянтэжыўся: як гэта адзін чалавек можа быць і шклаварам, і выдзімальшчыкам, і апрацоўшчыкам, і, нарэшце, начальнікам цэха? Часта яшчэ потым я чуў у размовах прозвішчы, за кожным з якіх — цэлая рабочая дынастыя: Валеўскія, Шыманскія, Козакі... Для многіх тут прафесія патомная. Працуюць на заводзе дзед, бацька, маці... Сюды ж прыходзяць і дзеці. Прафесію атрымліваюць як спадчыну.

Вось і ў родзе Курачкіных так павялося. Нікан Курачкін быў сярод першых трыццаці рабочых, якія прыйшлі ў прыземістую будыніну з задымленымі акенцамі — у старую Бярозаўскую гуту. Рабілі тут тады бутэлькі, слоікі ды лямпавае шкло. Быў Нікан на ўсе рукі майстрам. Шкло варыў, выдзімаў, апрацоўваў... Захавалася старая пажоўклая фатаграфія, на якой каржакаваты чалавек з вусікамі трымае на руках двух сыноў. Калі старэйшаму, Міхаілу, споўнілася дзесяць гадоў, бацька прывёў яго ў гуту і для пачатку навучыў набіраць «баначку» (так называюць порцыю гарачага шкла), рабіць паўфабрыкат пасудзіны і падаваць яе майстру-апрацоўшчыку.



Самая няхітрая аперацыя была на той час вельмі цяжкай. Пра што можна меркаваць па дакументальным апісанні Бярозаўскай гуты, якое захавалася ў заводскім архіве: «Бледны твар, схуднелае цела і даволі развітыя грудзі (ад выдзімальных рухаў)— вось звычайны выгляд тутэйшага гутніка. У гуце рабочыя, а асабліва дзеці, пакутуюць ад сухасці паветра і ад гарачыні, якая летам робіцца нясцерпнай. Зімой адчыняюць шырокія дзверы, і хвалі паветра пранікаюць да печаў, абдзімаючы ледзяным струменем рабочых, ад чаго ў іх з'яўляецца хранічны рэўматызм... У шліфавальным аддзяленні ад віску дзесяткаў колаў, якія рэжуць і шліфуюць шкло, слабанервовыя страчваюць прытомнасць, між тым рабочыя тут сядзяць 12 гадзін».

Вядома, з такімі бесчалавечнымі ўмовамі не мірыліся. Бярозаўскія гутнікі паказалі свой пралетарскі характар у 1905 годзе, калі па прыкладу рабочых Расіі абвясцілі шматдзённую стачку. І не раз яшчэ потым узнімаліся яны, каб адстояць свае правы, аж да ўз'яднання Заходняй Беларусі з Савецкай.

Нікан Курачкін жыў і працаваў у Бярозаўцы гадоў трыццаць запар, пакуль віхурай першай сусветнай вайны не занесла сям'ю на Украіну, у Жытомірскую вобласць, таксама на шклозавод. Вярнуўся ў Бярозаўку ўжо ягоны ўнук, сын Міхаіла — Пётр. Прыехаў неўзабаве пасля Вялікай Айчыннай, якую прайшоў ад Масквы да Берліна. «Вельмі ўжо добрыя чуткі ішлі пра гэты завод. Дый вабіла сюды — як на радзіму».

Працавала на заводзе і жонка Пятра, Вера. Сям'я была вялікая. І старэйшы сын, таксама Пётр, ужо з 16 гадоў стаў дапамагаць дарослым. Давучваўся ў вячэрняй школе. За «школьныя гады» вырас ад вучня шклавара да грэльшчыка. Завод накіраваў Пятра вучыцца ў політэхнічны інстытут (ёсць на «Нёмане» такая традыцыя — штогод пасылаць некалькі рабочых у вышэйшыя навучальныя ўстановы за кошт завода).

Цяпер інжынер-тэхнолаг Пётр Пятровіч Курачкін узначальвае буйны цэх. Тут жа, на «Нёмане», працуюць і двое яго братоў: Мікалай — выдзімальшчыкам, малодшы, Васіль,— апрацоўшчыкам. Дарэчы, Мікалая пасля ГПТВ размеркавалі ў Ленінград, ды ён адмовіўся: «Дзе яшчэ мясціны такія знойдзеш, як у нас на Нёмане, у Бярозаўцы?!» А Васіль, хоць і скончыў мараходку, плаваў толькі два гады. Не вытрымаў, вярнуўся: «Прырос я да шкла з маленства...»

Не для кожнага з іх бацька і маці, цяпер ужо пенсіянеры, былі непасрэднымі настаўнікамі. Але галоўны іх урок дзеці засвоілі: каб шкло з тваіх рук выходзіла сапраўдным, не замутнёным бруднымі прымесямі, ты сам павінен быць чысты, як шкло... І сыны, і іх жонкі, якія таксама працуюць на заводзе, шануюць сямейную прафесійную годнасць. І што б ні рабілі Курачкіны — усё сумленна. А ўдзельнічаюць яны амаль ва ўсіх працэсах заводскай вытворчасці — ад варкі шкла да апрацоўкі яго і ўпакоўкі гатовых рэчаў.

Моцна, глыбока ўкаранілася ў бярозаўскай зямлі сямейнае дрэва Курачкіных. І не аддзя-

НА ЗДЫМКАХ:

1. Нараджаецца нёманская ніць... Шкло выдзімае майстар Аляксей Захарэнкаў.
2. Сям'я патомных шкляроў Курачкіных. Дарэчы, на здымку толькі палова яе, астатнія Курачкіны ў гэты час працавалі на заводзе.
3. Майстры-прасаўшчыкі Аляксандр Мацкевіч (злева) і Іван Фаркоў вырабляюць прыгожыя дэкаратыўныя вазы.

ляюць яны сваіх лёсаў ад лёсу завода. Магчыма, таму, расказваючы пра сябе, Курачкіны шмат гаварылі і пра тое, як рос завод. Як будаваліся яго новыя сучасныя карпусы з магутнай вентыляцыяй, з канвеерамі і аўтаматычнымі лініямі... Як ствараецца ў пасёлку школа майстроў — прафтэхвучылішча шкляной прамысловасці. Якія, нарэшце, тут добраўпарадкаваныя, зусім гарадскія, кватэры, дзіцячыя сады, прафілакторый...

Гаворку скончылі перакананыя словы: «Гарача жыць са шклом, ды без яго — холадна». І не пакідае пасля гэтай гаворкі думка, што ажывае святло ў шкле, мажліва, таму, што і ў ім тыя ж жыццёвыя сокі, што вось ужо сто гадоў жывяць дрэва гэтай вялікай сям'і — адной з многіх у Бярозаўцы. Кожны другі жыхар пасёлка — шкляр!

## ГАЛАСЫ Ў АГУЛЬНЫМ ХОРЫ

Што такое шкло? У розны час па-рознаму адказвалі на гэтае пытанне мастакі «Нёмана», задача якіх — укараняць у вытворчасць новыя эстэтычныя ідэі. І ў музеі завода можна прасачыць, як развіваліся, мяняліся формы вырабаў, іх вобразны лад і колер.

«Нёман» — завод еўрапейскі па маштабу, яго мастакі надзвычай чуйныя да новых хваль, новых пошукаў у дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Да саракавых гадоў тут рабілі вазы для кветак і садавіны ў стылі «мадэрн», а ўплыў канструктывізму выявіўся ў прамавугольных штампаваных падносах. Гады 50-я былі адмаўленнем звыклага. Вырасла цікавасць да вырабаў ускладнёных форм з шыкоўнаю аздобаю, сярод якіх часта сустракаюцца беларускі арнамент і матывы, блізкія да антычнай класікі.

Сапраўднае шкло павінна быць іншым — лічылі Уладзімір Мурахвер і Людміла Мягкова, якія прыйшлі на завод на пачатку 60-х і сталі заснавальнікамі сучаснай школы нёманскага шкла. Дакладная адпаведнасць рэчы свайму прызначэнню, ясная логіка і прастата канструкцыі, ёмісты вобразны лад і, вядома, тэхналагічная зручнасці вырабу для масавай вытворчасці — вось новае разуменне матэрыялу. Да высакароднасці прастаты! — так коратка можна было назваць новую праграму дзейнасці.

Саюзнікамі і аднадумцамі, людзьмі блізкімі па духу і эстэтычных ідэалах аказаліся і іншыя мастакі новага закліку — Сільвія Раўдвеэ, Керсці Вакс, Уладзімір Жохаў і Валянціна Дзівінская.

Шасцёра таленавітых мастакоў пад агульным дахам сталі моцнай сябрынай, якой аказаліся пад сілу і праблемы вытворчасці, і работа на шматлікія ўсесаюзныя і замежныя выстаўкі, дзе нёманскае шкло неўзабаве пачалі пазнаваць літаральна з парога. «Неймаверна,— пісала адна з нямецкіх газет у дні выстаўкі «Шкло і графіка Беларусі» ў Берліне,— што такія цудоўныя рэчы са шкла — не адзіныя, эксперыментальныя, а запушчаны ў паточную вытворчасць»...

Коратка аб некаторых напрамках творчасці таго часу. У. Мурахвер эксперыментуе з цікавыдзімальнай тэхнікай гутнага шкла (нездарма так часта паўтараецца на яго рэльефных пластах вобраз старога гутніка), робіць арыгінальныя бутэлькі з налепамі і вітражы. Л. Мягкову захапляюць тэмы казак і фальклору, свае фантазіі ў шкле яна ўпрыгожвае маляўнічым дэкорам, амаль не ўжываючы алмазнай грані, якая ўжо прыгледзелася. Дэкаратыўныя блюды У. Жохава нагадваюць вітражы, а яго гутная пластыка — невялікія гратэскавыя скульптуры — вызначаецца добрым густам і часта выканана з пачуццём гумару. Ва ўзорыстым шкле В. Дзівінскай — тэмы беларускай прыроды і народных рамёстваў, прасякнутыя тонкім паэтычным настроем. Творчасць С. Раўдвеэ пераклікаецца са стылявымі традыцыямі готыкі і культурай форм Адраджэння, яе творы вылучаюцца разнастайнымі прыёмамі аздаблення. Масіўныя вырабы з ляпнымі формамі К. Вакс блізкія да старога народнага посуду, разлічанага на доўгую службу, што, між іншым, не замінае гэтым кампазіцыям быць вытанчанымі.

Агульнае ж у мастакоў новай «Нёманскай школы» — унікальная па сакавітасці і разнастайнасці колеравая палітра і імкненне «пісаць» шклом вобразы. Свет асацыяцый і метафар з кожным годам рабіўся ўсё глыбейшы, багацейшы. Але часам пры гэтым ускладняліся самі вырабы, яны перагружваліся дэкаратыўнасцю, ад якой мастакі ў свой час так рашуча адмежаваліся... Ёсць такое назіранне: замысел, увасоблены да канца, ператвараецца ў сваю процілегласць.

Дык што ж такое шкло? Варта яшчэ раз задаць гэтае пытанне, каб сказаць пра чатырох мастакоў, якіх сёння называюць на «Нёмане» маладымі. Таццяна Малышава і Вольга Сазыкіна, Аркадзь Анішчык і Майрэ Анішчык таксама прынеслі з сабой новыя погляды на матэрыял і яго магчымасці. Нярэдка яны разыходзяцца з традыцыямі 60—70 гадоў. Каб лепш іх зразумець, трэба ўлічыць акалічнасці, волю якіх завод напярэдадні свайго 100-годдзя зноў апынуўся на раздарожжы.

«Нёман» — асаблівая вытворчасць, тут ствараецца шмат сапраўдных мастацкіх твораў. І ўсё ж гэта прамысловая вытворчасць, яна не можа не лічыцца з попытам. Крыштальны бум апошніх гадоў прымусіў нарошчваць выпуск крышталю на шкоду вырабам з гутнага шкла і простаму, але з густам выкананаму посуду (між іншым, за мяжою высока цэніцца менавіта гэты нёманскі посуд). Пад націскам заводскіх эканамістаў ішлі на кампраміс і мастакі... Аднак сёння мода шукае ў куфрах іншае. Затрабаванні рынку рэзка мяняюцца. Якія заказы зробіць дзень заўтрашні? Па якой дарозе пайсці?

Маладыя мастакі пачалі шукаць адказ... у дні ўчарашнім.

На самым відным месцы ў майстэрні А. Анішчыка я ўбачыў некалькі старадаўніх зялёных бутэлек. Высветлілася, што яны з раскопак, якія мастакі вядуць на тым месцы, дзе стаяла раней старая Бярозаўская гута. І вось пра гэтыя бутэлькі з простай вяззю прасаванай аздо-



бы Аркадзь, сучасны дызайнер шкла, загаварыў з захапленнем...

Здаўна «Нёман» славіўся высокай якасцю прасаванага шкла. Формы посуду былі разнастайныя, сценкі — вельмі тонкімі. Нават шкляныя скульптуры старыя майстры ўмелі прасаваць. Ды так, што, скажам, на крылах анёлачкаў пёркі можна было палічыць. Сёння — такога шкла няма. Як амаль адсутнічае «шырокая грань», характэрная раней для работ нёманцаў. А грань гэтая, простая і недарагая, часта лепш за алмазную выяўляе высакароднасць шкла.

Пад пагрозаю забыцця аказаліся і некаторыя іншыя мастацкія традыцыі і прафесійныя навыкі. Так, яшчэ чвэрць стагоддзя назад тут рабілі дэкаратыўны посуд нібы пакрыты сеткай дробных трэшчынак унутры празрыстага шкла. Гэта і прыгожа, і выгадна заводу — сам прыём апрацоўкі дапамагае хаваць некаторыя дэфекты шкла. Вырашыла аднавіць метад Т. Малышава, а майстры яго ўжо забылі. Давялося запрашаць гутнікаў старога пакалення, пенсіянераў... Нямала арганізацыйных клопатаў і ў М. Анішчык, якая, па старой народнай традыцыі, апрацоўвае свой посуд каляровай шкляной крошкай.

Да вытокаў нёманскага шкла, незамутненых камерцыйнымі меркаваннямі,— вось да якой спадчыны павяртаюцца тварам маладыя мастакі. Ім блізкія традыцыі, якія падкрэсліваюць вартасць шкла, раскрываюць прыгажосць, закладзеную ў самім матэрыяле, у яго высакародным крынічным чысціні. Гэта добрая аснова, лічаць яны, для сучаснага прамысловага дызайна, які павінен, нарэшце, прыйсці на «Нёман»... Вось так сталася, што пад попелам старой гуты тлеюць вуголлі, з якіх сёння можна раздзьмуць полымя.

Інерцыя вытворчага патоку на вялікім прадпрыемстве — вялікая сіла. Немагчыма адмовіцца ад выпуску састарэлай прадукцыі за адзін тыдзень. Таму многія цікавыя, эксперыментатарскія рэчы маладых мастакоў пакуль стаяць на паліцах майстэрань. У В. Сазыкінай гэта «мярэжка» — упячатаныя ў празрыстае шкло галінкі дрэў, верас, кавалачкі тканіны... Гэтыя работы не раз адзначаліся на вялікіх выстаўках за далікатную прыгажосць і арыгінальнасць выканання. Стаяць эфектныя гладкасценныя, вытанчанага дызайна, вазы А. Анішчыка, стаяць наборы для піцця і шкляныя цацкі М. Анішчык...

Працуючы «на паліцу», мастак апрача выдаткаў маральных траціць і матэрыяльна, бо за вырабы, не ўкаранёныя ў вытворчасць, аўтарам не плацяць. Дык чаму б мастакам не пайсці на маленькі кампраміс з эканамістамі, штосьці ў сваіх творах «убавіць — прыбавіць — спрасціць?»

— Уявіце,— адказала мне В. Сазыкіна,— што гэты кампраміс будзе памножаны на велізарны тыраж. Мала, што самому будзе сорамна за гэтую рэч... Але ж шкло — нешта большае, чым проста посуд. Так ці інакш яно ўплывае на культуру людзей. І за гэта мы нясём адказнасць. Шкло павінна быць высокамастацкім. Нават самая звычайная шклянка. Толькі так.

Як бы там ні было, а першыя ручаінкі новых мастацкіх ідэй ужо ўліваюцца ў агульны вытворчы паток. Сярод лепшых вырабаў «Нёмана» — вазы Т. Малышавай з сакавітымі і радаснымі фарбамі. Пайшлі ў серыю прыгожыя і недарагія чаркі і фужэры А. Анішчыка. Гэты «шырспажыў» вабіць вока сваёй прастатой, яснасцю, графічнасцю. Набыць яго не супраць нават мастакі, якія завітваюць на завод... Цікава, што робяць гэты посуд на імпартнай аўтаматычнай лініі, якая з укараненнем сваёй нёманскай распрацоўкі стала намнога больш прадукцыйнай. Усе задаволены, апрача самога мастака.

НА РЭПРАДУКЦЫЯХ:
1. Людміла Мягкова. Набор посуду «Палярны».
2. Таццяна Малышава. Вазы «Мора, вецер, прыбой».
3. Вольга Сазыкіна. «Мярэжка».
4. Аркадзь Анішчык. Гутная ваза для кветак.
5. Майрэ Анішчык. Дэкаратыўная пластыка «Гномы».
6. Уладзімір Жохаў. Шкляная скульптура «Зубр».
7. Уладзімір Мурахвер. Дэкаратыўныя вазы.

— Чаму мы выпускаем у гэтым стылі толькі чарку і фужэр?— пытаецца Аркадзь.— Патрэбны такі камплект посуду, каб у кожным доме ствараўся гарманічны ансамбль, скажам, з сямі розных ёмістасцей. А пакуль — поўная эклектыка.

Каля сарака навінак укараняецца штогод на заводзе. Здаецца, нямала. Але ж на патоку больш як 500 відаў вырабаў... Магчыма, запуск новых арыгінальных рэчаў, якія маюць мастацкую каштоўнасць, стане лягчэйшым, калі унікальную ў нашай краіне нёманскую вытворчасць назваць так, як яна таго даўно заслугоўвае — завод мастацкага шкла? З адпаведнымі да яго запатрабаваннямі. Бо не заўсёды можна падыходзіць да мастацтва (а творчасць мастакоў і майстроў «Нёмана»— мастацтва!) з вытворчай меркай: як яго лепш растыражаваць?.. Спецыфіка ж звычайнага шклозавода такая, што вытворчыя работнікі толькі і вымушаны пра гэта думаць. І правільна, вядома, думаюць. Але тады ўжо трэба гаварыць толькі пра эканоміку, а не пра мастацтва...

Цікава, а як ставяцца да пазіцыі маладых іх старэйшыя калегі? Гэтае «правакацыйнае» пытанне я задаў галоўнаму мастаку завода Л. Мягковай. І яна прызналася: «Калі да нас прыйшоў Анішчык, я «затармазілася». Здалося, што мне ўжо нельга працаваць так, як раней. Потым «адышла». І пачала працягваць сваю лінію. Але куды больш патрабавальна». У. Мурахвер, які стаяў побач, дадаў з невясёлай усмешкай: «Здаецца, яны спрабуюць зрабіць тое, што ў свой час не ўдалося нам...»

Розныя яны людзі, нёманскія мастакі. І па сіле таленту, і па майстэрству, вопыту, густу, і па мастацкай культуры. Але няма ў Бярозаўцы падзелу на мастакоў-мэтраў і пачаткоўцаў. Тут стыль іншы. Ёсць паважлівыя адносіны на роўных — як майстроў з майстрамі. Вось з гэтых адносін і складваецца працавітая камуна таварышаў і калег пад агульным дахам.

Кожны з іх мае свой голас. Кожны па-свойму напаўняе шкло новым святлом... А разам яны — людзі, якіх родніць высокая нота творчасці. Вось таму і складваецца гарманічны хор, у якім салісты — усе. І ўсе адзін аднаго дапаўняюць.

— Ваша крыштальная мара?— спытаўся я, развітваючыся з мастакамі.

— Шкляная,— паправілі мяне.— Каб наша шкло заўсёды беспамылкова пазнавалі на выстаўках і ў магазінах. І каб вызначэнне «нёманскае» было сінонімам Знаку якасці...

А хор у Бярозаўцы сапраўды ёсць. І носіць званне народнага. Спяваюць тут хораша!

## НЁМАНСКАЯ НІЦЬ

Што ж гэта за шкло такое?— думаў майстар завода Анатоль Федаркоў, падоўгу разглядаючы ў музеях вытанчаныя работы венецыянскіх майстроў, аздобленыя ніццю філіграні. Пачаў чытаць кнігі пра шкляное рамяство, зачасціў у запаснікі Эрмітажа. Вядома, апісання метаду нідзе не было. Ён быў таямніцай за сямю пячаткамі. І ў колішнія часы венецыянскага майстра, які пакідаў востраў Мурана і асмельваўся рабіць шкло ў іншым горадзе, паводле цэхавых законаў, чакала смерць...

Усё ж Федаркоў стварыў асаблівы сплаў шкла, якое тонкімі ніцямі накладвалася на посуд. Вырашыў, што адгадаў сакрэт венецыянскага дэкору, і пачаў упрыгожваць ім няхітрыя па форме міскі, кубкі, збаны, талеркі. Паслаў у 1973 годзе свае работы на прадстаўнічую міжнародную выстаўку ў чэхаславацкім горадзе Ябланцы. І атрымаў Гран-пры. Спецыялісты прызналі дэкор Федаркова арыгінальным, адметным ад венецыянскай ніці па колеры, больш нязмушаным і лёгкім па выкананню. «Нёманская ніць»— так назвалі гэты метад. Сёння ён шырока прымяняецца пры аздобе многіх вырабаў завода. Я бачыў, як гэта робяць. У гарачым стане загадкавая ніць нагадвае тонкую белую пасму, якую выцягнулі з вогненнай «кудзелі» печы...

Нёманская ніць... Думаю, за гэтым спалучэннем не проста назва метаду. У гэтых словах — больш ёмісты, вобразны і сімвалічны сэнс, мастацкай з'явы, якой стала ў нашай краіне, ва ўсім свеце шкло завода на Нёмане.

Чым жа адметнае яно, нёманскае шкло? Самая простая ніць, як вядома, скручваецца з валокнаў. Паспрабуем іх расплесці.

Беларускае шкло... Пільна ўглядаючыся ў формы некаторых збаноў, кубкаў, вазаў, якія робяць тут сёння, можна знайсці падабенства з тым простым посудам, што вывозілі са сваіх гутаў «беларусцы літоўскай стараны» яшчэ ў XVI—XVII стагоддзях. Але... Заснавальнікамі завода былі чэх Столі і паляк Краеўскі, якія да прыезду ў Бярозаўцы працавалі на рускім Дзяцькаўскім шклозаводзе. Сёння на «Нёмане» працуюць людзі пятнаццаці нацыянальнасцей. У розных школах атрымалі прафесійную падрыхтоўку мастакі — у ленінградскай, талінскай, мінскай і, нарэшце, у пражскай, дзе вучыўся А. Анішчык. Дык ці варта гаварыць пра шкло беларускае?

Варта. І вось чаму. Незвычайныя зрухі адбываюцца з мастакамі на «Нёмане». Вось і эстонцы С. Раўдвеэ і К. Вакс тут, у Бярозаўцы, працавалі ў зусім іншым духу, чым раней у Таліне. Нядаўна вярнуліся на радзіму. І што ж? Формы і стыль іх твораў зноў рэзка змяніліся.

Каб зразумець прычыну перамен, трэба пабываць у Бярозаўцы. Прайсціся па ранішняй расе бярозавых пералескаў і хвойнікаў, што падступаюць да пасёлка, расхінуць рукамі лёгкія воблачкі туманаў на лугах, палюбавацца захадам, калі сонечная дарожка на Нёмане ўспыхвае колерам расплаўленага шкла. І калі пасля паглядзець на работы нёманскіх шкляроў — многае стане больш ясным. Гэтае шкло празрыстае, як паветра, як нёманская плынь. Сакавітасцю фарбаў яно перакліваецца з бярозаўскімі пейзажамі. Яно нібыта «выплаўляецца» з гэтай зямлі.

А зямля бярозаўская багатая яшчэ і на нацыянальныя традыцыі гутнага майстэрства. Яны назапашаны не адным пакаленнем... У. Мурахвер параўнаў сваю работу з працай кампазітара — ён, мастак, толькі стварае «музыку» на папяровым аркушы, а выконваюць яе ў заводскіх цэхах майстры. І лепшых з іх можна назваць сааўтарамі мастакоў. Георгій Лінкевіч, Аляксандр Аўраменкаў, Генадзь Баранаў, Іван Пухоўскі, Валерый Багінскі, Георгій Клімкевіч і яго сын Валерый, Іван Бартосік, Сяргей Навумаў, Іван Пятрэнка і сын ягоны Міхаіл... Шмат іх тут, патомных беларускіх гутнікаў незвычайнага таленту і высокай культуры. Робяць яны і свае, аўтарскія, работы, прымаюць удзел у выстаўках.

Уплятаюць у нёманскую ніць свае валокны і людзі, якія непасрэдна да шкла як быццам адносін не маюць. Мне запомнілася сустрэча з бярозаўскім архітэктарам Юрыем Спясіўцавым. Яшчэ нядаўна ён, мінчанін, працаваў у прэстыжным інстытуце, праектаваў буйныя аб'екты, перамог у рэспубліканскім конкурсе... Але аднойчы пабываў у Бярозаўцы. А потым вярнуўся, каб тут застацца. Што прывяло яго менавіта сюды? «Шкло,— адказвае Юрый.— Яно зачароўвае. Побач з ім можна і трэба жыць прыгажэй». Нёманскаму шклу павінен адпавядаць сам воблік, эстэтычнае асяроддзе самога пасёлка!.. Пад кіраўніцтвам Спясіўцава рэканструюецца Дом культуры, аздабляюцца адміністрацыйныя будынкі і жылыя дамы, добраўпарадкоўваюцца вуліцы і двары...

Прыгажосць нараджае толькі прыгажосць. Без яе не можа быць мастацтва. Сумна, калі на высокае званне нацыянальнага мастацтва прэтэндуе халтура, убоства якой прыкрываецца арнаментам або іншымі знешнімі прыкметамі. Лепшыя ж работы гарадка майстроў на Нёмане — нашы, беларускія, у самым шырокім сэнсе. Яны, як прынята гаварыць, не ўступаюць сусветным узорам. Гэтым шклом мы можам ганарыцца як адным з паказчыкаў узроўню нашай культуры.

Поспех завода ў многім тлумачыцца тым, што ў нёманскую ніць арганічна ўплятаюцца дасягненні мастацкай культуры ўсіх народаў... Вось таму і цудоўныя цацачныя гномы, якіх зрабіла ў Бярозаўцы М. Анішчык,— таксама шкло нацыянальнае. Добры свет, створаны казачнікамі ўсіх часоў,— агульначалавечае дасягненне. Яно належыць і нам.

Вядома, нямала яшчэ іншых «валокнаў», ад якіх залежыць трываласць, колер і, нарэшце, даўжыня нёманскай ніці... Меркаваць аб даўжыні не лягчэй ля механічнага цэха завода, дзе ўстаноўлен стэнд, што расказвае аб гандлёвых сувязях нёманцаў. Было б стамляюча пералічваць савецкія рэспублікі, іншыя краіны, у якія ідзе беларускае шкло. Нітачка з Бярозаўкі цягнецца на ўсе кантыненты планеты... Нядаўна дырэктар завода Мікалай Пашук упершыню пабываў у Венецыі. Славутыя майстры з вострава Мурана сустрэлі яго як добрага знаёмага... Італія таксама купляе нёманскае шкло.

Не выпадкова словы «ніць» і «знітоўваць»— аднаго кораня. Па нёманскай ніці, як па сувязі гадоў, перадаецца спрадвечнае людское імкненне да прыгажосці. Вось ужо сто гадоў гэты пошук знітоўвае тут час і прастору. Паток гэтага іскрыстага, радаснага святла не спыняецца цяпер ні на хвіліну: вытворчасць на заводзе бесперапынная — сёння гэта 220 тысяч штук самых розных вырабаў у суткі... У гэтым сэнсе над «Нёманам» ніколі не заходзіць сонца.

Цяпер вы разумееце, чаму так хочацца вярнуцца ў Бярозаўку? Каб зноў дакрануцца да прыгажосці, якую тут ствараюць без гучных слоў і вялікіх грошай. Каб зноў сустрэцца з людзьмі, для якіх мастацтва — як дыханне. А мы ж не заўважаем, як дыхаем.

Ну, а пакуль я заходжу ў мінскі магазін «Крышталь» і больш надзейна, чым па фірменным знаку, пазнаю нёманскі посуд па светлячку агню, што бруіцца ўнутры дарагіх вазаў і самых звычайных шклянак. Цяпер я ведаю, што гэты агонь запалены жывым дыханнем таленавітых жыхароў «гарадка майстроў».

А без святла шкло маўчыць. І застаецца толькі сплавам пяску, крэйды, соды...

**Віктар ЖУК,**
**спецыяльны карэспандэнт «Беларусі».**
Фота аўтара.

**P. S. Аднойчы з выстаўкі нёманскіх вырабаў укралі вазу. А яе аўтар — мастак не толькі не расхваляваўся, а быў, бадай, нават усцешаны: значыць, ваза атрымалася прыгожая...**

**У сваіх нататках я не аналізаваў канкрэтных работ нёманскіх майстроў. І гэта не выпадкова. Вельмі ўжо няўдзячны занятак — апісваць шкло словамі. У шкла свая мова. Шкло трэба бачыць. Вось таму я, з адабрэння аўтараў, «краду» з іх майстэрань некалькі работ юбілейнага года. Раблю гэта тым спосабам, якім валодаю,— з дапамогай фотакамеры. І смела нясу гэтае багацце праз заводскую прахадную, загарнуўшы яго ў рулончык фотаплёнкі. Я прынёс яго вам, паважаныя чытачы. У гэтай падборцы рэпрадукцый — штрыхі да калектыўнага аўтапартрэта семярых мастакоў, якія працуюць сёння на «Нёмане».**

IV.

Жывыя сэрцы б'юцца вечна
Ў сумленных, праведных радках.
Яны з душою чалавечай
Пераклікаюцца ў вяках.

Паэты з веку ў век збіраюць
Радкі, як росы на траве...
Паэты рана паміраюць,—
Павек паэзія жыве.

## Цішыня

Наўкол такая цішыня:
Чуваць, як падаюць пялёсткі,
Заснулі стомленыя вёскі,
І салавей замоўк да дня.

А недзе бліскаюць зарніцы,
Далёка недзе загуло...
Каб толькі болей не было
Неспадзяванай навальніцы.

## Ростані

На ростанях помнік.
І макі
Да позняга лета цвітуць,
Мільгаюць дарожныя знакі,
Машыны гудуць і гудуць,

Шумяць маладыя прысады,
Рабінавы сыплецца цвет.
Спачыць надвячоркам прысяду
Ў зарослы травою кювет.

На помніку — зорка і даты,
Шыпшыннік прабіўся з зямлі.
А сэрца смыліць, што салдаты
Дадому адсюль не дайшлі.

## Восеньская пошта

Я шлю табе асеннія лісты,—
Апошнія старонкі лістапада,
І ўсё бядую, што далёка ты,
Што мне твая абрыдзела пасада,

Што надакучыла пісаць лісты,
І спадзявацца, і чакаць, як госця,
Паветраныя будаваць масты
І хвалявацца, як у маладосці.

А ты ляціш кудысьці па начах,
Трасешся на вазах і самазвалах,
Ідзеш па бездарожжы, па карчах,
Па заінелых сцежках і па шпалах:

Спяшаешся да некага з дабром
У навальніцу, спёку, непагоды.
А ты усё ж была маім рабром,
І заставайся Евай назаўсёды...

Надзейны паштальён мой — лістапад
Нясе лісты у будні і у святы,
І ні адзін не вернецца назад,
Свайго не адшукаўшы адрасата.

Чаму ж адказу ад цябе няма,—
Трывожыць невядомая прычына.
Няўжо дарогі замяла зіма!
А без цябе і дыхаць немагчыма.

## На ўзбярэжжы

Ноччу выкінула мора
На прытоптаны пясок
Сведак нейчага гора —
Чаравік і паясок.

Можа хтосьці, змыты з трапу,
Не паспеў сказаць «бывай»,
І адразу босы трапіў
Або ў пекла, або ў рай.

Вал за валам коціць мора,
Чуцен чаек плач і крык.
Змыла хваля сведак гора —
Паясок і чаравік.

## Летуценні

Туман і дым у вечаровым полі,
І цішыня трымціць у цішыні,
На ўзгорку перапёлка жыта поле,
Начлежнікі спяваюць пры агні.

Пазелянела неба на заходзе,
Распісанае вогненным пяром,
Маладзічок з-за лесу узыходзіць,
Палуджаны блакітным серабром.

Кладуцца на траву густыя цені...
Такія ночы сняцца па начах,
І не даюць спакою летуценні,
Пакуль агонь у полі не ачах,

Пакуль спакойна засынаюць дзеці,
Пакуль цвіце сланечнік на градзе,
Пакуль душа душы у змроку свеціць
І сэрца з сэрцам гутарку вядзе.

## Загадваю на доўгія гады

Сплывае лета жураўліным клінам,
Падараваўшы ураджайны год,
І горкаватай чырванню каліны
Гарэць лагодна захад і усход.

Не думаючы больш аб пражытым,
Загадваю на доўгія гады:
Зямля прапахла малаком і жытам,
Набраклі сокам спелыя сады.

І па маім памаладзелым Глуску
Плыве з Зарэчча водар верасны,
Начамі жураўлі па-беларуску
Развітваюцца з намі да вясны,

А напрадвесні вернуцца дадому,
Закончыўшы нялёгкі пералёт,
Бо ім, відаць, раней за нас вядома,
Што будзе добры і наступны год.

## Аграному

Відаць з машыны толькі лес,
Палеткі прыдарожныя і сёлы.
Калі б ты з мяккага сядзення злез,
Не быў бы гэтакі вясёлы,

Адчуў бы шчодрасць прагнае зямлі
На клопаты людскія і на ласку,
Напомнілі б даспелыя палі
Правы гаспадара і абавязкі,

Ты б рапарты перапісаў свае,
Забыў бы незаслужаныя святы,
Пабачыў бы, чаго тут не стае,
Убачыў бы не зводкі, а зярняты,

Што нераспелі, што плывуць на дол,
Што закрычаць гатовы ўголас,
Што просіцца на гаспадарскі стол
Зярнятка кожнае і колас.

Выходзь у поле,— жні і сей,
Спраўляй заслужаныя святы,
Каб сталі радаснымі ўсе,
А кожны — сыты і багаты.

Жыццё часамі мачахай было:
Сляпіла вочы, шчокі секла,
То праз чысцілішча вяло,
То зноў кідала нас у пекла.

А я не здаўся, не зачах,
Не набрыняў атрутай злосці,
Таму і сёння у вачах
Гараць іскрынкі маладосці...

Не будзе навіной, калі я скажу, што жывём мы ў вельмі рацыянальны век, калі часам бывае так цяжка дастукацца да чалавечага сэрца; сухасць — заместа шчырасці, абыякавасць — заместа спагады... І калі Вы пішаце: «Тварыць дабро патрэбен талент», мне думаецца, дабро — Вашы радкі, за якімі многа клопату, любові да людзей, да жыцця: «Я не бядую, бо жадзён да ясных і да змрочных дзён. Люблю дажджы і лістапад, завеяны снягамі сад... Жыву, не трацячы надзей, бо верыцца ў дабро людзей».

Некалі Ганна Ахматава пісала: «Когда б вы знали, из какого сора растут стихи...». Пра што гэта? Толькі пра тое, што паэт заўжды працуе: калі ён выходзіць з дому, калі ідзе праспектам, едзе ў тралейбусе, нават на самым нудным сходзе, часам, можа нарадзіцца такі натхнёны радок! Не ведаю, які лісток натхніў Вас (ці з палянкі непадалёк ад Каралішчавіч, дзе Вы многа працуеце; ці з прыдарожных дрэў, калі едзеце вы ў Глуск — гарадок Вашай маладосці), ды страфа не патрабуе каментарыя:

Стаяць дубровы ў жнівеньскай красе
Дарогі — ў асцюках і ў пацярусе.
Дубовы ліст, у жылках і ў расе,
Мне нагадаў абрысы Беларусі...

У Вашай кнізе паэзіі «Асеннія гнёзды», за якую Вы атрымалі Літаратурную прэмію імя Аркадзя Куляшова, ёсць верш «У творчай лабараторыі». І я чамусьці падумала пра тое, што гэтае паняцце «творчая лабараторыя» невытлумачальна знікла са старонак нашага друку, нібыта паэты не твораць, а зрываюць аднекуль гатовыя вершы. Творчасць — гэта не толькі заўсёдны плён і натхненне, гэта яшчэ і пакуты, перыяды, калі, бывае, не ідзе верш; а калі ідзе — як лёгка яго спудзіць: выпадковай размовай, непрыемнай весткай... Нават надвор'е, і тое можа ўплываць на рабочы стан... Для чаго я гэта ўсё пішу? А для таго, што творчасць вымагае і патрабуе вялікага далікацтва і павагі да сябе. Адсюль ідзе павага да таго, хто працуе побач,— да таварыша па пяру. З якой любоўю і павагай ставіцеся Вы, Сяргей Іванавіч, да сваіх сяброў, гавораць многія радкі Вашых вершаў:

Разжыўся на ўсё, і аб стратах не плачу,
Ні разу не ўспомніў старую бяду,
А страціўшы друга, сябе вінавачу,
Што болей такога нідзе не найду.

Гавораць, што паэта часцей за ўсё нараджае няшчасце, а шчаслівы ён тым, што над ім не ўладны час... Усё залежыць ад душы, ад яе тэмпераменту. Нездарма ж існуе паняцце «другога дыхання». Першае — палкасць, юнацкая ўзнёсласць, парыў: здавалася б, нязначная эмоцыя — і бура ў сэрцы... Другое дыханне — усё тое самае, жыццёвы вопыт, мудрасць, якую даюць гады. Калі я чытала кнігу «Асеннія гнёзды», многія радкі змушалі задумацца і над сваім жыццём, ды наогул — над лёсам чалавецтва, над хуткаплыннасцю часу, над тым, што нішто ў жыцці не вяртаецца. Але вось прачытала строфы:

Ружовы іней на бярозах,
А на душы — даўнейшы боль.
Ад слоў і ад цытат цвярозых
Хоць трошкі адысці дазволь.

І ўсё забыць, што набалела,
Што прамільгнула у жыцці,
Пакуль ружовы снег і белы
Не перастаў яшчэ ісці...

Ваша Муза, Сяргей Іванавіч, заўжды маладая абліччам і мудрая сэрцам сваім. Ад кнігі да кнігі крочыць яна сваёй строгай няспешнай хадою, дорачы шматлікім чытачам Вашым радасць і роздум, шчырасць і цяпло, сардэчнасць і тое святло, на якое такі шчодры Ваш верасень месяц».

Раіса БАРАВІКОВА.



### ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАРОДНАГА АРТЫСТА БССР ДЗМІТРЫЯ АРЛОВА

# І ПРЫКЛАД, ВАРТЫ ПЕРАЙМАННЯ

Руская сцэна на Беларусі дала некалькі фігур, якія можна вобразна называць волатамі тэатральнага мастацтва. Волат? Ці не смешна называць гэтак артыста, абавязанага выконваць і ролі прыніжаных людзей, і катаў па прыродзе, і неймаверна хцівых, і саноўных дурняў, і па-дзіцячы даверлівых, безабаронных... Так-так, ён, бывае, і сапраўднага героя выводзіць у святло рампы, і тады мы ўзрушана сочым за гісторыяй самаахвярнага і мужнага характару, стваральніка якога зусім справядліва будзе назваць волатам. Чужыя словы ў яго на вуснах, чужыя страсці ў душы, чужое адзенне на плячах, чужая міміка на твары. А зала — верыць.

Там, на падмостках, не падлога з дошак і не хісткія кулісы,— сонечная Ілірыя, куды пасяліў сваіх герояў аўтар «Дванаццатай ночы». І гэты чалавек, прагна ўтароплены ў жаночыя вочы, каб дачакацца ў іх таго жаданага ім бляску прызнання,— не Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў, а Мальволіё. І зараз перад намі раскрыецца ўся недарэчнасць прэтэнзій нікчэмнасці на каханне да багатай душой жанчыны і ўсё гора гэтага, хай сабе і фанабэрыстага, але ж... чалавека. Вось і сляза скацілася з яго вока, а мы яшчэ смяёмся... Смяёмся разам з гэтым эпікурэйцам сэрам Тобі, якога так па-раблезіянску сакавіта іграе побач з Д. Арловым другі волат рускай сцэны — Аляксандр Кістаў.

На жаль, так здарылася, што трэці (па храналогіі ж — першы!) — Уладзімір Кумельскі выступаў разам толькі з Д. Арловым. Тэатралы і дагэтуль помняць, напрыклад, які па-канцэртнаму філігранны быў дуэт гэтых адмысловых артыстаў у гогалеўскім «Рэвізоры», дзе Іван Аляксандравіч Хлестакоў так натхнёна і так даверліва фантазіраваў перад строгім Скваснік-Дмухаnoўскім, і той насуперак сваёй правінцыяльнай мудрасці і скептыцызму пачынаў верыць пецярбургскаму залётнаму госцю. А той распальваецца, нясе амаль што бязглуздзіцу, а каб бязглуздзіца была пераканальнай — сам ва ўсё верыць: і ў той гарбуз коштам 500 рублёў, і ў «віст» з пасламі вялікіх дзяржаў, і ў дружбу з Пушкіным... Пераконвае, бо сам паверыў! Ах, гэты арлоўскі Хлестакоў — выдумляе рознае...

Мабыць, калі старацца вызначыць нешта агульнае для характарыстыкі розных сцэнічных вобразаў, створаных Д. Арловым, то менавіта гэтая якасць найбольш адметная: ягоныя героі, кім бы яны ні былі, на якой бы прыступцы грамадскай лесвіцы ні знаходзіліся, абавязкова верылі — у сваё прызванне і прызначэнне. У сваю чалавечую адметнасць. У магчымае ў будучым або ў марна чаканае шчасце. З чэхаўскіх персанажаў такімі былі доктар Чабутыкін у «Трох сёстрах» і Іван Пятровіч Вайніцкі («Дзядзька Ваня»); з горкаўскіх — Павел Пратасаў у «Дзецях сонца»; з твораў Льва Талстога — Карэнін у сцэнічнай версіі рамана «Ганна Карэніна»... Капітан Бярсеньеў («Разлом» Б. Лаўранёва), Боб Мэрфі («Рускае пытанне» К. Сіманава), Чайка («Што пасееш, тое і пажнеш» В. Палескага), Мальволіё («Дванаццатая ноч» У. Шэкспіра), Цяляцеў («Шалёныя грошы» А. Астроўскага), Павел Карчагін («Як гартавалася сталь» паводле рамана М. Астроўскага), Косця-капітан («Арыстакраты» М. Пагодзіна), Швейк у інсцэніроўцы славутага сатырычнага эпасу Я. Гашака... Ролі з мазаікі багатага акцёрскага рэпертуару, назапашанага ў розныя гады назіральным і бездакорна дакладным у сваіх мастакоўскіх адкрыццях артыстам Д. Арловым.

Спалучаючы выдатны выканаўчы талент з рэжысёрскім разуменнем творчых задач, ён умеў «ставіць» ролю, лагічна даследаваць лабірынты матываў, што вядуць героя на вяршыні подзвігаў або ў бездань злачынства, раскрываць дыялектыку страсцей па-чалавечы буйной натуры і духоўнага жабрака. Мы цяпер сумуем па тых часах, калі акцёр на падмостках непазнавальна пераўвасабляўся ў вобраз таго персанажа, чыім жыццём яму наканавана жыць сёння ўвечары на сцэне. Дык вось Д. Арлоў *яшчэ* трымаўся «школы пераўвасаблення» і *ўжо* настойліва шукаў новую манеру жыцця ў прапанаваных драматургам абставінах, калі твар акцёра не губляецца ў налепленых на ім барадах і вусах. Вядома, мы спрашчаем і схематызуем, але сутнасць творчых пошукаў Д. Арлова была такая: ён і ў педагагічных прыёмах цаніў тыя, якія спрыяюць станаўленню мастакоўскай асобы, а не толькі рамесніка.

Хоць, гаворачы пра Дзмітрыя Аляксеевіча, даводзіцца ўжываць «быў», «ствараў», «вучыў», гаворка ідзе пра жывую з'яву тэатральнага мастацтва. «Арлоўскае» ў мастацтве акцёра працягваецца, бо мы і сёння можам запрасіць гледача на спектаклі, дзе галоўную службу нясуць непасрэдныя вучні Д. Арлова. Пералічым некаторыя імёны актыўна дзеючых фігур сучаснай беларускай сцэны, якія ў аўдыторыях і класах Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута або на дачы самога педагога займаліся эцюдамі, распрацоўвалі ролі класічнай спадчыны, наладжвалі розыгрышы, рытуалы прысвячэння або святкавання дзён нараджэння,— Г. Гарбук і А. Мілаванаў, Б. Масумян і Т. Кокштыс, С. Акружная і Г. Дубаў, А. Доўгая і Ф. Варанецкі, Б. Сізко і Н. Чамадурава... Розыгрышы? Рытуалы? Эцюды? Для Д. Арлова не існавала догмы ў вучэбным працэсе навучання акцёра. І вучыў ён не іграць ролі, а мысліць, разгадваць чалавечы свет, сэрца чалавечае, паглыбляцца ў страсці вялікага дзяржаўнага мужа і дробнага, нікчэмнага служачага «на пасылках».

Дый ці «вучыў» Дзмітрый Аляксеевіч у звычайным сэнсе слова? Наўрад ці. Яго вучні, якім выпала несці сёння на сваіх плячах цяжар асноўнага рэпертуару ў купалаўцаў, у коласаўцаў, у Рускім тэатры БССР, шчаслівыя тым, што іх субяседнікам быў такі непаўторны чалавек, такая таленавітая асоба. Яго абаяльнасць не замінала патрабавальнасці, уменне выслухаць вінаватага не было ветлівасцю мецэната. Ён быў старэйшым таварышам. Абавязкова старэйшым — па вопыце, па перажытым, па абдуманым, па сыграным... Абавязкова — таварышам, гатовым цярпліва працаваць з пачаткоўцам, тлумачыць, здавалася б, азбучныя ісціны, расшыфроўваць дарослыя эмоцыі, пакуль што не зразумелыя юнаку або дзяўчыне, якая прэтэндуе на акцёрскае званне.

Дзмітрый Аляксеевіч лічыў само званне акцёра вельмі высокім і адказным. Пад гэтым ён разумеў мабільную падрыхтаванасць мастака да творчага акта — у любую хвіліну, як толькі прагучыць званок і пакліча цябе на падмосткі, ты павінен сабрацца, засяродзіцца і перанастроіць душу на хвалю сцэнічнага вобраза. У любую хвіліну! Многае мог даравацьён сваім вучням, ведаючы спакусы студэнцкага жыцця будучых артыстаў, але ніколі не мірыўся з абыякавымі адносінамі да прафесійных абавязкаў. Таму і цягнуліся да яго не толькі ягоныя вучні. Калі Рускі тэатр БССР звяртаўся да твораў У. Шэкспіра, А. Астроўскага, М. Горкага, калі на яго падмостках ставіліся гісторыка-рэвалюцыйныя спектаклі «Брэсцкая крэпасць», «Галоўная стаўка», «Узнятая цаліна», «Аптымістычная трагедыя», акцёры нярэдка раіліся з Д. Арловым, як бы звяраючы па компасу ўказанні і задачы рэжысёраў не менш паважаных — В. Фёдарава, В. Рэдліх, М. Співака. Нават у тым, як ён нешта адмаўляў і катэгарычна не прымаў, было творчае гарэнне мастака, знаўцы прыроды сцэнічнага мастацтва і акцёрскага патэнцыялу.

След артыста — з'ява хісткая, нетрывалая. Нават і цяпер, калі кінематограф і тэлебачанне фіксуюць акцёрскія здабыткі і адкрыцці. Ды толькі варта разгарнуць летапіс нашага сцэнічнага мастацтва на старонках «Шэкспір у Беларусі», «Максім Горкі ў Беларусі», «Чэхаў у Беларусі», «Астроўскі...» — і мы спаткаем імя гэтага няўрымслівага шукальніка, натхнёнага высокімі ідэаламі сучаснасці артыста, удумлівага рэжысёра-інтэрпрэтатара, чулага і дбайнага выхавальніка новых акцёрскіх сіл.

Дзмітрый Арлоў... Яму было б сёлета 80 гадоў. Ён бы мог з годнасцю слухаць справаздачу сваіх вучняў, якія не лічаць за грэх пераймаць ад яго высокую пачцівасць да самой прафесіі акцёра, да штодзённай працы ў святле рампы. І гэта, мабыць, было б самай высокай узнагародай, радаснай для сцэнічнага дзеяча такога маштабу. І нашай удзячнасцю яму.

**Барыс БУР'ЯН.**

Андрэй МАКАЁНАК

# ДЫХАЙЦЕ ЭКАНОМНА

## КАЛІ ГЭТА ФАРС, ДЫК ШТО Ж ТАДЫ РЭАЛЬНАСЦЬ?



**Апошняя... Я хацеў напісаць: «Апошняя камедыя Андрэя Макаёнка», але розум мой і сэрца запярэчылі супраць такога вызначэння месца гэтай п'есы ў творчасці выдатнага майстра. Нічога ў яго няма апошняга, усё, што здзейснена драматургам, мае права на першынство. Сапраўды, кожная яго п'еса адразу пасля апублікавання займала першае месца ў доўгай шарэнзе драматычных твораў нашай многанацыянальнай літаратуры. Нарэшце, нельга не думаць і пра тое, што само жыццё такога мастака — нават пасля таго, як ён адыходзіць ад нас, ды яшчэ адыходзіць вось так заўчасна, раптам — робіцца высокай драмай, трагедыяй, якая не можа не хваляваць уяўленне не толькі тых, хто быў побач з ім, але і тых, хто глядзеў і чытаў яго п'есы, хто будзе глядзець спектаклі па іх многія гады і дзесяцігоддзі, бо творы гэтыя бессмяротныя.**

**Калі нават мець на ўвазе час напісання «Дыхайце эканомна», то і па гэтай фармальнай адзнацы вызначэнне апошняя не падыходзіць да камедыі. Хадзілі чуткі, што Андрэй Макаёнак піша лёгка і можа напісаць п'есу за месяц — два. Я адзін з тых, хто меў доступ у яго творчую лабараторыю, і ведаю, што гэта не так — над некаторымі сваімі камедыямі ён працаваў многія гады. Даволі прыгадаць, што ад першага, прачытанага намі, яго сябрамі, варыянта «Пагарэльцаў» да таго варыянта, які ўбачылі падмосткі сцэны, прайшло чатырнаццаць гадоў.**

**Не адзін год пісалася і камедыя «Дыхайце эканомна». І не таму, што пісьменніку не працавалася — за гэты час напісана некалькі іншых твораў, а таму, што да тэмы гэтай Андрэй адносіўся з выключнай патрабавальнасцю, з самай высокай адказнасцю.**

**Трывога за будучыню, абуджэнне актыўнасці людзей у барацьбе за мір, выкрыццё ўсімі сродкамі тых, хто, ап'янелы ад прагі ўлады, ад імкнення панаваць над светам, штурхае чалавецтва ў бяздонне ядзернай катастрофы,— тэма гэтая, даказваў Андрэй Макаёнак і творчасцю, і сваёй грамадскай, публіцыстычнай дзейнасцю, стала самай актуальнай, самай галоўнай тэмай кожнага савецкага мастака.**

**Трыццаць гадоў назад з сур'ёзнай, няхай у нечым і недасканалай, драмай «На досвітку» — аб барацьбе французскіх рабочых за мір — выйшаў малады драматург на падмосткі сцэны тэатра імя Янкі Купалы. Сталы майстра, Андрэй Макаёнак сродкамі высокай трагедыі развівае тэму міру ў «Трыбунале». Валодаючы рэдкім і каштоўным дарам — талентам сатырыка, Андрэй Макаёнак увесь сатырычны арсенал сваёй зброі скіроўвае супраць чалавеканенавісцікаў у «Святой прастаце», у «Зацюканым апостале», нават у такіх «мірных» камедыях, як «Лявоніха на арбіце» і «Таблетку пад язык».**

**Апафеозам гнеўнага сатырычнага выкрыцця маральнага ўбоства, дэградацыі гандляроў смерцю з'яўляецца камедыя «Дыхайце эканомна». Аўтар працаваў над ёй да апошняга дня свайго жыцця — і пасля таго ўжо, як перадаў п'есу ў тэатры для пастаноўкі на сцэнах, у часопіс «Беларусь», які першы ў рэспубліцы знаёміць сваіх чытачоў з шэдэўрам сатырычнага таленту вялікага жыццялюба і змагара за трываласць найвышэйшага чалавечага шчасця.**

**Іван ШАМЯКІН.**

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

БІМ.
КРОШКА.
КЕЙТ.
АНДЖЭЛА.
ПРЭЗІДЭНТ.
СВЯШЧЭННІК.
ІСАК.
ЛЕАНОРА.
АДОЛЬФ.
ЛЮДОВІК.
АЎГУСТ.
ФАРЫД.
ХІРА СІТА.
СІНЬЁРА ФАНФАНІ.
АНТОНІО.
ВУДРО.
АЛІСА.
ФІЛОСАФ.
АХОВА, МУШКЕЦЁРЫ, ЛЕГІЯНЕРЫ, ВОІНЫ, ТАНЦОЎШЧЫЦЫ, СПЯВАЧКІ.

### ПРАЛОГ

Набярэжная ноччу. У цёмнай чорна-сіняй вадзе адлюстроўваецца вуліца процілеглага берага. Уражанне такое, нібы агромністы горад перавернуты ўніз дахамі.

Мігцяць рознакаляровыя агні рэкламы. Гэтыя агні ствараюць зарава палахліва-трывожнае, фантастычнае. На фоне зарава ў цёмных і таму таямнічых небаскробах, якія нагадваюць надмагільныя абеліскі, толькі там-сям свецяцца вокны. Пэўна, людзі спяць. Але наўрад ці спакойны іх сон. Час трывожны, наш час.

Своеасаблівае жыццё цячэ між гэтых камяніц: мурашамі снуюць аўтамабілі, зрэдку чуваць іх меладычныя гудкі, а то раптам разарве цішу звычная, рэзкая сірэна пажарнай машыны. І зноў цішыня. Нечакана недзе за вуглом стрэл і следам адчайны ўскрык, як апавяшчэнне аб нечай бядзе ў джунглях каменных вуліц. Панічна прасвірчэў свісток паліцэйскага і заціх, нібы патануў у цёмных глыбінях ракі.

Па набярэжнай праходзіць і спыняецца каля парапета стомлены, пахмурны, задуменны містэр Кейт. Гэта яго кароткая начная прагулка.

За парапетам нехта ўключае транзістарны прыёмнік. Гучыць музыка. Нечакана музыка перапыняецца голасам радыёдыктара.

ГОЛАС ДЫКТАРА. **Слухайце экстраннае паведамленне з канцылярыі прэзідэнта. Наш флот на поўных парах ідзе да вострава Васкрасення наперарэз караблям варожай армады. Па разліках спецыялістаў да крытычнага моманту, да сутычкі застаецца не больш чатырох гадзін сарака мінут.**

ГОЛАС ДЗЯЎЧЫНЫ (знізу за парапетам). **К чарцям! Заглушы гэты праклятыя транзістар! Хай не капае нам на мазгі хоць гэту апошнюю ноч.**

ГОЛАС БІМА. **Кінь транзістар у ваду! Утапі яго! Разам з прэзідэнтам. І супакойся.**

Знізу з-за парапета выходзіць Бім і яго Крошка. У руках у дзяўчыны партатыўны прыёмнік. Гучыць амерыканская песенька «Перад пагібеллю». Маладыя прысаджваюцца на лаўцы і — няясна — ці то яны мілуюцца, галубяцца, ці расстаюцца, развітваюцца. Кейту гэта не вельмі падабаецца, але потым, пільна прыглядзеўшыся, пазнае хлопца.

КЕЙТ. **Бім! Гэта ты!**

БІМ (пазнае Кейта). **О, сэр! Пачакайце...** (Дзяўчына затуляе яму рот пацалункам). **Мы спяшаемся.** (Зноў пацалунак). **Заўтра будзе позна.**

Дзяўчына, абхапіўшы галаву хлопца, прытуляе яе да грудзей, нібы хлопцу нешта пагражае, нібы яго хочуць адабраць у яе. А хлопец смяецца.

КРОШКА. **Бім, я саромлюся перад ім. Дай яму па акулярах. Гэта ён!**

БІМ. **Ён.**

КЕЙТ. **Ты ў ёй бачыш сэнс жыцця, Бім! Ты на яе прамяняў мой навукова-тэхнічны цэнтр! Маю лабараторыю!**

БІМ (далікатна вызваляецца з абдымкаў). **Сэр! Я яе ні на што не прамяняю. Яна, як новенькі долар. Сонца таксама падобна на манету, але ж — неразменнае. Яна — як сонца. Неразменная.**

КЕЙТ. **Кінь пустое, Бім! Пагаворым.**

БІМ. **У нас так малу часу. Мы даражым кожным мігам. Спыніся, імгненне!** (Цалуе дзяўчыну.) **Бо заўтра ўжо нічога не будзе.**

КЕЙТ. **Бім, яна загубіць цябе, твой талент, тваё жыццё! Яна прынесла табе зло.**

БІМ (горача, шчыра). **Не, сэр, не! Яна дзівосная! Фантастычная чарадзейка! Яна адкрыла мне агромністы свет шчасця, радасці... Яна напоўніла мяне, маё жыццё такім захапленнем, што я... проста задыхаюся. Гэта — каханне! Я дзякую неба за такую асалоду!**

КЕЙТ. **Якое захапленне! Самападман! Якое каханне! Няма гэтага ў прыродзе! Ёсць толькі палавая спакуса! Цяга! І ты, Бім, ты паддаўся звычайнаму жывёльнаму інстынкту! Бім!**

КРОШКА. **Бім! Чаму гэты джэнтльмен гаворыць непрыстойнасці!**

БІМ. Крошка, гэты джэнтльмен (шэпча ёй)— няшчасны чалавек. Ён не спазнаў кахання. Не крыўдуй на яго.

КРОШКА (падазрае). Ён нехарошы. (Упэўнена). Ён злы!

КЕЙТ. Ты ў тумане экстазу, Бім. Яна табе здрадзіць.

КРОШКА. Ён крыўдзіць мяне, Бім.

БІМ. А ты даруй яму, Крошка. Пашкадуй яго.

КЕЙТ. Мне трэба таленавіты памочнік. Мне патрэбен наследнік, Бім. Маім ідэям. Мы адкрыем з табой такі фантастычны свет, дзе ты спазнаеш радасць валадара магутных сіл прыроды. Ты адкрыеш для сябе прыгажосць і хараство сілы.

БІМ. Сэр! А прыгожасць ласкі, пекнаты, міласці! Крошка! Пакажы сябе! (Паднімае і ставіць яе на лаўку). Паглядзіце, сэр! Вось пачатак усіх пачаткаў! Пачатак жыцця! Аснова. Вось яна — найвялікшая сіла прыроды. Сама прырода! Вось яна — прыгажосць, чыстая, празрыстая, як каляровая вясёлка. Яна мой ідэал, мая рэлігія.

КЕЙТ. Час развее гэта, як вясёлку, як туман. А я клічу цябе да вечнага.

КРОШКА (агледзела Кейта). Ён дурны, Бім!

БІМ. Ён геній, Крошка. Ён вялікі маэстра. Ён — усемагутны, як бог.

КРОШКА (насцярожылася). Калі ён табе... Калі ваша навука, вашы ідэі даражэй табе... Калі табе трэба з ім, я адпушчу цябе. Для цябе я... Хочаш быць свабодным! Я зараз жа кінуся туды! У вір!

БІМ. Не, Крошка! Ты ж ведаеш, што я тут жа нырну следам ратаваць цябе, ратаваць цябе на гэтыя кароткія чатыры гадзіны.

КРОШКА. Вот! (У паядынку з Кейтам яна адчула сябе пераможцай). Гэта самападман! Для яго я — жыццё. Я ўсе яго мукі-пакуты вазьму сабе і буду шчаслівай. (Тлумачыць, як тупому дзіцяці). Вось гэта і ёсць каханне.

КЕЙТ. Пустаслоўе гэта! Абстракцыя! Гэтага не бывае! Не было! Гэта выдумка паэтаў!

БІМ. Сэр! А я! Абстракцыя! Я — ёсць. І яна ёсць. Яна рэальная. Можаце абмацаць... Мяне!! Значыць — бывае! Вы ўпершыню бачыце такое дзіва! А можа, нас толькі двое, Крошка! Нават і тады, калі б нас было толькі двое з пяці мільярдаў, толькі двое шчаслівых, то і тады богу варта было стварыць гэты свет. Нават калі нас толькі двое!

ГОЛАС ДЫКТАРА. Канцылярыя прэзідэнта паведамляе: камандаванне нашага ваенна-марскога флоту патрабуе ад варожай арматы спыніць набліжэнне да вострава Васкрасення. Аднак караблі гэтай арматы ігнаруюць загад нашага ваенна-марскога міністра. Астаюцца лічаныя гадзіны... Маліцеся аб літасці богавай. Ядзерная вайна на парозе вашага дома.

БІМ (у трывозе). Крошка! Расінка мая! Мой сусвет!

КЕЙТ. Не веру. Самападман. Сон. (Праціpae акуляры. Тым часам хлопец і дзяўчына знікаюць).

Прыходзіць Анджэла.

АНДЖЭЛА. Сэр. Вас тэрмінова запрашае прэзідэнт.

КЕЙТ. Тэрмінова! Пэўна, прабіла гадзіна, Ангел...

АНДЖЭЛА. Прабіла палавіну другой.

КЕЙТ. Не, дарагі мой, не другой, а напэўна апошняй. Ну, Ангел, бывай.

АНДЖЭЛА. Я з вамі, сэр.

КЕЙТ. А можа, застанешся! Аставайся. Ідзі ў бар. Там стрыптыз. Заўтра яго не будзе.

АНДЖЭЛА. Не, сэр, там кожны дзень. Без выхадных.

КЕЙТ. Было... Кожны дзень было. Сёння апошні дзень.

АНДЖЭЛА. А гэтая пара... Вы сказалі — «наследнік», не вашы! Гэтыя двое!

КЕЙТ. На жаль! Пара... На жаль, іх толькі двое. (Успамінае.) «Нават, калі нас толькі двое...»

Раптам гасне святло. У высі ледзь прыкметна мігцяць зоркі Вялікай Мядзведзіцы.

ЗАЦЯМНЕННЕ.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ.

Пасля любоўных уцех самка
забівае самца і пажырае.
(З жыцця скарпіёнаў.)

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ.

З цемры, аднекуль здалёк, быццам з нябесных міжзорных прастораў, чуецца трывожная, трагічная мелодыя. Дзіўныя, няведамыя інструменты ствараюць грозную, страшную музыку, і яна набліжаецца, нарастае, грыміць, як хваля цунамі, і адыходзіць. Толькі рэха паўтарае абрыўкі драматычнай мелодыі. Музыка абрываецца. Цішыня. Раптам цішыню парушае панічна-трывожны голас радыёдыктара.

ГОЛАС ДЫКТАРА. Увага! Увага! Слухайце экстраннае паведамленне. Увага! Увага! (Цікае хранометр.) Праз некалькі мінут слухайце важнае пасланне прэзідэнта народам свету. Увага... (Цікае хранометр.) Увага! Перадаём зварот прэзідэнта да ўрадаў і народаў усіх краін нашай планеты. (Цікае хранометр). Слухайце мемарандум прэзідэнта.

У пачатку выступлення ў голасе прэзідэнта чуецца трагічны надлом і глыбокае хваляванне. А потым праяўляюцца ноткі ўзбуджанасці, нейкага азарту, амаль трыумфу. Пад канец ён адчуў у сабе сілу, усемагутнасць бога. Не тварца, а разбуральніка. Разгневанага, помслівага. Бязлітаснага.

ГОЛАС ПРЭЗІДЭНТА. Грамадзяне свету! Будзьце мужнымі! Надышла гістарычная ракавая гадзіна. Супярэчнасці паміж намі і чырвонымі дасягнулі крытычнага напружання. І ў нас, і ў нашага праціўніка накапілася такая колькасць зброі масавага знішчэння — хімічнай, бактэрыялагічнай, атамнай, тэрмаядзернай і нейтроннай, якой ужо даволі, каб напоўніць рот попелам кожнаму, хто жыве на нашай планеце. Настала цяжкая, ліхая хвіліна рашыцца: альбо мы, альбо яны. Было б неразумным не апраўдаць надзеі, веры і спадзяванняў падаткаплацельшчыкаў. Мы праславімся ашуканцамі і марнатраўцамі, калі не выкарыстаем пагаспадарску іх шматгадовыя ахвяраванні на нашу справу. Мы абавязаны, нарэшце, вярнуць сабе здаровы сэнс, волю і цвёрды дух. Мы прывялі сябе і ўсё чалавецтва да трагедыі не сваёй цвёрдасцю, а хістаннем, не ўпэўненасцю і рашучасцю, а няўпэўненасцю і нерашучасцю, не сваёй дзейнасцю, а бяздзейнасцю. Быў час, калі, назіраючы, як па глобусе распаўзаецца чырвоны колер, у нас задрыжала не рука з мячом, а душа. Дык не будзем зноў імпульсіўнымі, даваяраючы кожнаму абяцанню аб міры, якое даюць ворагі міру, і адхіляць, як небяспечную, кожную прапанову прыхільнікаў міру праявіць сілу. Наш народ не хоча мець нічога агульнага з вайной, але наш народ гэтак жа не хоча мець нічога агульнага і са згоднiцтвам. У гэтым усе мы аднадушныя. Хай за рубяжом не думаюць, што акіян — перашкода нашай аднадушнасці. Зараз няма вайны. Але няма і міру! Усе людзі ненавідзяць вайну. Але вельмі часта нашы людзі яшчэ больш ненавідзяць дысцыпліну, свой абавязак. Мы павінны зразумець, спасцігнуць, засвоіць простую ісціну: доўгачаканы мір настае пасля вайны, і таму, каб гаварыць пра мір, неабходна, каб спачатку была нейкая вайна. А яе няма. Я ўпэўнены, што сучаснае пакаленне маіх суайчыннікаў з гатоўнасцю сустрэне суровае патрабаванне такой неабходнасці ў інтарэсах міру, дзеля ўсеагульнага спакою і цішыні. З поўным усведамленнем гэтай неабходнасці мы націснулі на ўсе пускавыя кнопкі нашых ракетна-ядзерных установак, і ў гэтую мінуту нашы ракеты ўжо набліжаюцца да намечаных цэляў у стане праціўніка. Будзьце мужнымі і вы! Хай паможа вам бог. (Прэзідэнт з палёгкаю ўздыхнуў і ўжо пры святле закончыў.) Калі ён зможа каму-небудзь памагчы.

Асвятляецца прасторны хол у рэзідэнцыі першага валадара падземнага царства. Не, гэта не тое прымітыўнае атамнае сховішча, пра якое мы мелі магчымасць чытаць нямала банальных фантастычных гісторый аб гібелі цывілізацыі ў ядзернай вайне. Не, гэта падземелле — ідэальнае збудаванне эпохі апошняга росквіту буржуазнай дэмакратыі, яе навукі і тэхнікі.

Сюды сабрана эліта дзелавых людзей з усяго свету: бізнесмены, прадпрыемцы, гаспадары буйнейшых манаполій, нацыянальных і міжнацыянальных карпарацый, банкіры і віднейшыя палітыканы сучаснасці. Гэта тыя ананімы, якія скрывалі свае імёны, маскіруючыся тэрмінамі «ваенна-прамысловы комплекс» і «транснацыянальныя карпарацыі».

Некаторыя з іх усхваляваны недахопам інфармацыі, другія ўрачыста манументальныя, як на малітве, бо залішне інфармаваны і дакладна ведаюць, на які трагічны рубеж яны прывялі чалавецтва. Зараз яны ўсе застылі, як на фатаграфіі: Кейт, Адольф, Людовік, Аўгуст, Фарыд, Хіра Сіта, сіньёра Фанфані з унукам Антоніо, Вудро з пляменніцай Алісай, святар, філосаф, а потым падыходзіць Леанора і іншыя.

З'яўляецца Прэзідэнт. Ён ашаломлены, ідзе крадучыся і насцярожана прыглядаецца то да аднаго, то да другога, нібы шукае сведку, які пацвердзіў бы, што злачынства, толькі што зробленае ім, зроблена не па сваёй волі, а пад гнётам неадольнага лёсу і службовага абавязку. Спыняецца, прыслухоўваецца.

Доўгая паўза. Нарэшце ўсе заварушыліся, фатаграфія ажывае.

ПРЭЗІДЭНТ. Ну, вось, панове, усё! Усё! Канец.

ВУДРО. А можа, пачатак!

ПРЭЗІДЭНТ. Так. Новы пачатак. Вялікі пачатак. (Святару.) Бласлаўце, ойча.

СВЯШЧЭННІК. Бог блаславіць. (Перахрысціў прэзідэнта). Пан прэзідэнт! Што гэта — чарговая вучэбная трывога?

АДОЛЬФ. Камедыю разыгрываеце?

ПРЭЗІДЭНТ. Панове! Будзьце мужнымі. Гэта не камедыя.

СІНЬЁРА ФАНФАНІ. Зноў генеральскія жартачкі!

ПРЭЗІДЭНТ. Якія жартачкі! Там зараз клякоча атамная вайна! Там зараз гіне чалавецтва! Руйнуецца цывілізацыя! Панове! Там катастрофа!

ІСАК. Задуманую, падрыхтаваную і арганізаваную аперацыю не называюць катастрофай. Называюць удалай альбо няўдалай. Чаго вам яшчэ хочацца?

СВЯШЧЭННІК. Сіньёр прэзідэнт, пры атамнай вайне ўсе павінны загінуць, а мы, як бачыце, жывыя. Вы хацелі настрашыць нас!

СІНЬЁРА ФАНФАНІ. Растлумачце, калі ласка, усім сваімі ўласнымі словамі, як мы ўцалелі!

ПРЭЗІДЭНТ. Так, вы ўцалелі. Панове! Вас я сабраў... А дакладней, наша Тайная Дума мне даручыла і я склікаў вас усіх, каторыя павінны ўцалець, як самая чыстая парода... высокая, знатная, лепшая частка прадстаўнікоў вялікага бізнесу і палітыкі, а таксама паўнацэнныя гаспадары транснацыянальных карпарацый, фінансісты, нафтавыя каралі, блізкія да іх генералы і некаторыя вельмі паважаныя дамы. Так сказаць — эліта... Паперкі няма! (Зразумеў, што давядзецца выкручвацца без шпаргалкі.) Лад жыцця ў нас будзе такі: строга і няўхільна ўсе павінны прытрымлівацца нашага галоўнага прынцыпу — недатыкальнасці прыватнай уласнасці і, як святую святых, захоўваць і аберагаць наш прынцып — святое права свабоды прадпрымальніцтва і асабістай ініцыятывы. Мы спынілі цывілізацыю на гэтым месцы і не дазволім нікому зрушыць нас ва векі вякоў. Той, хто намерыцца парушыць нашы прынцыпы, будзе асуджаны на скормліванне там, у ніжнім ярусе — самкам і самцам.

Паўза.

АЛІСА. А скажыце, калі ласка, як доўга вы намераны трымаць усіх нас тут, у гэтым падвале?

ЛЮДОВІК. Пакуль не састарышся.

ПРЭЗІДЭНТ. Мы вымушаны жыць тут, пакуль там (жэст угору) не скончыцца так званая радыяцыя. Пройдзе прыблізна дваццаць пяць гадоў. А магчыма, і яшчэ больш. Ці не так, містэр Кейт?

КЕЙТ. Магчыма, і яшчэ далей.

Чуваць галасы нездаволеных.

ЛЕАНОРА. Дваццаць пяць! Гэта ж кашмар!

тарам кармавыя культуры, кукурузу (прыкладна 6 кілаграмаў на гектар), і ўраджайнасць зялёнай масы павышаецца на 20—30 працэнтаў. У інстытуце створана спецыяльная ўстаноўка для атрымання вялікіх партый біястымулятараў, каб правесці шырокія вытворчыя выпрабаванні...

Яшчэ ў старажытнасці былі вядомы лекавыя ўласцівасці торфу. Апошнім часам цікавасць медыцыны да яго значна ўзрасла.

— Арганічныя злучэнні торфу, папярэднікамі якіх былі расліны,— працягвае акадэмік І. І. Ліштван,— надзвычай багатая сыравіна для атрымання самых разнастайных лекавых прэпаратаў. Вучоныя нашага інстытута член-карэспандэнт АН БССР П. І. Бялькевіч і кандыдат тэхнічных навук А. Ф. Далідовіч прапанавалі спосаб атрымання тарфянога воску для вытворчасці мазяў, якімі лечаць скураныя хваробы. Адна з іх — «Тарфенал» — праходзіць цяпер выпрабаванне ў многіх клініках краіны.

На аснове гэтага воску распрацоўваецца і тэхналогія вырабу разнастайных касметычных сродкаў з лекава-прафілактычнымі ўласцівасцямі. Гэта, напрыклад, ачышчальнік для рук, шампунь «Бяроста», туш для веек «Пушынка», губная памада... Выпуск некаторых навінак «тарфяной касметыкі» пачне сёлета Брэсцкі завод бытавой хіміі.

Ствараюцца ў інстытуце на аснове арганічных злучэнняў торфу процілухлінныя і процівірусныя прэпараты. Першыя вынікі абнадзейваюць. У супрацоўніцтве з вучонымі Адэскага інстытута вочных захворванняў і тканкавай тэрапіі імя Філатава спецыялісты ІТАНа распрацоўваюць рэкамендацыі па падборцы сыравіны для лекавага прэпарата «Тарфот». Ён ужо вырабляецца Адэскім заводам хіміка-фармацэўтычных прэпаратаў і нават пастаўляецца ў многія краіны свету.

Нарэшце, яшчэ адзін важны напрамак дзейнасці ІТАНа: даследаванні ў галіне аховы навакольнага асяроддзя. Распрацаваны спосаб улоўлівання шкодных кампанентаў з газавага і воднага асяроддзя. Дый самі тарфяныя радовішчы, як высвятляецца, выконваюць шэраг прыродаахоўных функцый. Вучоныя даследуюць гэтыя функцыі і вызначаюць адпаведныя прыёмы выкарыстання тарфянікаў. На падставе іх рэкамендацый ужо створаны ў Беларусі шматлікія заказнікі і запаведнікі.

...Балотны самародак, нягледзячы на сваю шматвяковую гісторыю, тоіць у сабе яшчэ шмат невядомага. І чым больш вывучаюць людзі торф, тым больш адкрываецца яго карысных якасцей.

Галіна ПШОНІК



□ У Беларускім анкалагічным інстытуце працягваюцца даследніцкія работы па лячэнню злаякасных пухлін. На здымку: урач, кандыдат медыцынскіх навук Эдуард Жаўрыд (з левага боку) і фізік Уладзімір Дрын рыхтуюцца да чарговага сеанса лячэння.

Фота Юрыя ІВАНОВА.



**Вучоныя Фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР укаранілі ў мінулым годзе на розных прадпрыемствах краіны 51 навуковую распрацоўку з эканамічным эфектам 10,4 мільёна рублёў. У садружнасці з супрацоўнікамі спецыяльнага канструктарска-тэхналагічнага бюро з доследнай вытворчасцю яны прымалі актыўны ўдзел у міжнародных, усесаюзных, рэспубліканскіх выстаўках і кірмашах. На міжнароднай выстаўцы «Інвекс-82» у горадзе Брно (ЧССР) залатым медалём узнагароджаны гідраўдарны прэс для ліставой штампоўкі, а электраэразійнай установы прысвоены Ганаровы дыплом. На міжнароднай выстаўцы ў Стакгольме гідраўдарны прэс закуплены шведскай фірмай.**

Міхаіл МОЎЧАН.

На здымку: прадстаўніку адной з японскіх фірм дэманструецца метад ратацыйнага рэзання, распрацаваны ў Фізіка-тэхнічным інстытуце.

Фота аўтара.

## СКАРБЫ БУЛЬБЯНОГА ШАЛУПІННЯ

**Калі васемнаццатае стагоддзе аддавала даніну кветкам бульбы, дзевятнаццатае цешылася смакам белай мякаці клубня, то практычны дваццаты дабраўся і да шалупіння! Вучоныя Акадэміі навук БССР у супрацоўніцтве з Цэнтральным навукова-даследчым інстытутам механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі Нечарназемнай зоны СССР і Усесаюзным навукова-даследчым інстытутам па атрыманню прадуктаў з бульбы распрацавалі прамысловы спосаб безадходнай яе перапрацоўкі. Аснова метаду — поўнае выкарыстанне бульбяной масы: на муку розных гатункаў, грануляваныя кармавыя дабаўкі і сумесі, безбялковы сок, які выкарыстоўваецца ў мікрабіялагічнай прамысловасці, і канцэнтрат гэтага соку, з дапамогай якога можна атрымліваць антыбіётык тэтрацыклін.**

С. СВЯТЛАНАВА.

# ЭВМ... на руцэ

Гэты прыбор, падобны на электронны наручны гадзіннік, мне паказалі ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце кардыялогіі. Медыкі сцвярджаюць, што навінка будзе эфектыўным памочнікам у барацьбе з самай распаўсюджанай сёння хваробаю.

— Толькі людзі, недасведчаныя ў медыцыне, упэўнены, што «хваробай стагоддзя» з'яўляецца злаякасная пухліна,— гаворыць адзін са стваральнікаў новага прыбора, кандыдат медыцынскіх навук Яраслаў Мікіцін.— Але куды больш пашыраны інфаркт міякарда, наогул парушэнні сардэчнай дзейнасці.

«Як гадзіннік!» — іншы раз гавораць пра здаровае сэрца, што б'ецца роўна, рытмічна. Збой рытму — часта трывожны сігнал. Кардыёлагам вядома каля двухсот відаў парушэння рытму сардэчнай дзейнасці. Але не ўсе з іх аднолькава небяспечныя. У людзей з паталагічнай арытміяй рызыка раптоўнай смерці павышаецца ў тры-чатыры разы. Зразумела, як важна задоўга да надыходу крытычнага стану папярэдзіць чалавека аб магчымай небяспецы, адрозніць паталагічную арытмію ад звычайнай, функцыянальнай.

Кардыяграма, якая запісваецца на працягу некалькіх хвілін, дае даволі абмежаваны малюнак сардэчнай дзейнасці. Да таго ж звычайна ў момант гэтай працэдуры чалавек знаходзіцца ў спакойным стане. А як будзе паводзіць сябе ягонае сэрца ў іншых умовах, пры фізічных і эмацыянальных нагрузках? На працягу сутак, тыдня, месяца? І якія адхіленні ад нормы ў рабоце сэрца, сістэматычна паўтараючыся, ствараюць небяспеку для здароўя?

Адказ на гэтыя і многія іншыя пытанні магла даць толькі такая кардыяграма, якая запісвалася б пастаянна, без перапынку, на працягу доўгага прамежку часу.

— Гэта пад сілу толькі партатыўнай электронна-вылічальнай машыне. Ну, скажам, як наручны гадзіннік, якую чалавек павінен пастаянна насіць пры сабе,— адказалі тэхнічныя спецыялісты, да якіх медыкі звярнуліся за парадай.

Вырашэннем праблемы заняліся супрацоўнікі лабараторыі медыцынскай электронікі Рэспубліканскага інстытута кардыялогіі — урач-кардыёлаг Я. Мікіцін, інжынер У. Якубовіч і іх калегі пад навуковым кіраўніцтвам дырэктара інстытута, доктара медыцынскіх навук, прафесара Георгія Сідарэнкі. Ператварыць медыцынскую ідэю ў тэхнічную дапамагалі інжынеры і канструктары мінскага завода «Электроніка».

Першыя прыборы праходзяць клінічныя выпрабаванні. Матэрыялы даследаванняў былі выкарыстаны ў навуковым дакладзе, з якім мінскія кардыёлагі выступілі на VIII Міжнародным кангрэсе па электракардыялогіі ў Будапешце.

Аркадзь БРЖАЗОЎСКІ.

# Назіральны пост планеты



**Сёлета ў верасні ў нашай рэспубліцы пачынае працаваць I Міжнародны кангрэс па біясферных запаведніках. На гэтым форуме распрацоўваюцца метадычныя і практычныя рэкамендацыі па стварэнню і вызначэнню аптымальнай сеткі біясферных запаведнікаў у розных краінах свету. Кангрэс працуе на базе Бярэзінскага запаведніка, які ў 1979 годзе ў ліку першых сямі з Савецкага Саюза ўключаны ў сусветную сетку біясферных запаведнікаў, што створана ў рамках міжнароднай Праграмы ЮНЕСКО «Чалавек і біясфера» (МАБ).**

**У сувязі з гэтай падзеяй намеснік дырэктара Бярэзінскага запаведніка па навуковай рабоце Міхаіл Кудзін дае інтэрв'ю выпуску «Пульс навукі».**



**— Нашым чытачам цікава даведацца, як выглядае Бярэзінскі запаведнік, якія яго асаблівасці.**

— Наш біясферны запаведнік уяўляе сабой унікальнае спалучэнне лясных прыродных комплексаў умеранага пояса Усходняй Еўропы. Плошча Бярэзінскага эталона прыроды, як яго з поўным правам называюць вучоныя,— 76,2 тысячы гектараў. Гэты недатыкальны для гаспадарчай дзейнасці рэгіён даволі шырокай (15—20 кіламетраў) паласой распасціраецца на 60 кіламетраў ад вытокаў Бярэзіны да возера Палік. На гэтай адлегласці Бярэзіна прымае каля 50 прытокаў, што абумоўлівае характар воднага рэжыму мясцовасці. Яе галоўная асаблівасць — балоты. Увогуле яны займаюць больш як 40 тысяч гектараў зямлі. У Еўропе не засталося больш такіх неабсяжных балотных масіваў, якія не змяніла дзейнасць чалавека.

Мне б хацелася звярнуць вашу ўвагу на тое, што вучоныя называюць «бярэзінскім феноменам». Наш запаведнік аддзяляюць ад такіх буйных гарадоў, як Мінск і Бабруйск, нямногім больш за сто кіламетраў. Менш буйныя гарады размешчаны яшчэ бліжэй. Знаходзячыся ў цэнтры ўрбанізацыі, ён нагадвае маленькі астравок бяспекі, накшталт тых, што намаляваны на праспектах для пешаходаў, якія не паспелі перайсці вуліцу. І тым не менш па колькасці і разнастайнасці флоры і фауны наш «астравок» не бяднейшы, а нават багацейшы за тыя, што аддалены ад шумных дарог цывілізацыі. Тут зарэгістравана 760 відаў сасудзістых раслін, якія належаць да 366 родаў і 94 сямей. Злакі і складанакветныя — самыя шматлікія з іх. 48 відаў раслін прызнаны рэдкімі. Лясы растуць тут усіх тыпаў, у іх пераважае сасна звычайная. Самы буйны прадстаўнік фауны — лось, колькасць іх у розныя гады вагаецца ад 650 да 1000. Наогул жа, у пойме Бярэзіны, навакольных лясах і водах, узятых пад ахову, водзіцца больш як 200 відаў птушак, 52 — млекакормячых, 13 — рэптылій і земнаводных, 34— рыб. Добра прыжыліся зубр, завезены сюды з Белавежскай пушчы, і еўрапейскі высакародны алень, дастаўлены з Расіі.

**— Ці не маглі б вы расказаць аб гісторыі стварэння запаведніка!**

— Пачну са слоў вядомага заолага, прафесара А. У. Фядзюшына. Ён пісаў: «На пачатку XX стагоддзя на тэрыторыі Беларусі былі цалкам знішчаны высакародны алень, собаль, зубр... Блізкія да гэтага былі лось, мядзведзь, куніца, глушэц... Стала відавочнай неабходнасць тэрміновага прыняцця мер па ўліку і дзейснай ахове каштоўных відаў жывёл, якія знікаюць».

У 1924 годзе на чале камісіі спецыялістаў вучоны быў камандзіраваны Наркамземам БССР у Барысаўскі раён для абследавання стану жывёльнага свету. Самым важным вынікам экспедыцыі было сенсацыйнае адкрыццё ў вярхоўі Бярэзіны каля 20 паселішчаў бабра, які лічыўся ўжо знішчаным. Калонія аказалася самай буйной у еўрапейскай частцы Савецкага Саюза, і гэтыя абставіны прадвызначылі пытанне аб тэрміновым аб'яўленні тэрыторыі запаведнай. 30 студзеня 1925 года ўрад рэспублікі прыняў рашэнне аб арганізацыі Бярэзінскага запаведніка.

**— Дарэчы, на якіх прынцыпах заснаваны рэжым аховы прыроды ў запаведнай гаспадарцы!**

— Зыходзячы з умоў, якія склаліся гістарычна, і задач біясферных запаведнікаў, наша тэрыторыя разбіта на чатыры ўчасткі. Першы — абсалютнай запаведнасці — я параўнаў бы з сейфам, які можна адчыніць, каб паглядзець, што там змяшчаецца, але адкуль нельга нічога ўзяць. Акрамя навуковых назіранняў, усялякая дзейнасць тут забаронена. Гэта паўднёвая частка левабярэжжа Бярэзіны плошчаю у 35 тысяч гектараў.

30 тысяч гектараў зямлі займае куток, куды ў навуковых мэтах можна пайсці са стрэльбай і сякераю. Тут дапускаецца рэгуляванне колькасці жывёл і санітарныя высечкі лесу, каб падтрымліваць неабходную раўнавагу ў прыродных комплексах. Цяпер, напрыклад, мы адстрэльваем там ваўкоў, колькасць якіх пагражальна павялічылася.

Экскурсійныя сцяжынкі і пляцоўкі — назіральнае «акно» ў свет некранутай прыроды. Яны даступныя для турыстаў, студэнтаў, школьнікаў. Звяры ў дэманстрацыйных вальерах прызвычаіліся да наведвальнікаў і ласункаў — хлеба, цукерак. Адчуваюць яны сябе тут, як у заапарку.

Нарэшце, 7 гектараў займае жылы пасёлак з сучаснымі катэджамі і гасцініцай, машынны парк.

**— Акрэсліце, калі ласка, кола інтарэсаў вучоных, якія працуюць у запаведніку.**

— Яно даволі шырокае. Гэта комплекснае вывучэнне лясоў, балот і іншых элементаў ландшафту; высвятленне ролі балот у вярхоўях Бярэзіны; распрацоўка метадаў аховы, аднаўлення і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў Верхнебярэзінскай нізіны, а таксама даследаванне біялагічных, экалагічных і іншых асаблівасцяў найбольш каштоўных папуляцый раслін і жывёл. Спраў хапае не толькі нам, штатным супрацоўнікам (нас больш як 200 чалавек), але і прыезджым вучоным.

**— Ці змяніўся навуковы профіль запаведніка пасля зацвярджэння яго ў статусе біясфернага!**

— Наогул не змяніўся, але стаў больш ясным, канкрэтным. Паводле рашэння Бюро Міжнароднага каардынацыйнага савета МАБ, задачы ўсіх біясферных запаведнікаў зводзяцца да трох галоўных палажэнняў. Перш-наперш гэта захаванне прыроднага фонду раслін і жывёл. Вялікае значэнне мае і правядзенне комплексных экалагічных даследаванняў навакольнага асяроддзя. Трэці пункт: асветніцкая работа і падрыхтоўка кадраў па пытаннях аховы навакольнага асяроддзя.

Найбольш востра на сучасным этапе стаіць праблема арганізацыі і правядзення экалагічнага маніторынга. Сутнасць яго — назіранне за станам прыродных, экалагічных сістэм і асобных кампанентаў біясферы: атмасферы, глебы... Гэта неабходна, каб вызначыць, як рэагуе прырода на дзейнасць чалавека. У выніку павінны быць распрацаваны экалагічныя рэкамендацыі для зніжэння і папярэджання адмоўных вынікаў гэтага ўплыву. Настане час, калі мы зможам прагназіраваць магчымыя змены ў біясферы пад уплывам «прэса» цывілізацыі. Вось чаму запаведнік я назваў бы назіральным пастом планеты, які сігналізуе аб яе будучыні.

**— А ці ёсць ужо сёння нейкія вынікі даследаванняў!**

— Найбольш значныя вынікі, на мой погляд, атрыманы па тэме восьмага праекта МАБ — «Захаванне прыродных раёнаў і генетычнага матэрыялу, які ўтрымліваецца ў іх». Гэтай тэмай мы займаемся даўно, можна сказаць, з моманту стварэння запаведніка. Так, колькасць бабровых хатак за гэты час павялічылася ў дзесяць разоў, і цяпер іх каля 200. 600 звяркоў вывезены для рассялення ў іншыя раёны краіны. Распладзіліся і іншыя віды жывёл, якім на пачатку стагоддзя пагражала поўнае знішчэнне. Мы высветлілі некаторыя заканамернасці ў развіцці жывёльнага свету. Заўважана, напрыклад, што глушцовых такавішчаў больш, калі ў наваколлі менш капытных. Чаму? Дзікі з'ядаюць птушыныя яйкі, алені і ласі харчуюцца буякамі, малінамі, ажынамі, чарнічнікам, брусанічнікам — гэта значыць, найперш кормам глушцоў і рабчыкаў. З другога боку, больш капытных — больш драпежнікаў... Менш засталося чапель. Як мяркуюць вучоныя, з-за павелічэння кіслотнасці ў ападках. У глебе пачынаюць гінуць розныя бактэрыі і чарвякі, у вадзе — планктон. Ці не з-за адсутнасці корму знікае і чорны бусел? У запаведніку ўсяго 7 гнёздаў гэтай рэдкай птушкі. Дый сотні іншых пытанняў ставяць перад сабой вучоныя. На многія з іх ужо атрыманы адказы. Значны вопыт назапашаны нашай лабараторыяй балотазнаўства. У Беларусі створаны ахоўваемы фонд балот — 194 радовішчы торфу (338 тысяч гектараў),—10,1 працэнта агульнай плошчы тарфянога фонду рэспублікі. Паколькі ў нас самы вялікі ў Еўропе рэзервуар балотнай вады, то і рэкамендацыі нашы маюць выключнае значэнне для аховы запаведных балот краю.

**Вёў інтэрв'ю**
**Юрый САПАЖКОЎ.**

**На здымках: намеснік дырэктара запаведніка па навуковай рабоце Міхаіл Кудзін; запаведны куточак на Бярэзіне.**

**Фота Яўгена КОКТЫША.**



**«ШТО З «ПЕСНЯРАМІ»!» ГЭТАЕ ПЫТАННЕ ЗАДАЮЦЬ «ФАНАГРАМЕ» ШМАТЛІКІЯ АМАТАРЫ МУЗЫКІ. ДАРЭЧЫ, СЯРОД ІХ НЕ ТОЛЬКІ ЖЫХАРЫ НАШАЙ РЭСПУБЛІКІ. ВОСЬ ШТО ПІША У РЭДАКЦЫЮ ЧЫТАЧ «БЕЛАРУСІ» З Г. АСТРАГОЖСКА ВАРОНЕЖСКАЙ ВОБЛАСЦІ, МАЛАДЫ ІНЖЫНЕР А. ГІЛЬ:**

**«МНЕ ЗДАЕЦЦА, Я ВЫКАЖУ НЕ ТОЛЬКІ СВАЮ ПРОСЬБУ, КАЛІ ПАПРАШУ РАСКАЗАЦЬ ПРА АНСАМБЛЬ «ПЕСНЯРЫ», ПРА ЯГО «СПРАВАЗДАЧНЫЯ» КАНЦЭРТЫ ПЕРАД МІНЧАНАМІ, ПРА ЯГО ПЛАНЫ НА БУДУЧЫНЮ...»**

Вецер ірваў афішы на тумбах і ганяў па мокрым асфальце жоўтае лісце. Рэдкія прахожыя, хаваючы твары за каўнярамі, імкнуліся хутчэй схавацца ад сцюдзёных павеваў. І толькі каля Палаца спорту чарнеў вялікі натоўп. Не зважаючы на кепскае надвор'е, усе чакалі свайго «шчасця» — лішняга білеціка...

І зноў на сцэну выйшлі хлопцы ў беларускіх вышываных кашулях, і загучалі чароўныя і пяшчотныя, як журчанне палескіх крыніц, песні.

— Амаль тры гады не чуў «Песняроў». Рознае гаварылі. Што, маўляў, яны здалі пазіцыі, не могуць кампенсаваць страту вядучага выканаўцы,— гаварыў мне пазней адзін знаёмы.— І новай сустрэчы чакаў з апаскай. Бывае ж: сустрэнеш аднагодка, даўно не бачыліся, а ён «здаў», з'явіліся маршчынкі на твары. Хоць і спрабуе трымацца бадзёра, выглядаць маладжавым, ды ўсё дарэмна... А вось «Песняры» — быццам усё тыя ж, але як сучасна выглядаюць, як сучасна іграюць і спяваюць! І самае галоўнае — спяваюць для ўсіх: і для маладых юнакоў і дзяўчат, якія, магчыма, слухаюць іх упершыню, і для тых, хто да гэтага часу носіць у сабе іх «Александрыну». Гэта проста феномен — «Песняры»!..

Сапраўды, у гісторыі савецкай эстрады няма прыкладу такой устойлівай папулярнасці ансамбля. Шмат яркіх «зорак» загаралася на эстрадзе, карысталіся поспехам іх дыскі, падзеяй станавіліся канцэрты. Але з цягам часу «зоркі» ператвараліся ў метэары, назаўсёды пакідаючы нябасхіл.

Так што, калі мы хочам разабрацца ў феномене «Песняроў», то варта закрануць такую далікатную тэму, як лёс вакальна-інструментальных ансамбляў.

Да сярэдзіны 70-х гадоў у эстрадных выканаўцаў і аўдыторыі слухачоў склалася, нарэшце, дакладнае ўяўленне аб ВІА, высветліліся тэндэнцыі развіцця жанру і яго лідэры. Нашы кампазітары і паэты даволі паспяхова працавалі на гэтай ніве, недахопу ў публіцы таксама не было. Але вось адметнага, самабытнага на сцэне з'явілася не так ужо і шмат...

Бадай найпершая праблема эстрады — рэпертуар. Калі ансамблі трымаюцца густу непатрабавальнай часткі слухачоў і ўключаюць у рэпертуар «наймаднейшую» п'есу або песню, разлік робіцца на шумны поспех у аўдыторыі. Так і бывае часам. Але гэта яшчэ не прыкметы сапраўднай творчай перамогі. Бо паўтараць іншых ці рабіць копіі з модных заходніх мадэлей не так ужо і цяжка. Больш складаны шлях — пошук свайго «я», сваіх тэм.

Мы ведаем, як вырашылі раней праблему рэпертуару «Песняры». Яны звярнуліся да твораў, дзе шырока выкарыстоўваюцца песенная класіка і фальклор, а шмат што ствараецца самімі ўдзельнікамі ансамбля. Яны імкнуцца ісці не за публікай, а весці за сабой слухача...

Здавалася, «Песняры» аднойчы і назаўсёды знайшлі сваё месца на эстрадзе. Амаль цэлае дзесяцігоддзе ансамбль быў на вяршыні глядацкай папулярнасці. Але не так даўно «барометры» чытацкіх і глядацкіх апытанняў пачалі паказваць «хваляванне». Напачатку «Песняры» ўступілі верхнія прыступкі папулярнасці, а потым пачалі апускацца ўніз. Вось тады і пачуліся размовы, што «Песняры» перажываюць крызіс.

Я не ўпэўнены, што гэты перыяд у творчым жыцці калектыву трэба называць крызісам, але, вядома ж, ён не быў бязвоблачным. Свядома ступіўшы на шлях ускладнення музычнага рэпертуару, паглыблення зместу песень, «Песняры» паступова прыйшлі да буйных форм. «Песня пра долю» стала, відаць, адной з лепшых савецкіх рок-опер, але далёка не ўсе слухачы, асабліва людзі сярэдняга ўзросту, змаглі ацаніць наватарства ансамбля.

Перад кіраўніком ансамбля Уладзімірам Мулявіным і яго калегамі паўстала пытанне: а ці правільны шлях яны абралі? Некаторыя ўдзельнікі калектыву патрабавалі рашуча адмежавацца ад зробленага кроку, вярнуцца зноў да масавай, папулярнай песні. Але Мулявін разумеў: ансамбль павінен ісці далей, спевакі і інструменталісты проста абавязаны шукаць сябе ў новых, складаных і ёмістых музычных кампазіцыях. Была створана яшчэ адна буйная кампазіцыя — «Курган» паводле паэмы Янкі Купалы, на музыку Ігара Лучанка.

Вядома, у такія творы слухачу нялёгка ўжывацца, з імі немагчыма часта выступаць на тэлебачанні. Менавіта таму «Песняры» даволі доўгі час не з'яўляліся на тэлеэкране. А гэта, паводле распаўсюджанай думкі, азначае для эстраднага ансамбля амаль катастрофу... Знайшліся і ў складзе «Песняроў» людзі, якія занадта хваравіта ўспрымалі гэты натуральны перыяд цяжкасцяў росту. З некаторымі музыкантамі-інструменталістамі, нават салістамі, ансамблю даводзілася расстацца. «Песнярам» давялося, як кажуць, на хаду, не спыняючы напружанай гастрольнай работы, выводзіць на пярэднюю «пазіцыю» эстрады новага, нікому не вядомага саліста Ігара Пеню. Зразумела, колькі працы, колькі нерваў напружання гэта каштавала. Дый гледачы доўгі час не маглі звыкнуцца з тым, што на месцы былога куміра стаіць незнаёмы артыст. З цягам часу Ігар Пеня трывала ўліўся ў ансамбль. Ён шмат працуе і паступова заваёўвае папулярнасць.

У той цяжкі час Уладзімір Мулявін напружана працаваў над новай кампазіцыяй на вершы Янкі Купалы. Поўныя горычы і пяшчоты, бунтарскія радкі вялікага песняра ансамбль здолеў «апрануць» у яркую мелодыю сучасных рытмаў. З гэтай кампазіцыяй «Песняры» выступілі мінулай восенню ў Мінскім Палацы спорту. І быў ашаламляльны поспех, які яшчэ раз даказаў, як шмат могуць «Песняры».

Крызіс мінуў гэтак жа імкліва, як і надышоў. «Песнярам» быў уручаны Залаты дыск, якім яны першыя сярод эстрадных выканаўцаў узнагароджаны на конкурсе, праведзеным фірмай «Мелодыя».

...У калектыў улілося яшчэ некалькі новых выканаўцаў: піяніст Аркадзь Эскін, бас-гітарыст Барыс Бярнштэйн, ударнік Уладзімір Бяляеў. Гэта таленавітыя музыканты, кожны з якіх дапоўніў «твар» ансамбля сваімі штрыхамі.

Цікавасць да творчасці «Песняроў» узрастае зноў. Адно са сведчанняў гэтаму — нядаўнія гастролі ансамбля ў Таліне. Аматараў песень зачаравала выканаўчае майстэрства Анатоля Кашапарава, Уладзіміра Дайнекі, Ігара Пені. Аматары сучасных рытмаў па заслугах ацанілі віртуознасць гітарыста Уладзіміра Ткачэнкі і іншых інструменталістаў. Вялікае ўражанне пакінуў і цыкл песень, напісаных піяністам ансамбля Ігарам Палівода на тэмы кантаты Роберта Бёрнса «Вясёлыя жабракі».

Сваё 15-годдзе калектыў сустракае ў добрай творчай «форме». Для сваёй самай патрабавальнай публікі — для мінчан і жыхароў Беларусі — «Песняры» толькі што падрыхтавалі антываенную кампазіцыю, музыку да якой напісаў Ігар Лучанок. Новымі фарбаміззяюць у палітры ансамбля і песні на словы паэта Уладзіміра Някляева. Варта дадаць, што стваралася новая праграма не ў цішыні рэпетыцыйных залаў, а ў напружаных гастрольных турнэ па краіне. Плённая была і паездка на Кубу, дзе «Песняры» з поспехам выступалі на прадстаўнічым фестывалі «Варадэра».

Вось так, з дня ў дзень, «Песняры» даказваюць, што іх шлях служэння музыцы, іх імкненне пакінуць у сучаснай песні яе народную душу — найбольш складаны, але, магчыма, адзіна правільны.

Спяваюць «Песняры»... І зноў тысячы людзей апладзіруюць ім стоячы...

**Павел ЯКУБОВІЧ.**

**Новую песню з рэпертуару «Песняроў» глядзіце на 27-й старонцы.**



□ НА ЗДЫМКАХ: кіраўнік ансамбля народны артыст БССР Уладзімір Мулявін; члены калектыву (злева направа): унізе — Уладзімір Ткачэнка, Анатоль Кашапараў, Валерый Дайнека, Ігар Пеня, Уладзіслаў Місевіч; уверсе — Уладзімір Бяляеў, Барыс Бярнштэйн, Аркадзь Эскін, Уладзімір Мулявін, Ігар Палівода; спяваюць «Песняры»...

Фота Юрыя ІВАНОВА і Пятра КАСТРАМЫ.

# ВЕСНІК «ФАНАГРАМЫ»



● Паводле ўсесаюзнай анкеты крытыкаў, музыказнаўцаў, супрацоўнікаў газет, часопісаў, радыё і тэлебачання (у тым ліку і з Мінска), лепшым джазменам 1982 года названы саксафаніст з Вільнюса Уладзімір Чакасін, музыкант агульнавядомага трыо сучаснай камернай музыкі «Ганелін-Тарасаў-Чакасін».

На здымку: **Уладзімір Чакасін** (злева).

Фота Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА.

● Да ўвагі філафаністаў — цікавыя лічбы аб тыражы пласцінак, выпушчаных у 1982 годзе. Сярод «гігантаў» на першым месцы па тыражу альбом групы «Задыяк» пад назвай «Дыска альянс» (2 млн. 200 тыс. экз.), «Песні У. Высоцкага» (1 млн. 800 тыс. экз.), «Вакол кахання» групы «Дзень добры, песня» (1 млн. 400 тыс. экз.). Сярод «міньёнаў» першынство атрымала пласцінка А. Пугачовай «Маэстра» (2 млн. 600 тыс. экз.). Далей ідуць пласцінкі з запісам песень «Жыццё» Ю. Антонава (2 млн. 200 тыс. экз.), «ЯК»-знішчальнік» У. Высоцкага (1 млн. 800 тыс. экз.). На шостай пазіцыі сярод «міньёнаў» беларускі ансамбль «Верасы» з песняй «Наша дыскатэка» (1 млн. 200 тыс. экз.). Цікава, што ў савецкай эстраднай музыцы рэкорд па тыражу трымае альбом Алы Пугачовай «Люстэрка душы» — прададзена ўжо каля 8 мільёнаў экземпляраў гэтай пласцінкі.

● Новаю гранню свайго таленту блiснуў перад шматлікімі прыхільнікамі Фрэнк Запа — адзін з найбольш значных прадстаўнікоў заходняй рок-музыкі. Ён запісаў музыку да трох сваіх балетаў з Лонданскім сімфанічным аркестрам.

● Паводле паведамлення англійскай прэсы, музыканты славутага ў свой час квінтэта «Дзіп Папл» вырашылі аднавіць ансамбль і выступіць з канцэртамі ў Еўропе і Амерыцы.

**НАВІНЫ МУЗЫЧНАЙ ТЭХНІКІ**

● Магчыма, у недалёкім часе давядзецца ставіць звышсучасныя, па сённяшніх мерках, прайгравальнікі на паліцы. Англійская фірма грамзапісу «Вірджын» выпусціла першую партыю так званых «кампактных дыскаў» для лазерных прайгравальнікаў. Час гучання прынцыпова новага дыска — каля 70 хвілін, такая пласцінка практычна вечная, бо ёй не страшныя механічныя пашкоджанні ад іголкі, што з'яўляецца галоўнай заганаю сучаснай прайгравальнай апаратуры.

● У Англіі створана партатыўная пішучая машынка, якая друкуе ноты. З яе дапамогай кампазітары маюць магчымасць хутка надрукаваць нотны запіс мелодыі, а таксама, калі гэта неабходна, і нотны стан.

**НАВІНЫ ГРАМЗАПІСУ**

● Сярод найбольш цікавых дыскаў, выдадзеных фірмай «Мелодыя» за апошні час, варта адзначыць першы альбом эстонскай групы «Руя», дыск «НЛА» з музыкай Д. Тухманава ў выкананні рок-групы «Масква». З ліцэнзійных выданняў найбольш адметныя альбомы групы піяніста Чыка Карыа «Вяртанне назаўжды», «Павольная рука» гітарыста Эрыка Клэптана, альбом з запісамі джазавых кампазіцый славутых скрыпачоў Стэфана Грапэлі і Жан-Люк Панці.

● Рок-група «Сузор'е», пра якую мы пісалі ў адным з папярэдніх выпускаў «Фанаграмы», завяршыла работу над сваёй першай пласцінкай для фірмы «Мелодыя» — «міньёнам», на якім запісаны чатыры кампазіцыі: «Вясновы дзень» В. Пучынскага і А. Філатава, «Стары мост» М. Клуге і В. Пучынскага, «Па вуліцы маёй» М. Тарывердзіева і Б. Ахмадулінай, «Адлятаюць птушкі ў вырай» Л. Мурашка і С. Красікава. Пласцінка неўзабаве выйдзе масавым тыражом.

● Англійскі ансамбль «Пінк Флойд», адзін з самых аўтарытэтных заходніх калектываў рок-музыкі часоў «Бітлз», выпусціў чарговы альбом пад назвай «Апошні кавалак (Рэквіем пасляваенай мары)». Гэта, па сутнасці, сольная работа музыканта групы Роджара Уотарса, які напісаў усе песні. У кампазіцыях гаворыцца пра небяспеку гонкі ўзбраення, магчымыя вынікі ядзернай вайны. Варта зазначыць, што яшчэ да выхаду ў свет гэтага дыска развітаўся з ансамблем піяніст Рык Райт.

● А вось новыя дыскі некаторых заходніх выканаўцаў: «Гэта цяжка» групы «Ху», «Шанга» Карласа Сантаны, «Рэкорды» групы «Форынэр», «Усё ў парадку, я бачу вясёлкі» Ёка Оны, «Квартэт» групы «Алтравокс», «Ю Бі 44» групы «Ю Бі 40», «Вятры перамен» групы «Джэферсан Старшып», «Песні. Першыя дзесяць гадоў» ансамбля «АББА», «Кода» групы «Лед Зэпелін».

**ВІЗІТНАЯ КАРТКА «ФАНАГРАМЫ»**



● У Мінску прайшлі канцэрты венгерскага спевака Рэжа Шолтаса, які выступіў у суправаджэнні групы «Ананімус». Шолтас мае багаты сцэнічны вопыт. У 1970 годзе ён заснаваў групу «Карвіна», з якой выпусціў некалькі дыскаў, якія сталі ў Венгрыі «залатымі». Апошнія гады спявак выступае сола, запісвае пласцінкі на венгерскай і англійскай мовах разам з вядучымі музыкантамі краіны. Асноўны напрамак яго творчасці, па словах самога спевака,— папулярны рок, пры гэтым ён шмат увагі надае мелодыі. Такія яго кампазіцыі, як «Ліся, песня», «Бумеранг», «О, не, не!», карысталіся поспехам у беларускага слухача.

У 1981 годзе на фестывалі венгерскага радыё і тэлебачання Шолтас атрымаў адразу некалькі прызоў — як лепшы кампазітар, аранжыроўшчык і выканаўца. Праз год, на такім жа фестывалі, спявак пацвердзіў свой высокі творчы ўзровень. У 1982 годзе на міжнародным фестывалі «Залаты Арфей» ён быў адзначаны першай прэміяй. Пазней выступіў з канцэртамі ў Ірландыі і Злучаных Штатах Амерыкі. Венгерская фірма грамзапісу «Пепіта» выдала тры альбомы Рэжа Шолтаса, якія карыстаюцца папулярнасцю сярод моладзі.

Гастролі, работа ў студыі, фестывалі распісаны ў Шолтаса на год наперад. У ягоным творчым раскладзе на 1984 год — турнэ па СССР. Сярод названых гарадоў ёсць і Мінск.

А гэта значыць, што мы зноў будзем мець прыемную магчымасць сустрэцца са спеваком, які ласкава падараваў «Фанаграме» і ўсім яе чытачам вось гэты свой здымак (з правага боку).

**КОНКУРСЫ**

● Значны поспех мелі спевакі і музыканты Беларусі на VII Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады. Другімі прэміямі адзначаны салістка Беларускага радыё і тэлебачання В. Пархоменка, інструментальны дуэт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі — М. Марэцці (домра) і В. Жывалеўскі (гітара). Трэція прэміі атрымалі салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Н. Мікуліч, дуэт цымбалістак А. Ткачовай і І. Грыгаровіч (Беларуская дзяржаўная кансерваторыя).

На конкурсе ўпэўнена заявілі пра сябе маладыя музыканты краіны, якіх добра ведаюць і ў Беларусі. Так, у жанры вакальна-інструментальных ансамбляў другой прэміяй быў адзначаны ансамбль «Аўтограф» з Масквы (кіраўнік А. Сіткавецкі). Дарэчы, рок-група ўпершыню стала лаўрэатам такога прэстыжнага конкурсу. Другой прэміі ўдастоены джазавы квартэт з Вільнюса пад кіраўніцтвам П. Вішняўскаса. Нагадаем, што гэты квартэт летась з поспехам выступіў на джазавым фестывалі «Віцебская восень-82».

● Адбыўся першы конкурс маладзёжных ансамбляў горада Мінска, у якім прыняло ўдзел 48 калектываў. Лаўрэатамі сталі ансамблі «Эліпс» Дома культуры трактаразаводцаў, «Студыю-7» тэатральна-мастацкага інстытута і «Крыніцы».

**Веснік «Фанаграмы» падрыхтаваў Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**

# «...РУЖОВАЙ ГРЫВЕ СКАКУНА»



Успамінаючы Аляксея Пысіна, я кожны раз прыгадваю яго словы: «Хочацца так жыць, каб заўсёды чулася ў душы жаданне працаваць». Ён сказаў іх у Каралішчавічах. Было гэта ў лістападзе семдзесят дзевятага года.

Кожны дзень, колькі былі там, мы з ім хадзілі па лесе, гаварылі пра жыццё, пра літаратуру, успаміналі падзеі вайны, якія давялося нам перажыць. Адпачывалі. А ён тым часам і працаваў. У гэтым я пераканаўся пазней, калі Аляксей Васільевіч выдаў сябе незнарок.

Быў ён тады пад уражаннем нядаўняй паездкі ў Краснаярскі край. Шушанскае, ленінскія мясціны... Яны глыбока запалі яму ў сэрца. У сэрцы паэта нарадзіліся пранікнёныя, хвалюючыя радкі, поўныя вялікай любові да Уладзіміра Ільіча Леніна. Кожны раз, калі я прасіў яго: «Пачытай, Аляксей, што-небудзь», ён пачынаў з тых вершаў. І заўсёды чытаў неяк па-асобаму: задумліва, як бы слухаў, выявяраў тым часам нешта ў сабе. І заўсёды, пачытаўшы, падоўгу маўчаў, цягуча шоргаючы падэшвамі чаравікаў па апалым лісці. Маўчыць, маўчыць, потым ні з таго, ні з сяго: «У вас на Гомельшчыне бытуе такое слова?..», «Паслухай, як знаходзіш гэты радок?..», «А ці можна так сказаць?..» Адкажаш яму што — ён іншы раз прамаўчыць, а то кіне адрывіста: «Не, давай падумаем».

Аднаго разу ў лесе ўвагу маю прыцягнула магутная, разгалістая, кашлатая елка. Я спыніўся, паглядзеў на яе, так сабе, між іншым, сказаў:

— Ну, што задумалася, варожка старая?

— А чаму ты яе так назваў — варожка? — ажывіўся Аляксей Васільевіч.

— Гэта не я назваў, а ляснік Бібікаў. Ён многім дрэвам у сваім абходзе мянушкі падаваў. Ёсць там генерал, брыгадзір, лейтэнант, медсястра, артыстка, даярка...

— Дзе ён, гэты ляснік, жыве?

— У маім апавяданні «Пах жывіцы».

Аляксей Васільевіч пільна паглядзеў на мяне.

— Даруй, братка, не чытаў. Раскажы пра свайго лесніка.

Звычайна ў размовах ён ці гаварыў, ці слухаў — не перапыняў, не перапытваў. На той раз час ад часу ўстаўляў: «Добра, вельмі добра, калі чалавек так любіць прыроду. Ну хто б мы былі без любові да прыроды, без адданасці роднай зямлі!..»

Заўсёды, вяртаючыся з прагулкі, мы неслі з лесу дровы — смаловыя карчы, сухое ламачча. Пад вечар у кутку невялікай палянкі, што перад Домам творчасці, клалі агонь. Каля агню збіраліся іншыя пісьменнікі. Здаралася, мы да позняга бавіліся ў гаворках, цешачыся цяплом ласкавага зыркага полымя. І ніхто з нас, безумоўна, не здагадваўся, што ў тым плёсткавым полымі шырокая неспакойная Аляксеева фантазія бачыла і чырвоныя крылы птушкі вернасці — лебедзя, і ружовую грыву баявога каня-скакуна...

Недзе пасля кастрычніцкіх свят Аляксей Васільевіч паехаў у Мінск — трэба было адвезці ў рэдакцыю «Маладосці» артыкул пра Міколу Аўрамчыка, які ён напісаў да ягонага шасцідзесяцігоддзя. Дый засумаваў па ўнуку, захацелася пабачыць. А тут якраз спадарожная машына падвярнулася. У той вечар да агню ніхто не прыйшоў: некаторыя ўжо дадому адбылі, іншыя заседзеліся за пісьмовымі сталамі. Я бавіў час каля вогнішча ў адзіноце.

Аляксей прыехаў назаўтра. Калі мы зноў спыніліся каля «варожкі», мне закарцела было папытаць у яго пра верш, які ён напісаў на сюжэт майго апавядання «Пах жывіцы». Але стрымаўся: захоча — сам скажа. Ён не сказаў. Прачытаў яго ўвечары каля агню. І гэты, і іншыя «каралішчавіцкія» вершы. Добра памятаецца і ніколі не забудзецца: ружова-жоўтыя водсветы полымя на прадаўгаватым задумлівым твары, крыху глухаваты, але цвёрды роўны голас...

**Вы ўсё з агню, імгненні,**
**лепіце,—**
**Дала іскрыначка адна**
**Узлёт**
**чырвоным крылам лебедзя,**
**Ружовай грыве**
**скакуна.**

. . . . . . . . . . .

**...Яшчэ ты кагосьці ўявіў**
**і спазнаў**
**У дрэве**
**з густымі брывамі.**
**Дняпроўская пушча з траншэй**
**і канаў**
**Паўстала**
**братамі,**
**сябрамі...**

Тры з тых вершаў Аляксей Васільевіч прапанаваў часопісу «Беларусь». Часопіс надрукаваў іх у трэцім нумары за 1980 год. Там жа змешчана шчырае віншаванне «Беларусі» з нагоды шасцідзесяцігоддзя паэта і партрэт яго — вясёлага, жыццярадаснага...

У Каралішчавічах разам з намі быў яшчэ адзін, як мы шчыра называлі яго, дружбак — Міша Новік, сын Валянціны Коўтун і Георгія Новіка. Ён прыехаў з бацькам. Часта хадзіў з намі на прагулкі. З чыстай дзіцячай непасрэднасцю Міша расказваў розныя наіўныя небыліцы, на якія здатная была яго дасужая хлапечая фантазія. Павольна паверне свае вялікія ясныя вочы і выдумляе: як ён у бабуліным агародзе набіў воўка, які ганяўся за маленькімі куранятамі, як у лесе напалохаў вялізнага, падобнага да бабулінага цяляці, зайца... Нам было з ім хораша і весела, усцешвала нічым не замглёная даверлівасць, з якою хлапчук хіліўся да людзей.

Раз'язджаліся мы з Каралішчавічаў разам. Вось тады Аляксей Васільевіч і сказаў тыя словы, якія прыгадаў я ў пачатку гэтых нататак.

Неўзабаве я атрымаў ад яго пісьмо. Ён паведамляў, што закончыў верш «Жураўліная горка», пачаты ў Доме творчасці. А яшчэ — што паслаў сваю кніжку Мішу Новіку. У наступным пісьме пісаў: «Я тады ў Каралішчавічах... добра адпачыў, набраўся такой моцы, што, прыехаўшы дамоў, працаваў як ніколі».

У маі 1981 года ў калгасе «Радзіма» Жлобінскага раёна быў наладжаны літаратурна-музычны вечар. Для ўдзелу ў вечары былі запрошаны і мы з Аляксеем Васільевічам.

Я прыехаў у Жлобін раней, чым ён. Апоўдні першы сакратар гаркома Васіль Ціханавіч Раманенка, старшыня райвыканкома Мікалай Фёдаравіч Шэкаў, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі гаркома Віталій Іванавіч Байкачоў і я сустрэлі яго на вакзале. Знаёмячыся з кіраўнікамі раёна, ён, кінулася мне на ўвагу, неяк усхвалявaўся. Я недаўменна падумаў: што здарылася, у чым прычына? Адказ на гэтыя пытанні знайшоўся крыху пазней — калі ў гасцініцы мы засталіся з ім сам-насам. «А ў Жлобінскім раёне, відаць, цэняць мастацкае слова і паважаюць літаратуру,— сказаў Аляксей Васільевіч.— Хіба ў першага сакратара гаркома партыі і старшыні райвыканкома спраў мала, што яны прыйшлі сустракаць незнаёмага пісьменніка! Ведаеш, Аляксандр, мяне гэта вельмі глыбока ўразіла».

Размова сама па сабе скіравалася на літаратуру, на асобныя творы. Аляксей Васільевіч цёпла, задушэўна гаварыў пра паэзію Зарыцкага — такая яна густая, казаў, і разам з тым светлая, празрыстая. Было і такое — калі ён, сурова звёўшы разлёцістыя бровы, задумаўся, пасля з крыўдай і болем сказаў: «Як падумаеш, дык горка робіцца на душы, што некаторыя нашы таварышы часам прыгожа гавораць адно, ды робяць другое. А слову ж пісьменніка, як гаварыў Сяргей Залыгін, надае асаб-

лівую вагомасць адзінства творчых і чалавечых паводзін».

Вечар у калгасе пачаўся пазнавата. Вядома — вясна, гарачая пара на вёсцы. Пакуль людзі павярталіся з палёў і ферм, пакуль дома па гаспадарцы паўпраўляліся... Але сабралася шмат — прасторная зала Дома культуры была запоўнена. Прыйшлі і моладзь, і сталыя вяскоўцы.

Пахла чаромхай. Па краях засланага чырвоным абрусам стала стаялі белапялёсткавыя букеты. Другі сакратар гаркома партыі Мікалай Емяльянавіч Хобатаў адрэкамендаваў нас, гасцей. Прысутныя адгукнуліся на яго словы воплескамі, а дзяўчынка ў белай блузачцы і з піянерскім гальштукам борздзенька ўзбегла на сцэну і падарыла спявачцы Вользе Шутавай, якая прыехала разам з намі, букет бэзу.

Я расказаў аб новых творах пісьменнікаў нашай рэспублікі. Аляксей Васільевіч прачытаў свае вершы, падзяліўся творчымі задумамі. Потым Вольга Паўлаўна выканала рускія і беларускія песні, выкладчык Магілёўскага культасветвучылішча. Валянцін Ермаловіч прадэкламаваў творы беларускіх аўтараў.

— Аляксей Васільевіч, пра аленя прачытайце! — выкрыкнуў хтосьці молада.

У шчыльную цікаўную цішыню клаліся словы:

**Ёсць на свеце мой ален,**
**Ёсць і гэткае маленне:**
**Будзь заўсёды у аленя,**
**Цёмны мох і светлы дзень!**

І зноў гучала песня. Вольга Шутава спусцілася са сцэны, хадзіла па праходзе між крэслаў, час ад часу спыняючыся, і спявала, спявала... Прысутныя дзякавалі ёй за шчырасць гарачымі воплескамі. Аляксей Васільевіч таксама апладзіраваў, потым нахіліўся да мяне і сказаў:

— Напішу верш «Вольга Шутава ў калгасе «Радзіма». Такая сіла песні!..

Ужо нараджаўся досвітак, калі мы вярталіся ў Жлобін. На дарозе, абапал якой роўнымі радамі раслі стройныя выносістыя бярозы, утварыўшы прыгожую алею, машына збавіла ход.

— Каб салаўёў не палохаць,— растлумачыў старшыня калгаса Васіль Васільевіч Прыліпка, які праводзіў нас.— Мы заўсёды тут едзем памалу.— І прапанаваў: — Давайце спынімся на хвіліну, паслухаем.

Хто ж не згодзіцца на такую прапанову!

Салаўі шалелі. Здавалася, птушак было столькі, што сядзелі яны на кожнай галінцы. Іх радасны залівісты пошчак звонка ляцеў усцяж дарогі над шырокімі абшарамі палёў. Мы сціснуліся ў захапленні, доўга моўчкі слухалі. Пасля Вольга Паўлаўна падышла да беластволага дрэва, прыхінулася да яго шчакою, нібы хацела таксама паслухаць, як пульсуе пад карою жыватворны сок, узяты каранямі з грудзей маці-зямлі. Аляксей Васільевіч глыбока ўдыхнуў чыстае волкае паветра, азваўся ўзрушана:

— Такое наўрад ці прыдумаеш, усё гэта трэба бачыць і чуць. Але ж якую дужасць дае душы родны край, Радзіма!..

Васіль Васільевіч Прыліпка ступіў да яго, моўчкі пацісну ямy руку. Ці то зноў за вершы, якія слухаў у Доме культуры, ці за гэтыя словы.

Цяпер успамін пра той маленькі, здавалася б, нязначны эпізод выклікае ўва мне дужа вострыя боль і пакуту. Па неадольным збегу трагічных абставін ён набыў для мяне якісьці жорсткі, бязлітасны сэнс. Справа ў тым, што ўдумлівага, клапатлівага старшыні калгаса, чалавечнага чалавека Васіля Прыліпкі таксама ўжо няма ў жывых. Было яму толькі сорак гадоў, калі ў верасні восемдзесят першага спынілася яго такое ж неспакойнае, гарачае, як і ў паэта Пысіна, сэрца.

З той сустрэчы з Аляксеем Васільевічам мы не бачыліся, але час ад часу размаўлялі па тэлефоне. Аднаго разу Мікола Гамолка сказаў мне, што Жлобінскі гарком партыі прыслаў на адрас Саюза пісьменнікаў рэспублікі падзяку работнікам культуры, якія ўдзельнічалі ў літаратурна-музычным вечары ў калгасе «Радзіма». Надарыўся выпадак, і я пераказаў гэта Аляксею. Ён памаўчаў, падумаўшы колькі хвілін, і зазначыў:

— А ведаеш, Аляксандр, гэта партыйная падзяка ў маім успрыманні вельмі родніцца з той шчырасцю і дабратой, якую на вечары выказвалі калгаснікі. З аднаго яны вытоку, так жа? З народнай любові да мастацкага слова, да роднай культуры. Таму яны прыемныя і дарагія сэрцу. Так жа?

За месяц да таго дня, калі Аляксея Васільевіча не стала, я атрымаў ад яго пісьмо. У ім, думаецца мне, яскрава выяўляюцца выдатныя рысы яго характару, і я, за невялікім выключэннем, падаю гэты ліст:

«...Вярнуўся з вёскі — з Рагачоўскага раёна. Усё там добра, цудоўна.

Што зрабіў за гэты час? Напісаў дзве паэмы для дзяцей (для ўнукаў). Аказваецца, калі не пішацца адно, можна пісаць другое нешта. Значыць, у памяці, у кожным з нас, ёсць шмат пластоў, адзін спустошыўся — другі ў запасе. Гэта мудры закон прыроды. Глядзі на штучны лес, пасеяны радамі. Усё сасняк. Сасна бярэ тое з зямлі, што ёй трэба, і выбірае свае пласты поўнасцю. Пасля галадае. Таму і лес такі той штучны, нягеглы. А калі і сасна, і бяроза, і дуб, і ясень — то ўсім усяго хапае, і ўсе расцё як трэба.

Відаць, да восені ў Мінску не буду. А ў верасні ці ў кастрычніку — у Каралішчавічах...

Усяго табе самага добрага. Твой Аляксей».

Несправядлівы, няўмольны лёс распарадзіўся па-свойму. Аляксея Пысіна, дарагога ўсім нам чалавека, няма сярод нас. Але яго цудоўная, гарачая і светлая паэзія многія гады будзе даваць «узлёт чырвоным крылам лебедзя, ружовай грыве скакуна».

**Аляксандр КАПУСЦІН.**

# ПА ПРАВУ ЛЮБОВІ



Маладая, блакітнавокая, з белымі, як лён, валасамі, якія хораша ахіналі яе прыгожы твар, Еўдакія Якаўлеўна Лось была прыкметная сярод тысяч людзей, што сабраліся ў дзень 20-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі да помніка загінуўшым воінам ва Ушачах. Яна стаяла побач з Уладзімірам Елісеевічам Лабанком — камандзірам партызанскага злучэння Полацка-Лепельскай зоны і кіраўнікамі Ушацкага раёна.

Мы з мужам падышлі, павіталіся. Уладзімір Елісеевіч пазнаёміў нас, і хутка ў нас, зямлячак, распачалася гаворка. Згадвалі землякоў, гутарылі пра падзеі, справы ў раёне. Яна трымала ў руках блакнот — відаць, рабіла нейкія нататкі, а ў мяне ў руках былі кветкі. Вянкі і кветкі былі ўскладзены на брацкую магілу раней, і Еўдакія Якаўлеўна, відаць, не зусім разумела, чаму я не зрабіла гэтага.

Сказала ёй, што букет хачу пакласці на магілу невядомых салдат, якія загінулі ў 1944 годзе і пахаваны ў лесе за Ушацкім ільнозаводам, па дарозе на Завячэлле.

— Там, у лесе, быў вялікі бой. Шмат хлопцаў склалі тады свае галовы. І не мелі часу іхнія франтавыя сябры паставіць помнік — спяшаліся на захад, на Берлін, каб адпомсціць ворагу за смерць і слёзы. Насыпалі пясчаны грудок, паставілі дошчачку з надпісам. А потым ужо мы з Валянцінай Рыгораўнай Квяцінскай, сакратаром камсамольскай арганізацыі льнозавода, вырашылі паставіць на салдацкай магіле помнік. Сабралі дошкі, абгаблявалі іх і самі зрабілі абеліск трохметровай вышыні. Пасадзілі на магіле і вакол кветкі... Вось і гэтыя кветкі павязу туды,— скончыла я свой расказ.

Вочы Еўдакіі Якаўлеўны заблішчэлі ад слёз. «І я з вамі!»— вырашыла яна імгненна, і мы накіраваліся ў гэты недалёкі шлях. І цяпер ужо я слухала расказ пра гора яе аднавяскоўцаў, пра тых, каго ўжо няма ў жывых, пра бачанае і перажытае ёй самой.

Наперадзе паказаўся знаёмы пагорак. Навокал трывожна шумелі сосны, нібыта адцяняючы птушыныя галасы. Здаецца, усё, як было тады, у 1944 годзе. Ды вось толькі не бачу абеліска. Выйшлі мы з машыны, падняліся на пагорак і... не знайшлі магілы. (Як высветлілася пазней, прах салдат перавезлі ў брацкую магілу ва Ушачы). Засталося толькі месца, дзе яны аддалі сваё жыццё, пралілі сваю кроў. Стаўшы на калені, паклалі кветкі проста на зямлю... Балючае маўчанне — і раптам голас Еўдакіі Якаўлеўны:

— Ёсць у свеце нешта бясцэннае — гэта Радзіма! За яе, калі спатрэбіцца, можна і жыццё аддаць. І нашы хлопцы зрабілі гэта!

Так, яна ўмела бачыць у людзях незвычайна вялікае — адданасць Радзіме, партыі. Яна ўжо цяпер бачыла свет у новых вымярэннях і ўчынкі людзей ацэньвала з гэтай вышыні.

Вось так і адбылося наша першае знаёмства. З таго часу мы падтрымлівалі сувязь, пісалі адна адной лісты. Еўдакія Лось умела сябраваць і цаніла дружбу таварышаў. Яна радавалася поспехам сяброў і засмучалася іх няўдачамі. Памятаю, як у 1967 годзе яна прыходзіла да мяне ў гасцініцу «Мінск», каб павіншаваць з абраннем намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Без званка, без папярэджання, з кветкамі ў руках яна ўвайшла ў нумар гасцініцы, дзе я жыла. Абедзве ўзрадаваныя, шчаслівыя, мы абняліся і заплакалі. Гэта былі слёзы шчасця. Першае ж пытанне Еўдакіі Якаўлеўны прымусіла мяне як мага падрабязней расказваць пра тое, як праходзіла пасяджэнне, пра тое, што я адчувала, калі пачуліся апладысменты і дэпутаты пачалі мяне віншаваць...

Яна вельмі радавалася майму шчасцю.

— Я рада ўдвая,— падкрэсліла паэтэса.— Па-першае, што намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР абралі жанчыну, а па-другое, таму што абралі маю дарагую зямлячку...

Доўга сядзелі мы, Еўдакія Якаўлеўна ўспаміНала Ушачы, свой дом, тую беднасць і галечу, у якой жылі нашы бацькі і дзяды, і чытала, чытала вершы:

**...Тады мне пілося, вялося!**
**А што там пілося!**
**Вада са скарынкай.**
**А што там вялося!**
**Чарэп'е пад скрынкай.**
**Нечага быць**
**За эпоху хітрэйшай:**
**Сённяшні дзень**
**За «тады» харашэйшы!**
**Ды і сама,**

**Калі праўду шапну я,**
**Стала даўно**
**Цікавейшай за тую...**

А пасля — пайшлі гуляць па вуліцах Мінска, у парк. Там было многалюдна, дзеці каталіся на лыжах. І раптам побач з намі дзяўчынка гадоў пяці ўпала ў снег і заплакала. Еўдакія Якаўлеўна раней за маці падбегла ёй на дапамогу і сказала:

— Не плач, гэта не страшна. Ты яшчэ не раз у сваім жыцці будзеш падаць, галоўнае толькі своечасова падняцца!

Тады я падумала, як глыбока і мудра яна сказала, і пашкадавала, што дзяўчынка яшчэ не магла зразумець гэтых слоў.

Еўдакія Якаўлеўна любіла людзей, любіла жыццё. Сама была любіміцай многіх, падтрымліваючы ўзвышана-інтэлектуальныя адносіны. Не ўсё добра складвалася ў яе асабістым жыцці, але не любіла яна расказваць пра сваё гора — толькі сама ведала, колькі начэй правяла без сну, у слязах. Нягледзячы ні на што, заставалася вернай сабе і сябрам сваім.

У паэтычных радках Еўдакіі Лось лёгка знаходзіць адрасы людзей, пра якіх яна пісала. З выключнай дакладнасцю яна апісвае прыроду роднага краю, сваіх землякоў, родных і блізкіх. Яна шмат ездзіла. Аднойчы ў чэрвені прыехала да мяне ў Паставы. Зайшла ў кабінет вясёлая:

— Я вам прывезла сонечнае надвор'е!

А ў мяне цяжка было на сэрцы з-за гэтага сонечнага надвор'я — усё на палях гарэла. Дажджу не было, на палях гінулі пасевы. Пачала расказваць Еўдакіі Якаўлеўне пра свае клопаты, прапанавала паехаць на калгасныя палі. І хутка мы ўжо ехалі ў Курапольскую зону, дзе землі больш нізкія, урадлівыя, і збажына там расце добрая. Пад'ехалі да неабсяжнага льнянога поля. Лён вырас добры, пачаў цвісці. Еўдакія Якаўлеўна падышла, сарвала блакітную кветку і прыціхла. Ветрык злёгку пагойдваў кветкі лёну, і ўвесь гэты велізарны палетак здаваўся блакітным морам. Еўдакія Якаўлеўна ўздыхнула на поўныя грудзі і ўсклікнула:

— Якое ж гэта хараство! Я яшчэ ніколі такога не бачыла...

Блакітныя вочы яе зліліся з кветкамі лёну, і я тады сказала, што яе вочы менавіта такога ж колеру, як гэтыя кветкі.

Мы падышлі да бярозак ускрай поля і селі. Гаварылі аб усім. Аб справах калгасных і справах чалавечых. Еўдакія Якаўлеўна ў задуменні гаварыла:

— Вось каб пісаць у вершах пра такое, трэба самому гэта бачыць. І мала бачыць, трэба ўмець перадаць убачанае людзям. А каб перадаць вось гэтае непаўторнае хараство калгаснага поля, трэба мець талент і веды. Я б хацела валодаць больш дасканалымі ведамі. Мне заўсёды хацелася ў арыгінале чытаць антычных паэтаў: Вяргілія, Лукрэцыя, Катула... Гэтыя вялікія паэты пазбягалі ўсялякай напышлівасці і вытанчанасці, што з'яўляецца прыкметай паэзіі нашага часу. Яны вызначаліся дакладнасцю адлюстравання не толькі душэўных парыванняў, але і стану нораваў. І мне зараз вельмі хацелася б далучыцца да іх паэзіі, убачыць, як яны апісвалі хараство прыроды. Параўнаць з маім і знайсці зусім новыя словы, каб дакладней выказаць тое, што акружае нас. Калі б мы добра ведалі мінулае, мы б лепей разумелі і сучаснае...

Яна паднялася, абняла бярозку, прыціснулася шчакой да яе кары і пацалавала.

— Усе любяць прыроду,— прамовіла паэтэса,— але наўрад ці хто любіць так моцна, як я, вёскі і прыроду, ва ўсіх яе праявах — ад кволай былінкі да вось гэтай бярозкі...

Так, яна сапраўды бясконца любіла прыроду. Гэта было праявай найвышэйшай любові да жыцця. І гэтая тайна любові жыла між радкоў яе вершаў, ва ўспамінах.

Прыязджала Еўдакія Лось да мяне і праз два гады, у жніво. Ураджай у нас вырас надзіва добры, але дажджы не давалі яго ўбраць. Збажыну пакруціла, шмат было страт. Усе былі ў полі, жылі адным клопатам, адной трывогай. Бачыла мой стан, мае перажыванні і Еўдакія Якаўлеўна, таму не стрывала, спыталася:

— Няўжо ўсе сакратары райкомаў партыі вось гэтак хвалююцца?

— Не магу інакай,— адказала я.— Мяркую, лёс усіх сакратароў райкомаў аднолькавы. Мы радуемся, калі ўсё добра, і засмучаемся, калі справы ідуць дрэнна.

Паабедалі разам з камбайнерамі і паехалі ў Віцебск. У хуткім часе ўжо з Мінска яна пісала мне:

«Паважаная Валянціна Аляксееўна! Вось шлю свой верш. Вазьміце на ўспаміны аб нашай сустрэчы. Я яго не друкавала, не маючы Вашай думкі. Пасылаю новую кнігу Вам...»

Радкі з яе верша «Мая зямлячка» дагэтуль гучаць для мяне голасам дарагога для мяне паэта:

> **Дзе гаспадыні быць, калі не**
> **ў полі,**
> **З якімі ёй гасцямі гасцяваць.**
> **Устане збажына — турбот даволі,**
> **А як яе паблытаную зжаць!**
> **Збірае сакратар сваіх умельцаў,**
> **Яе машына ў полі да начы.**
> **Ля кожнага дзяжурнага цяпельца**
> **Яе тады кватэра і харчы...**

Сустрэчы, лісты, новыя кнігі, дасланыя мне Еўдакіяй Лось... Мяне радавалі яе поспехі, яна сачыла за маёй працай. І сёння — і цяпер! — чую я яе звонкі, заўсёды ўсхваляваны голас, бачу, як яна ўзіраецца ў твары людзей, распытваючы пра іх справы, пра іх жыццё.

Быць з людзьмі, жыць справамі сваіх сучаснікаў, сустракацца з самымі цікавымі з іх — вялікае шчасце. Еўдакія Якаўлеўна цягнулася да людзей заўсёды — гэта была яе школа духоўнага росту, школа станаўлення асобы. Яна прагна ўбірала ўсё, што магла спазнаць пра свет, пра жыццё людзей. Яна часта гаварыла, што самае прыемнае ў жыцці — адкрываць у іх нешта новае і дзяліцца гэтым з іншымі.

І таму столькі сяброў было ў яе на ўсёй нашай зямлі, і таму столькі сяброў сёння ў яе кніг.

**Валянціна КЛАЧКОВА.**

**ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ХВЯДОСА ШЫНКЛЕРА**



# ЛІСТЫ ВОГНЕННЫХ ГАДОЎ

У верасні бягучага года беларускаму празаіку Хвядосу Шынклеру споўнілася б 80 гадоў, з іх ён пражыў толькі 39. Амаль усе свае творы ён прысвяціў тэме індустрыяльнага развіцця рэспублікі. Шырокую папулярнасць у 20—30-я гады набылі апавяданні Хв. Шынклера «Пас зачапіў», «Ічэ», «Апошні рэйс», аповесці «Сонца пад шпалы», «Запіскі інструктара Томана» і інш. На матэрыяле з жыцця беларускіх чыгуначнікаў пісьменнік адлюстроўваў рост новай грамадскай свядомасці, фарміраванне чалавека-творцы ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва.

У цяжкі для Радзімы ваенны час Хв. Шынклер добраахвотнікам уступае ў Чырвоную Армію. У сакавіку—ліпені 1942 года ён праходзіў курс паскоранага навучання ў камандным вучылішчы сувязістаў у горадзе Кыштыме Чэлябінскай вобласці. Перад адыходам на фронт Шынклер здаў у друк дакументальную кнігу «Пульс жыцця».

У архіве сям'і пісьменніка захоўваюцца цікавыя матэрыялы. Сярод іх — адзіны і апошні партрэт Шынклера-вайскоўца, зроблены невядомым, але, бясспрэчна, таленавітым мастаком, хутчэй за ўсё, таварышам-курсантам. Значную цікавасць маюць лісты пісьменніка. Адрасаваныя блізкім і родным, яны даносяць подых векапомных дзён, раскрываючы унутраны свет сціплага і мужнага чалавека, грамадзяніна, які сваімі думамі, трывогамі і спадзяваннямі быў з народам. Вось паасобныя вытрымкі з лістоў:

«29/III-42. ...Ужо тры дні, як я курсант... Трапіў у стралковую часць, таму што не маю ніякай воінскай падрыхтоўкі. Хаця далей і больш трэба вучыцца, але затое больш ведаць буду... Трапіў у вельмі добры ўзвод, ёсць мілыя і прыемныя хлопцы... Рэжым строгі. Пад'ём у 6 гадзін, адбой у 23. Нашаму Юрку (16-гадовы сын пісьменніка — **А. Л.**) з яго капаннем і ўставаннем была б бяда — па два нарады, не менш, у дзень. Вось, сынок, трэніруйся на хуткасць ва ўсім і на дакладнасць — спатрэбіцца...»

«11/IV. ...Спасцігаю шмат новых ісцін, адчуваю, што ўсё гэта мне спатрэбіцца. А для назіранняў (тыпы, характары) матэрыял вельмі багаты. Будзе, відаць, яшчэ кніга. З часам, канечне...»

«19/IV. ...Засумаваў па чытанню. Грызу ўставы... Хапіла мне і хадзьбы па 7—8, а то і дзесяць гадзін. Усё гэта, канечне, не перашкодзіць ведаць і на грамадзянскім становішчы (у будучым). Пісаць жа пра вайну і вайскоўцаў трэба будзе шмат. Нядрэнна будзе больш усвядомлена глядзець на матэрыял».

«29/IV. ...Страшэнна крыўдна, што ўсяму распарадку, які садзейнічае ўмацаванню духу і цела, не хоча падпарадкавацца сэрца. Здае ўсё больш, і мне часта бывае вельмі цяжка. Ну, але нічога, абы-дзецца як-небудзь».

«23/VI. ...Шмат перажыта за гэты месяц, не апішаш усяго... На днях тут быў літ. вечар. Мяне... чытаў артыст ленінградскага ТЮГа — таксама курсант (чытаўся ўрывак з кнігі Хв. Шынклера «Пульс жыцця» — **А. Л.**)... Сабралі (вечар быў у горадзе) 3 000 р. на танкавую калону «Работнік друку». Вось-вось — і на поезд. Ва ўсіх прыўзняты настрой. Дзе буду — не ведаю...»

«1/VII. ...Дарагія мае! Усім сэрцам, усімі думкамі сваімі сёння я з вамі. Два гадкі маёй слаўнай дачушцы. Так хочацца моцна-моцна прыціснуць яе да сябе, расцалаваць мілую залатую галоўку. Беражыце, пястуйце Ану маю на радасць сабе і мне — пастарэўшаму, учарнеўшаму татку... Нядаўна быў у нас генерал, на аглядзе першы раз пачулі мы: «Добры дзень, таварышы камандзіры!»... Пішу ў лесе на прыкладзе. Маршалы калісьці пісалі на барабанах. Ці буду я маршалам?! Можа, жазло маршала і ляжыць у будучым маім ранцы?..»

«16/X. ...Усё больш накіпае злосць на вылюдкаў, якія так нахабна, так па-звярынаму парушылі спакой нашай краіны, прынеслі пакуты нашаму народу. Усе мае сябры і байцы гараць пачуццём помсты. Так, мы адпомсцім у поўную меру».

Гэтае абяцанне-клятва неўзабаве было здзейснена малодшым лейтэнантам Шынклерам і байцамі яго ўзвода, якім давялося змагацца за Сталінград у самы напружаны, драматычны перыяд бітвы на Волзе.

Хв. Шынклеру не наканавана было ажыццявіць сваю мару — удзельнічаць у вызваленні роднай Беларусі. 25 кастрычніка 1942 года ён геройскі загінуў на вышыні 95,9 ля пасёлка Бекетаўка — паўднёвай ускраіны Сталінграда.

Юбілейная дата пісьменніка-воіна Хвядоса Сяргеевіча Шынклера асветлена водбліскам агульнанародных гістарычных савецкіх дат — адзначанага ў гэтым годзе 40-годдзя Сталінградскай перамогі і недалёкага ўжо свята — 40-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх акупантаў. Юбілей пісьменніка — яшчэ адна нагода асэнсаваць пройдзены ім шлях, падумаць аб адказнасці чалавека перад сваім часам.

**Антаніна ЛЫСЕНКА.**

ГЭТАГА ЦІХМЯНАГА, ЗАКЛАПОЧАНАГА МАЛАДОГА ЧАЛАВЕКА Ў ДНІ ВАЙНЫ НЯРЭДКА МОЖНА БЫЛО СУСТРЭЦЬ НА МІНСКІХ ВУЛІЦАХ. НА САМАЙ СПРАВЕ ПАРТЫЗАНСКІ СУВЯЗНЫ, РАЗВЕДЧЫК ПЯТРО КАРПЕКА ВЫКОНВАЎ АДКАЗНЫЯ БАЯВЫЯ ЗАДАННІ. ПРАПАНУЕМ УСПАМІНЫ БЫЛОГА ПАДПОЛЬШЧЫКА.

★ У "ЛЕТАПІС НАРОДНАЙ СЛАВЫ"

# ПЕРШАЯ ДЫВЕРСІЯ

У канцы чэрвеня 1941 года фашысты акупіравалі Мінск. Адышоў фронт на ўсход і ад Рудзенска. Фашысты ўсюды пакінулі разбурэнне, смерць, шыбеніцы...

Пятро Варакса, які працаваў да вайны дырэктарам райзага ў Рудзенску, выйшаў на вуліцу і бачыць, што да яго дома набліжаецца Марыя Данільчык — сакратар камсамольскай арганізацыі Рудзенскага райвыканкома. Пятро Віктаравіч добра яе ведаў, не раз сустракаў у райкоме камсамола, на пленумах, сходах. І вось Марыю Данільчык сярод белага дня ён сустракае ў Рудзенску!

Абое былі рады сустрэчы. Варакса запрасіў госцю ў дом. Марыя Данільчык паведаміла, што сакратар Рудзенскага падпольнага райкома партыі Пакроўскі выклікае Вараксу на нараду. Месца сустрэчы — у лесе, непадалёк ад Каробавічаў.

Жыхар гэтай вёскі В. Ф. Рагатка, да якога рэкамендавала звярнуцца Данільчык, быў правадніком і сувязным сакратара райкома. Ён узяў на плечы касу, Вараксу даў граблі, і пайшлі да лесу. Выйшлі на паляну, там насустрач — Мікалай Пракопавіч. Павіталіся. Прыселі ў засені маладой кучаравай яліны. Сакратара райкома цікавіла ўсё, што адбывалася ў раённым цэнтры...

Ад сакратара райкома Варакса атрымаў заданне прыглядзецца да людзей, што засталіся ў Рудзенску і навакольных вёсках, скласці спісы членаў партыі, камсамольцаў, савецкіх патрыётаў, актывістаў.

Варакса хутка сабраў патрэбныя звесткі праз добра знаёмых яму людзей. Пазней удалося з гэтых актывістаў стварыць падпольна-дыверсійныя групы.

У хуткім часе падпольшчыкам было даручана правесці дыверсіі на чыгунцы і затрымаць варожыя эшалоны, што ішлі на ўсход, хоць бы на адны суткі. Тыдзень рыхталіся падпольшчыкі да аперацыі. Як-ніяк першая сапраўдная дыверсія!

Групу падпольшчыкаў узначалілі камсамолец Міхаіл Іванавіч Раханскі, акружэнец, старшы лейтэнант. Сярод партызанаў быў удзельнік грамадзянскай вайны Іван Малахавіч Бірала з вёскі Раўнаполле (у Рудзенску перад вайной ён кіраваў кантора па нарыхтоўцы сена), Іван Фёдаравіч Абрамаў — камсамолец, лейтэнант НКВД. Усе яны ведалі адзін аднаго.

Бірала добра арыентаваўся на мясцовасці, дзе вызначылі правесці дыверсію — недалёка ад яго роднага Раўнаполля.

Ноч з 2 на 3 верасня 1941 года выдалася цёмная, па-летняму ціхая, цёплая. Зрэдку даносіўся грукат паяздоў, глуха гулі правады. Ішлі моўчкі. Вось і вызначанае месца дыверсіі. Густое балотнае кустоўе падыходзіць да самага чыгуначнага палатна. Разгорнута, падрыхтавана «зброя» — гаечны ключ, рыдлёўка, малаток, лапа, лом...

І Іван Малахавіч пачаў паціху адкручваць гайкі. Немцы-ахоўнікі, якія начавалі ў чыгуначнай будцы, насцярожыліся. Выйшлі, пастралялі ў адзін бок, у другі. І зноў усё сціхла.

Давялося трохі счакаць. Пасля, адышоўшы далей ад будкі, зноў прыступілі да справы. Не так проста ўдвух зрушыць рэйку з месца! Спачатку хаця б скрануць. Кароткі адпачынак, яшчэ адно намаганне — і рэйка пайшла ўбок. Адсунулі сантыметраў на дзесяць і хутчэй спаўзлі з палатна, рушылі далей ад чыгункі.

Тым часам світала. Абагнуўшы калгасную сядзібу, кінуліся цераз балота, мінулі вёску Астравы. Выйшлі амаль к самаму Рудзенску. Крадком накіраваліся да Біралавага дома.

Неўзабаве пачуўся далёкі паравозны гудок, прыглушаны перастук колаў.

— Шпарка шыбуе! — усміхнуўся Абрамаў. — Зараз нарвецца на сваё...

І праўда, праз некалькі секунд магутны выбух скалануў наваколле. І ў той жа момант над небасхілам угору ўзняліся клубы полымя, чорнага дыму. Як потым данеслі сувязныя, пад адхон быў спушчаны эшалон цяжкагрузных вагонаў і цыстэрнаў з палівам. На некалькі гадзін спыніўся рух варожых цягнікоў на чыгунцы Мінск—Гомель.

# ДВАЦЦАЦЬ ТЫСЯЧ

Вясной 1943 года, на пачатку сакавіка, мне ўдалося праз даўняга сябрука па інстытуце, падпольшчыка на Мінскім мясакамбінаце Д. Харчанку наладзіць сувязь з народнымі мсціўцамі Слуцкай зоны. Заданні мне перадавала смелая сувязная-разведчыца брыгады імя Ракасоўскага і Мінскага падпольнага абкома партыі камуністка Настасся Фамінічна Верамейчык. Да Вялікай Айчыннай вайны яна працавала ў медыцынскім інстытуце, выкладала асновы марксізму-ленінізму. У першыя дні акупацыі наладзіла сувязь з падпольнымі партыйнымі арганізацыямі і партызанскімі групамі. Арганізоўвала явачныя кватэры, тайнікі са зброяй, вопраткай, абуткам, даставала для партызанскіх атрадаў медыкаменты, перавязачныя сродкі, распаўсюджвала савецкую літаратуру, лістоўкі, арганізоўвала дыверсіі ў стане ворага. Гэтая смелая, мужная жанчына знішчыла шмат гітлераўцаў. Мне было даручана збіраць у Мінску самыя розныя звесткі пра ворага: дзе размяшчаюцца ў горадзе нямецкія воінскія часці, іх колькасць, узбраенне, умацаванні, вызначаць размяшчэнне варожых аб'ектаў: склады боепрыпасаў, прадуктаў, вывучаць людзей, якія працуюць на фашыстаў. Ды ці мала абавязкаў у падпольшчыка, які працуе ў тыле ворага? Стараўся выконваць заданні хутка і добрасумленна, бо ведаў, што ўсе гэтыя звесткі вельмі патрэбны партызанам.

Па заданню Мінскага абкома партыі, якое перадала Верамейчык, мы, падпольшчыкі, павінны былі праводзіць палітычную агітацыйную работу сярод патрыётаў Мінска, збіраць грошы ў фонд абароны Радзімы.

З вялікім стараннем уключыўся ў збор сродкаў на пабудову самалётаў і я. Гутарыў з рабочымі, галоўным чынам маладымі, камсамольцамі, з удзельнікамі грамадзянскай вайны і Кастрычніцкай рэвалюцыі. Вядома, з кожным пасобку. І, трэба сказаць, ніхто не адмаўляўся падпісацца і зрабіць пэўны ўзнос. Людзі выказвалі поўны давер і радасць, што Савецкі ўрад і партыя звяртаюцца да іх за дапамогай, каб хутчэй разграміць ненавіснага ворага.

За кароткі тэрмін мне ўдалося сабраць дваццаць тысяч рублёў і перадаць іх Н. Ф. Верамейчык.

# ПАТРЫЁТ-КАМУНІСТ

Нас, зняволеных 86-й камеры, разам з астатнімі вязнямі паліцаі выгналі раніцой «на шпацыр» у двор мінскай турмы. Гэта было ў красавіку 1944 года. Лёгкі мароз сцягнуў за ноч лужынкі, прыемна дыхаецца. З-за хмар нясмела выглядвала сонца. Я ледзь паспяваю за калонай, клыпаючы ззаду. Раптам мой позірк спыняецца на чалавеку з пустым рукавом. «Няўжо гэта ён?» — прамільгнула думка ў галаве. Ад нечаканай сустрэчы аж спыніўся, і паліцай балюча штурхнуў прыкладам у спіну. Няўцямна клыпаю далей па крузе. І раптам адчуваю, як лёгкім дотыкам чалавек крануў мой локаць і ціха сказаў: «Хадзем, Пецяі». Так, гэта быў мой старэйшы таварыш па падполлі, камуніст Аляксандр Якаўлевіч Платаіс. А. Я. Платаіс быў у атрадзе латышскіх чырвоных стралкоў і прымаў удзел у барацьбе з ворагамі рэвалюцыі. Пасля гэтай сустрэчы я заўсёды імкнуўся стаць у калону, у якой быў Платаіс. За дваццаць пяць хвілін «шпацыру» мы паспявалі шэптам перамовіцца. Гэтыя сустрэчы мацавалі мой дух, узнімалі настрой.

Лёс звёў мяне з гэтым выдатным патрыётам, смелым і чэсным чалавекам у кастрычніку 1941 года, калі працаваў я на дражджавым заводзе ў Мінску.

Аляксандр Якаўлевіч меў не закончаную вышэйшую адукацыю, добра ведаў нямецкую мову. Падпольная група, арганізаваная ім на Пушкінскім пасёлку ў першыя ж дні вайны, выконвала самыя розныя заданні. Праз сваіх людзей Платаіс перадаваў Заслаўскаму і Лагойскаму райкомам партыі здабыты ў друкарні, пад носам у немцаў, шрыфт, газетную паперу, фарбу.

Потым я даведаўся больш падрабязна пра жыццёвы шлях адважнага патрыёта-камуніста. Нарадзіўся ён у 1904 годзе ў Рызе. Бацька быў рабочым-чыгуначнікам. У трынаццаць гадоў хлапчуку давялося пайсці на работу ў слясарную майстэрню, каб неяк дапамагаць сям'і. Першая імперыялістычная вайна пагнала Платаісаў, як і многія рабочыя сем'і Рыгі, у бежанцы.

У 1922 г. юнак уступіў у камсамол. Працаваў сакратаром ячэйкі, прапагандыстам на шклозаводзе непадалёк ад Гомеля, а затым сакратаром Рэчыцкага райкома камсамола, загадчыкам планавага аддзела Дубровенскага райвыканкома, намеснікам старшыні Лагойскага райвыканкома. Вайна заспела яго, эканаміста Белдзяржбуда, у Мінску.

З першага ж дня акупацыі Аляксандр Якаўлевіч пачаў выконваць заданні Мінскага падпольнага гаркома партыі. Ажыццяўляў сувязь з Лагойскім падпольным райкомам партыі. Кіруючы адначасна дзейнасцю вялікай групы падпольшчыкаў, выконваў заданні партызанаў, перапраўляў у лес вызваленых ваеннапалонных.

Гэтага чалавека не маглі не заўважыць фашысты. Нават нічога не ведаючы пра яго падпольную работу, узялі на падазрэнне. Першы раз арыштавалі ўлетку 1942 года. Трымалі ў турме тры дні, але, не маючы ўлік, вымушаны былі вызваліць. У 1943 годзе Аляксандра Якаўлевіча зноў арыштавалі — пасля выбуху, які адбыўся ў Доме друку. Фашысты дапытвалі яго трынаццаць дзён, але так і не займелі матэрыялаў для абвінавачвання. Дарэчы, Платаіс, добра валодаючы нямецкай моваю, умела абараняўся і ўдала абыходзіў расстаўленыя на допытах пасткі.

Трэці раз Платаіса фашысты арыштоўваюць 13 студзеня 1944 года, на гэты раз — разам з жонкай Марыяй Яфімаўнай Сіўцовай і семнаццацігадовым сынам Уладзімірам.

Ні зверскія катаванні, ні канцлагер у Мінску, ні высылка ў лагер смерці Дахау не зламалі волі і мужнасці камуніста М. Я. Сіўцовай, маладога падпольшчыка Уладзіміра Платаіса. Тым больш — самога А. Я. Платаіса, хаця да яго фашысты прымянялі асабліва жорсткія, нечалавечыя катаванні.

Успамінаючы пра незабыўнага Аляксандра Якаўлевіча, яго верная сяброўка Марыя Яфімаўна, якой цудам удалося выжыць, расказвала пра мужа:

— Саша, як помню яго з маладосці, не разлучаўся з кнігай і газетай — гэтак яму ўсё хацелася ведаць. Ён прачытаў тысячы кніг савецкіх і замежных аўтараў. Асабліва яго цікавілі замежныя мовы, якія яму надзвычай лёгка даваліся. Саша добра размаўляў, чытаў і пісаў на нямецкай, англійскай, італьянскай, польскай, не гаворачы пра латышскую, беларускую і рускую мовы. Ён заўсёды вучыўся. Ужо напярэдадні вайны, працуючы эканамістам, закончыў васьмімесячныя курсы нямецкай мовы пры педінстытуце імя Горкага і двухгадовы факультэт замежных моў двухгадовага настаўніцкага інстытута. Яму хацелася стаць выкладчыкам замежных моў. Нямецкую вывучаў яшчэ і для таго, каб у арыгінале прачытаць выдатныя творы К. Маркса і Ф. Энгельса.

Аляксандр Якаўлевіч Платаіс свята верыў у перамогу Савецкай Арміі і сэрцам чакаў яе, ён стаў мне маральнай апорай і ўзорам у змаганні з чужынцамі.

**Пятро КАРПЕКА.**

★★★★★★★★★★★★

## ДЫЯГАНАЛЬ

Шашачны аддзел вядзе заслужаны трэнер БССР Аркадзь **РАКІТНІЦКІ**

## «ШУКАЙ ЭЦЮД У ПАРТЫІ»

Такі дэвіз надаў свайму эцюду міжнародны майстар М. Шавель, які ў 1952 годзе на першым усебеларускім конкурсе па шашачнай кампазіцыі атрымаў першы прыз.



Выйгрыш.

## ЗАЎСЁДЫ Ў СТРАІ

Лёс не песціў яго — загінуў на фронце бацька, і 11-гадовы Макс з маці вяртаюцца ў зруйнаваны Мінск. З вялікімі цяжкасцямі знаходзяць па вуліцы Мяснікова прытулак — маленькую каморку. Маці ўладкавалася на працу, а Макс Шавель пайшоў вучыцца ў 44-ю сярэднюю школу. У 1946 годзе Макс наважыўся паступіць у шахматны гурток Палаца піянераў, але, выпадкова трапіўшы на заняткі шашачнага гуртка, настолькі зачараваўся нечаканымі па задуме і бляску камбінацыямі, што свой лёс адразу ж вырашыў звязаць з шашкамі.

Настойлівы, не па ўзросту сур'ёзны хлапчук праз год становіцца чэмпіёнам Мінска, а з 1948 года — нязменным чэмпіёнам рэспублікі. Патрабавальнасць да сябе, крытычны падыход да кожнай партыі, жаданне як мага лепш правесці яе прынесяць свой плён — з 1949 года М. Шавель не ўступаў звання чэмпіёна сярод юных шашыстаў СССР, аж пакуль не перайшоў у катэгорыю дарослых. І тут ён таксама дамагаецца выдатных поспехаў. 22-гадовы шашыст першы ў рэспубліцы заваёўвае званне майстра спорту.

Пазнаёмцеся з партыяй М. Шавеля, якую ён выйграў у А. Юрасава чорнымі на адным з паўфіналаў першынства краіны.

1. c3—b4 f6—e5 2. e3—f4 e7—f6 3. b4—a5 f6—g5 4. b2—c3 g5 : e3 5. d2 : f4 d8—e7 6. c1—d2 e7—f6 7. d2—e3 b6—c5 8. a1—b2? (гэты ход дазволіў М. Шавелю правесці прыгожую камбінацыю. Тут белым трэба было працягваць 8. c3—b4).



Далей — ход: 8. ... h6—g5! 9. f4 : h6 e5—d4! 10. c3 : e5 d6 : d2 11. e1 : c3 c5—b4 12. a3 : c5 c7—b6 13. a5 : c7 b8 : d2.

Спалучаючы выступленні ў многіх адказных спаборніцтвах, Макс паспяхова заканчвае Беларускі лесатэхнічны інстытут, а праз некалькі гадоў і політэхнічны інстытут, становіцца інжынерам-канструктарам. Адначасова ён займаецца і складаннем канцовак, эцюдаў, рыхтуе да друку (разам з А. Ракітніцкім) кнігу «Шашки в БССР», якая выйшла ў 1959 годзе.

На пачатку пяцідзесятых гадоў М. Шавель захапіўся міжнароднымі шашкамі і хутка дасягнуў бліскучых поспехаў: амаль 15 гадоў ён нязменны прызёр чэмпіянатаў СССР, неаднаразова выступаў за мяжой у складзе зборнай каманды краіны ў матчах і міжнародных турнірах. Яму — зноў-такі першаму ў рэспубліцы — прысуджаецца званне міжнароднага майстра. 13 разоў ён быў чэмпіёнам рэспублікі па міжнародных шашках.

Падаём партыю з міжнароднага турніра, у якой М. Шавель перамог чэмпіёна Італіі Э. Фанеллі.

1. 32—28 18—23 2. 38—32 12—18 3. 31—27 7—12 4. 43—38 17—21 5. 37—31 23—29 6. 34 : 23 18 : 29 7. 33 : 24 20 : 29 8. 40—34 29 : 40 9. 45 : 34 21—26 10. 38—33 26 : 37 11. 42 : 31 11—17 12. 31—26 1—7 13. 41—37 7—11 14. 47—42 15—20 15. 46—41 10—15 16. 48—43 5—10 17. 43—38 20—25 18. 49—43 15—20 19. 27—21 16 : 27 20. 32 : 21 20—24 21. 37—32? (тут беларускі майстар ажыццявіў эфектную камбінацыю. Белым варта было гуляць 21. 44—40). Адбылося вось што: 21. ... 12—18! 22. 21 : 23 24—29! 23. 33 : 24 19 : 30 24. 35 : 24 13—19 25. 24 : 13 9 : 49. Белыя здаліся.

За гэтую партыю Максу Шавелю быў прысуджаны спецыяльны прыз.

Нядаўна нястомнаму беларускаму спартсмену, члену прэзідыума федэрацыі шашак Максу Шавелю споўнілася 50 гадоў. Пажадаем жа майстру новых поспехаў у шашачнай гульні, у грамадскай рабоце і жыцці.

## ПРАВЕРЦЕ СВАЕ АДКАЗЫ

(Гл. «Беларусь» № 1)

1. d8—h4 f2—e1 (на 1. ... f2—g1 будзе 2. h4—f2) 2. h6—g7 e1—c3 (калі 2... d4—e3, то 3. g7—c3 і белыя выйграюць) 3. a5—b6 a7 : c5 4. g7—e5 і 5. h4 : d2 з выйгрышам. Правільнае рашэнне даслалі: А. Бараноўскі, У. Івашын, Ю. Марквардэ, У. Шумскі, А. Саўчык.

## КРАСВОРД

Склаў Мікалай **КУРЫЛЬЧЫК**.



П А Г А Р Ы З А Н Т А Л І: 5. Лінія падзелу. 6. Арэна цырка. 9. Беларускі народны танец. 11. Паўвостраў у Паўночнай Амерыцы. 13. Будаўнічы матэрыял. 15. Першы зборнік лірыкі П. Глебкі. 16. Палявая кветка. 17. Тканіна для вышывання. 20. Начальнік войска на тэрыторыі Старажытнай Русі. 22. П'еса Я. Купалы. 23. Сталіца АССР. 28. Сузор'е. 29. Каштоўны метал. 30. Беларускі савецкі паэт. 32. Павукападобная ядавітая жывёліна. 34. Карзіна паветранага шара. 36. Лясная птушка. 38. Кіраўнік сялянскага паўстання ў Беларусі ў XVII стагоддзі. 39. Ваенны канвой, ахова. 40. Персанаж п'есы К. Крапівы «Партызаны». 41. Хваёвае дрэва.

П А В Е Р Т Ы К А Л І: 1. Ядро атама вадароду. 2. Мінерал, разнавіднасць агату. 3. Французскі пісьменнік-рэаліст. 4. Пустазелле. 7. Сталіца еўрапейскай дзяржавы. 8. Палажэнне, якое прымаецца без доказу. 10. Травяністая расліна, насенне якой выкарыстоўваецца як прыправа. 12. Горад на Магілёўшчыне. 14. Беларуская паэтэса. 18. Аўтаномная рэспубліка. 19. Горад у Комі АССР. 21. Прыток Куры. 22. Дакумент аб страхаванні. 24. Селянін-араты ў народнай паэзіі. 25. Народны артыст СССР. 26. Украінскі народны музычны інструмент. 27. Стыль плавання. 31. Хімічны элемент. 33. Скопішча пладоў або кветак на галінцы. 35. Апытальны ліст. 36. Гідратэхнічнае збудаванне. 37. Значок пераносу слоў.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД «ПРЫРОДА», ЗМЕШЧАНЫ Ў № 8

П А Г А Р Ы З А Н Т А Л І: 3. Авечка. 6. Куніца. 8. Капуста. 9. Марал. 10. Голуб. 11. Антонаўка. 14. Калан. 18. Бурак. 20. Саксаул. 21. Кабарга. 22. Алешына. 23. Кашалот. 25. Бакас. 26. Верас. 31. Альбатрос. 33. Кобра. 34. Філін. 35. Яшчарка. 36. Арахіс. 37. Рабіна.

П А В Е Р Т Ы К А Л І: 1. Перац. 2. Лімон. 3. Абабак. 4. Акунь. 5. Турнэпс. 6. Качка. 7. Агурок. 12. Шаўкапрад. 13. Мурашкаед. 15. Андатра. 16. Малачай. 17. Пузанок. 19. Апенька. 24. Аргамак. 25. Бяроза. 27. Суніца. 28. Альяс. 29. Водар. 30. Арлан. 32. Фінік.

**Н**а дварэ пякучы мароз, гуляе завіруха, а заядлы грыбнік (не нейкі там аматар, а прафесіянал!) рыхтуецца да грыбнога сезона. Ён загадзя пазначае на самаробнай карце маршруты будучых паходаў, тое-сёе набывае для поўнай экіпіроўкі.

Грыбнік-прафесіянал, у адрозненне ад аматара, ведае, што, акрамя апенек, грыбы на дрэвах не растуць, ведае, у якіх мясцінах атабарыліся баравік і лісічкі, махавік і грузд. Таму нашы парады адрасаваны аматарам, якія, трапіўшы ў лес, ідуць абы-куды, марнуюць час і, у рэшце рэшт, запаўняюць кошыкі і вёдры лісцем, мохам, прыкрываючы іх зверху мухаморамі.

Алесь МАКОЎСКІ

ГУМАРЭСКА

# ПАРАДЫ ГРЫБНІКАМ



Парады распрацаваны з улікам дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, працэсу ўрбанізацыі і, вядома ж, дзеючымі законамі аб ахове прыроды.

Пачнём з маршрутаў. Для малавопытных грыбнікоў рэкамендуем тры. Першы — працягласцю 250, а можа, і болей кіламетраў: Мінск — Талька — Татарка — Сасновы Бор...

Калі ў вас залатая цешча і купіла вам у падарунак «Жыгулі» — з Мінска выязджайце як мага раней, пакуль не прачнуўся сусед і не папрасіўся ўзяць яго з сабой. Не даязджаючы 100 км да Талькі, звярніце ўлева. Метраў за 100 ад дарогі ўбачыце на пастаменце бронзавы баравік. Бо апошні лясны, натуральны, з карычневай шапкай на пругкай, тоўстай ножцы быў знойдзены ў гэтых мясцінах гадоў дзесяць назад. Пакладзіце да пастамента кветкі, якія вы купілі загадзя на Камароўскім базары, бо кветак тут цяпер таксама няма — павыдзіралі з карэннем. Цяпер смела можаце перакусіць.

Далей на машыне ехаць не раім. Пастаўце яе на ўзлеску і пакіньце жонку — хай вартуе «Жыгуля». Каб не было сумна, яна можа штонебудзь вязаць ці вышываць.

Барані божа далёка адыходзіцца ад машыны! Грыбоў усё роўна не знойдзеце, а заблудзіцца — як піць даць. Каб гэтага не здарылася, крычыце, галасіце, дазваляецца свістаць і нават енчыць. Жонка ў адказ вам павінна беспярынна сігналіць.

Доўга па лесе не блукайце. Вам жа трэба яшчэ ехаць далей. Памыйце машыну. Зноў добра перакусіце. Не абцяжарвайце сябе рознымі дробязямі: збіраннем паперак, бляшанак з-пад кансерваў — пасля вас хоць патоп...

Будзеце ехаць да Татаркі — можаце захапіць спадарожных пасажыраў і падкінуць іх да Бабруйска — пяцёрка ці дзесятка на дарозе не валяюцца. У Бабруйску купіце граблі, сахар і адразу ж кіруйце ў Сасновы Бор. Тут у лесніка пакіньце машыну, папрасіце ў яго каня і плуг. Усё гэта неўзабаве спатрэбіцца. Па лесе не хадзіце хутка, не бегайце. Вы прыехалі ў грыбы, а не здаваць нарматывы ГПА. Убачылі кучу лісця ці моху, як бы прыўзнятую знізу,— гэта, напэўна, лісічкі ці грузд. Пускайце наперад жонку з граблямі. Бо поўзаць на карачках і разграбаць мох рукамі ў наш век НТР непрадукцыйна. Граблямі куды лацвей. Сахаром складвайце мох у копы.

Скончыўшы з гэтай работай, запрагайце каня. Цяпер пераарыце плугам увесь участак. Граблямі пабарануйце і пасадзіце клубнічку, памідоры, агурочкі і г. д. Участак абгарадзіце высокім плотам, зрабіце будку для сабакі. Засталося толькі скідаць невялічкі дамок — і будзе дача, аб якой вы гэтак марылі.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

## *Крыўда старога Пегаса*

Пырнічак скубу на ўзмежку рэдкі.
Што такое стала з літбратамі!
Ледзь не ўсе паэты і паэткі
Скакункоў жалезных забрыталі.

Засталося толькі з іх дзвіццца,
Засталося толькі ўслед жагнацца:
За такой стрыгункай-жыгуліцай,
Як ні жыльця,
Мне ніяк не ўгнацца!

Так ірвуць —
Ажно трашчаць пастронкі!
Зухі-ездакі ўсе — экстра-класа...
Як суддзя той,назіраю гонкі
Ад варот СП і да Парнаса.

Хто каго да ўзбочыны адціснe!
Хто каго, як навічка, абставіць!
Можа, час настаў, і ўжо не лішне
Ля Парнаса пост ДАІ паставіць?..

## З-ПАД КАПЫТА ПЕГАСА

Цімох ДЗЕРАЗА

### *Неачышчаныя зярняты*

Я засяваў
Зяроны ў баразну...
Прашу, хутчэй мне ачышчай нутро...

Кастусь ЖУК.

Пасерпленым пакінуў я шнуро
Свайго зеленаграйнага выдання.
Мне наўздагон рассыпаў звон жаўро
І горкім плачам рэхчалася каня.
А ты, чытач, ад звераду не плач:
Ад слёз тваіх не будзе мне карысці.
Даўмей узяцца лепей за таўкач,
Ад шкарлупо зяроны мне ачысці.

## У ПАЛАТЫ САКРАТА

● У тых, хто палюе, тонкі нюх, востры зрок, шырокія крылы, моцныя кіпцюры, хуткія ногі. А аблавухі заяц жыруе — яго шэрасць выручае.

● — Гнуткасць — гэта найперш ломкасць,— павучаў складны метр.

● Гармонія старасці: сіла слабее, затое слабасць узмацняецца.

● — Мы не апельсіны,— ганарыліся журавіны,— паспрабуй журавіны падзяліць на палавіны.

● Стыль мэблі: сучасная старажытная.

Марцін КОЎЗКІ.

# У СПАБОРНІЦТВЕ З САБОЙ



Ведаю Наталлю Кажамякіну на працягу столькіх гадоў, што гаварыць пра яе творчасць нялёгка. Яе творчасць спалучаецца ў маім уяўленні з самымі рознымі — шматлікімі — асабістымі ўражаннямі: з Кажамякінай-школьніцай, з Кажамякінай — студэнткай БДУ, з Кажамякінай-геолагам, такой нязвыкла новай для мяне. Яе ж захапленне скульптурай малых форм не проста здзіўляла, ашаламляла: першыя крокі — трыццаць шэсць работ — за адзін год! Падорыць статуэтку каму-небудзь з сяброў — радуецца...

Вось і ў маім доме жывуць яе работы. Застаючыся з імі (а гэта ж зусім невялікая частка калекцыі) сам-насам, спрабую вызначыць, у чым іх адметнасць, і не магу. Гэтыя скульптуры не маюць знешняга падабенства з аўтарам, і ўсё ж яны — сама Наталля Кажамякіна. Поўнач і поўдзень. Туман і сонца. Творчасць і спісванне ў самой прыроды.

Можна сказаць, што Кажамякіна — прыроджаная армянка? Так, па маці яна — армянка. Але яна — і самая што ні на ёсць беларуска! І ўжо не столькі па кроўнай роднасці, колькі таму, што вырасла, жыве на гэтай зямлі ўсё сваё свядомае жыццё.

Можна адзначыць, што ёй уласціва схільнасць, больш!— любоў да дэкаратыўнасці поз? Так, але ў гэтым хутчэй прачытваецца недавер да цяжкага тэхнічнага поступу нашага стагоддзя, такі характэрны для многіх сягоння.

Працуе Кажамякіна хутка, стварае цэлыя серыі работ. Часам гэта проста варыяцыі — варыянты адной скульптуры, калі ідзе настойлівы пошук рашэння. Часам — імкненне нейкім чынам адысці ад сябе, ад раней знойдзенага. Рэзала па дрэве — стала займацца керамікай. Ад рэчаў чыста прыкладнога характару перайшла да партрэта ў гіпсе ці гліне.

Нельга не здзіўляцца працаздольнасці Наталлі. Яна сур'ёзна займаецца навукай. І радасна ідзе на сустрэчы з самымі рознымі людзьмі. І не адмаўляецца ад прыхільнасці сваёй да кіно і тэатра. І сочыць за кніжнымі навінкамі. А за ўсім жа — аграмадная любоў да мастацтва.

Яе скульптуры назваць немагчыма, гэтак жа, як і апісаць. Можна толькі гаварыць аб тым, што ў гэтых маленькіх скульптур мужны твар. Зірніце на кажамякінскую маску, лінейную варыяцыю чалавечага твару, вылепленую так, як твар палавінкінага сына,— параўнайце яе з двума партрэтамі ў дрэве, з выразамі твараў на гэтых партрэтах. Паміж так па-рознаму ўвасобленых партрэтаў нібыта ляжыць цэлае жыццё. І гэтым прамежкавым жыццём адмерваецца час.



Партрэт у падабенстве? Не, але і ў ім... Гэта твар мужнага чалавека, твар не як ён ёсць, а як ён урэзаўся ў дрэва. Гэта — унутраная мужнасць «па той бок занатаваных падабенстваў», і яна ёсць ва ўсіх партрэтах Наталлі Кажамякінай. Рэальнасць ім надае тое, што твар, фактычна незавершаны, ва ўсіх унутраных адносінах — дасканалы. І можна толькі здагадвацца, як шмат прыхавана ад нас за знешнім воблікам: і бяссонныя думкі, і сумненні, і пакуты...

Не, не ствару я яе партрэта, няхай прабачыць мне чытач. Хіба я скульптар? Лепш завяршу гэтую старонку невялікім інтэрв'ю з самой Наталляй:

— Як ты пачала працаваць з дрэвам?

— Вырасла. Вельмі хацелася зрабіць штосьці добрае людзям. Зрабіць менавіта сваімі рукамі. Поўнасцю сваё.

— Ці былі ў цябе нядобразычліўцы?

— Інакш не бывае.

— А поспехі?

— Я рабіла тое, што хацела.

— А сябры?

— Яны прымаюць мяне поўнасцю і пастаянна.

— А каханне?

— Ты ж ведаеш: пра гэта не гавораць...

— Але ты скульптар?

— Скульптар. Калі я працую.

Ала ПАКРОЎСКАЯ.






# ІНТЭРВ'Ю НА ГРЫБНОЙ ПАЛЯНЦЫ

Вось і надышла пара, калі заядлыя грыбнікі, здаецца, зусім не спяць. За кошык—і ў ранішні лес. Іду і я. Не адна, а з такім незвычайным грыбніком, як кандыдат біялагічных навук Галіна Іванаўна Сяржаніна, аўтар многім вядомай кнігі «Макраміцэты». У лес яна збіралася, як Шэрлак Холмс—захапіла з сабою лупу, нож, празрыстыя цэлафанавыя кулёчкі, шкалу колераў, лінейку, блакнот, ручкі, нарэшце, паперкі для этыкетак—будучых «пашпартоў» знойдзеных грыбоў.

Для нас існуюць толькі баравікі, грузды, лісічкі, падасінавікі, падбярозавікі... Для Сяржанінай—яшчэ і маленькія далікатныя веярочкі, і мудрагелістыя рагатыя кусцікі. Разложыць яна свае знаходкі—і сустрэчная гаспадыня, якая ўсё жыццё каля лесу пражыла, толькі рукамі разводзе: «Няўжо гэта ўсё ў нашым лесе вырасла, няўжо гэта грыбы?»

— Тое, што мы збіраем у кошыкі,—толькі маленькая часцінка грыбнога царства,—расказвае Галіна Іванаўна.—Сярод грыбоў ёсць падобныя на вялізны кавун, а ёсць такія, што толькі ў мікраскоп убачыш. Адны жывуць у глебе, другія ў вадзе, трэція—нават у вадкім паліве. Цвіль на хлебе—гэта грыб, цьмяныя плямы на сцяне, сапсаваныя кансервы, гнілыя яблыкі, зялёны сыр—усё гэта таксама грыбы. Людзі навучыліся выкарыстоўваць іх у вытворчасці хлеба, піва, сыру, кефіру, лекавых сродкаў, кармоў для жывёлы, у прыватнасці, таго ж сіласу...

Даследчыкамі апісана больш за 80 тысяч грыбоў. Добрая тысяча з іх расце ў Беларусі, і звыш як 200 грыбоў з гэтага мноства—ядомыя.

Ніводная расліна не расце гэтак хутка, як грыб. Варта кранууцца грыбніцы ў рост, як праз тры гадзіны ўжо вылазіць з-пад моху ці прэлага лісця малюсенькі грыбок... Яшчэ суткі—і крамяны прыгажун просіцца ў кошык. Век грыба кароткі—часу прырода адпускае яму столькі, каб выспелі споры. Грыбы з сухой мякаццю жывуць болей, а чага нават дзесяць, а то і больш гадоў. Імкліваму развіццю грыбоў спрыяюць цяпло і вільгаць. А вось рэзкія ваганні тэмпературы, засуха або, наадварот, зацяжныя дажджы могуць зусім спыніць рост грыбоў.

...Вось і першая знаходка—вялізны пень, густа аблямаваны апенькамі. Галіна Іванаўна зрэзала толькі некалькі.

— Вельмі смачны, духмяны грыб, а адносяць яго да класа паразітаў,—тлумачыць яна.—Паражае каля двухсот відаў дрэў і кустоўнікаў. Апанаваўшы маладзенькі хвойнік, можа загубіць яго за дватры гады. Але, на шчасце, апенькі часцей аблюбоўваюць пні, жывячыся нежывой драўнінай.

— Скажыце, а на якія карысныя рэчывы багатыя грыбы?

— На розныя арганічныя і мінеральныя злучэнні. Бялку ў іх значна больш, чым у гародніне, а ў высушаных баравіках нават больш, чым у мясе. Ёсць у грыбах і каштоўны тлушч (дарэчы, больш у шапачках, чым у ножках). З вугляводаў у грыбах знайшлі глікаген, альбо жывёльны крухмал. Гэта загадка грыбнога свету, бо ў іншых раслінах глікагену няма. Не бедныя грыбы і на мікраэлементы: утрымліваюць калій, фосфар, магній, натрый; кальцый, жалеза, серу, хлор.

...Раптам наша размова перапынілася. Мох на маленькай палянцы здратаваны, навокал пазбіваныя, патрушчаныя валуі, мухаморы...

— Відаць, няўцям было нейкаму гора-грыбніку, што грыбамі гэтымі кормяцца ласі, мядзведзі, алені, вавёркі. Іх дзяўбуць глушцы, цецерукі, курапаткі, сойкі,—гаворыць Сяржаніна.— Тым жа мухаморам многія лясныя насельнікі лечацца... Не падабаецца грыб—не чапай яго, бо ў прыродзе няма нічога лішняга, непатрэбнага...

Вось так бяздумна парушыць лясную сістэму можна за лічаныя хвіліны, а каб аднавіць яе, прыродзе спатрэбіцца мінімум дваццаць гадоў.

— Які ж лес самы шчодры для грыбніка?

— Змешаны бярозавы, яловы і сасновы, а бядней за ўсіх— лісцьвяны гай. Рыжыкі растуць часцей у маладняку і новых хвойных пасадках. Хвойнік з рэдкімі бярозамі любяць маслякі. Нарэзаць іх паўнюткі кошык—гэта грыбная «проза». Баравікі ж хаваюцца там, дзе чарнічнік, верас, мурашнікі, чырвоныя мухаморы і жоўтыя валуі. Растуць толькі ў старых лясах,—у дубровах, барах, пераважна ў нізінах. Калі бачыце, што сярод елак стаяць разгалістыя бярозы,—спяшайцеся да іх: можна натрапіць на неруш.

Калі восень цёплая і дажджлівая, то ў наступным годзе можна чакаць добрага ўраджаю грыбоў. Звычайна ён выпадае раз у чатыры гады.

— Галіна Іванаўна, відаць, у вас ёсць і іншыя парады грыбнікам...

— Па-першае, трэба захапіць з сабой палачку з развілкай на канцы, каб не давялося лішні раз кланяцца, бо грыбы хаваюцца ад вока то пад лісток, то пад грыўку травы, то пад галінку. Збіраючыся ў лясны паход, трэба апрануцца адпаведна: там і ранішняя раса, і калючыя галінкі...

Не варта гойсаць па лесе з канца ў канец. Зрэзаў адзін грыб—патупай вакол, пашукай: многія грыбы растуць кампаніямі, асабліва грузды, рыжыкі, зялёнкі... Класці іх лепш у кошык—у вядры ім не хапае свежага паветра, яны «гараць». А прынеслі грыбы дадому—адразу пасарціруйце, абчысціце і перапрацуйце. На жаль, бытуе погляд: каб адрозніць ядомы грыб ад ядавітага, трэба яго панюхаць. Калі пах прыемны—можна і ў кошык пакласці. Гэта не так. Напрыклад, бледная паганка мае пах шампіньёна. Не варта верыць і таму, што ядавітых грыбоў не ядуць смаўжы і слімакі. Самае надзейнае—добра вывучыць знешнія прыкметы па даведніках грыбоў.

— А як лепш назапашваць грыбы, каб яны былі на стале ўвесь год?

— Для сушкі, марынавання, салення прыдатныя толькі свежасабраныя маладыя грыбы. Старыя, чарвівыя трэба без жалю выкідваць. Бо нават падасінавік, калі ён перарос, можа быць атрутны. У зялёнак, апенек, маслякоў, валуёў, ваўнянак трэба абрэзаць ножкі, бо яны грубыя і нясмачныя. Баравікі, падасінавікі і падбярозавікі лепей сушыць. Мыць іх не трэба—даволі ачысціць ад пяску і лісця. Ножкі сушыць асобна, парэзаўшы на папярочныя долькі. Спачатку варта падсушыць грыбы 2—3 гадзіны пры тэмпературы 40—50 градусаў, а потым ужо дасушыць. Не бядуйце, калі перасохлі—сатрыце на парашок, ссыпце ў слоік з накрыўкай (прыдадуцца для прыгатавання розных падліваў).

Усе віды пласцінiстых грыбоў лепш саліць. Вымочваць валуі, грузды трэба 3—5 дзён, мяняючы ваду, а рыжыкі можна і зусім не вымочваць, каб не згубілі яны свайго водару. Потым кладзіце грыбы шапачкамі ўніз, перасыпаючы кожны пласт соллю. На дно кадушкі і паверх грыбоў пасыпце перац, лаўровае лісце, чорных парэчак, часнок, кроп, гваздзікі. Прыцісніце грыбы зверху гнётам, толькі не бярыце для гэтага цэглу, вапнавыя камяні. Вось і ўвесь рэцэпт халоднай засолкі.

Ёсць мноства спосабаў марынавання грыбоў. Раскажу аб адным, найбольш надзейным. Злёгку адварыце грыбы ў салёнай вадзе, раскладзіце па слоіках і заліце астуджаным марынадам. Гатуюць яго так: на палову літра вады—адна чайная лыжка солі, 6 гарошын перцу, лаўровае лісце, карыца, гваздзікі, крышачку (на кончыку нажа) лімоннай кіслаты. Пракіпяціце марынад на слабым агні 20—30 хвілін, дадайце воцат. Пастэрызуйце грыбы ў слоіках 20—25 хвілін, і можна закупорваць іх.

Духмяныя грыбы дарэчы на любым стале, тым болей на святочным.

...Выходзім з лесу. Заглядваю ў свой кошык—на дне ўсяго некалькі апенек. А ў Галіны Іванаўны—паўнюткі, чаго ў ім толькі няма! Яна жартуе: гэта ж яшчэ толькі разведка была. Што ж, і ад разведкі такой прыемнасць і карысць вялікая. І зусім не бяда, што амаль пусты мой кошык. За тое як шмат новага даведалася я пра грыбы—такія знаёмыя і такія таямнічыя—на гэтых лясных палянках.

**Лілія ЛАМСАДЗЕ.**



Фота Генадзя **БЯЛІЦКАГА** (Віцебск) і Авеніра **ЮШКО** (Барысаў).



102



Наталля КАЖАМЯКІНА. Матэрыял «У СПАБОРНІЦТВЕ З САБОЙ» чытайце на 35-й стар.
Фота Ю. ІВАНОВА.

Цана 35 кап. Індэкс 74820

«Беларусь», 1983, № 9, 1—36.